# СЛЕД ЧОРНАГА ВЕТРУ

***вачыма дзяцей***

БЕЛАРУСКІ
САЦЫЯЛЬНА-ЭКАЛАГІЧНЫ САЮЗ "ЧАРНОБЫЛЬ"
МІНСК 1995

ББК 84 (4Беи)
С 47
УДК 882.6 + 882(476) -053.5-8

Рэдактар-складальнік В.Ц. Якавенка

След чорнага ветру. Вачыма дзяцей/Рэд.-склад. В.Ц.Якавенка; Маст. П.Я.Кухта. — Мн.: БелСаЭС "Чарнобыль", 1995.— 336с:іл.
ISBN 985-6010-04-7

У кнізе змешчаны лепшыя сачыненні школьнікаў Беларусі, дасланыя на конкурс "Чарнобыль у маім лёсе". Напісаны яны ў свабоднай літаратурнай форме на беларускай і рускай мовах.

Кніга разлічана на масавага чытача.

ББК 84 (4Беи)6
С 8820600000
ISBN 985-6010-04-7

# Ад складальніка

*Гэта кніга — дзіва, калі спасцігнуць усю яе сутнасць. Яна напісана дзецьмі таго несуладнага пакалення, якое дапусціла аварыю на Чарнобыльскай атамнай станцыі і якое тушыла радыяцыйны пажар, што нанёс найвялікшыя страты чалавецтву, найперш — беларусам.*

*Кніга напісана дзецьмі тых, хто па волі лёсу апынуўся на забруджанай зямлі, хто выпрабоўваў і працягвае выпрабоўваць на сабе апраменение радыяцыяй.*

*Яна складзена з сачыненняў школьнікаў, якія прынялі ўдзел у конкурсе на лепшы твор, што прайшоў у школах Беларусі ў сакавіку—красавіку 1994 года пад дэвізам "Чарнобыль у маім лёсе". Яго правялі Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз "Чарнобыль" і рэдакцыя газеты "Набат". Пры гэтым ім аказала значную падтрымку і дапамогу Міністэрства адукацыі.*

*Ад органаў адукацыі з розных раёнаў і абласцей у рэдакцыю паступіла больш за 500 сачыненняў. Ад той колькасці ў гэты зборнік трапіла ўсяго пятая частка лепшых з лепшых.*

*Адбіраючы дзіцячыя аповеды, споведзі, вершы для кнігі, рэдакцыя ўлічвала як узрост вучняў, так і іхняе сацыяльнае, можна сказаць, становішча, а таксама меру страт ад чарнобыльскай катастрофы, якія панеслі яны асабіста, іхнія родныя і блізкія. Аднак найважнай умовай пры праходжанні конкурсу заставаліся ўсё ж літаратурныя вартасці, стыль, змест матэрыялу.*

*Кніга афармлена блізкімі да тэмы сачыненняў фатаграфіямі, дзіцячымі малюнкамі. Змешчаны таксама здымкі некаторых аўтараў сачыненняў — не таму, што сачыненні іх самыя-самыя адмысловыя. Жалю варта, але не ўсе прыслалі свае фотакарткі, да таго ж некаторыя прынцыпова прасілі іх фота ў кнізе не публікаваць. Гэта былі дзяўчынкі, будучыя нявесты, жанчыны, і іх зразумець няцяжка.*

***Усе сачыненні друкуюцца на мове арыгінала — беларускай, рускай. Рэдакцыя мае звесткі, што кніга "След чорнага ветру" перакладаецца таксама на японскую і нямецкую мовы.***

*Што ж, скажам ёй: у добры шлях!*

*Таццяна АКУЛЕВІЧ,*
*вучаніца 10-га класа*
*Калінкавіцкай СШ №6*



# Ратуй нас, Божа!

Божа, які ты ёсць на небе, звяртаюся да цябе! Бо вельмі галосіць душа і балюча на сэрцы. Хачу пачуць, Усявышні, за што пакараў ты маю шматпакутную Зямлю-матухну? Чым жа яна вінаватая перад табою?

Галашу і ўспамінаю той дзень, калі я з маці ляпіла градкі ў агародзе, а неба над маімі, патанаючымі ў садовай квецені, Калінкавічамі было блакітнае-блакітнае, сонца ззяла ласкава і пяшчотна, прыносячы асалоду. І не падказаў ты, Божа, што ўсё гэта — і сонца, і неба, і паветра вакол — пасыпана чарнобыльскім попелам. Шаноўны Уладыка, чаму не папярэдзіў ты і І Мая, калі я з маці, узяўшы ў рукі прыгожыя сцяжкі, разам з іншымі дзецьмі і дарослымі ішла на святочную дэманстрацыю, а з неба падала і падала нябачная радыяцыя...

Які жах успамінаць цяпер усё гэта і працягваць жыць сярод стронцыю і цэзію.

Прымі нізкі паклон, Ойча, за тое, што ты пераканаў нашых добразычліўцаў і яны адправілі мяне і шмат такіх, як я, у піянерскія лагеры. Мне было добра ў "Холдрэ", але ж на маёй зямлі заставаліся родныя, блізкія. А хто паклапаціўся пра іх? У чым іх віна?

А ў чым віна Андрэя Паліўнікава, якому нядаўна мы збіралі грошы для аперацыі? А за што прагневаўся ты, Божа, на Андрэя Калацэя, чатырнаццацігадовага сына маёй настаўніцы па фізіцы, які пакутуе ў Бараўлянах ужо другі год? Адкажы, Уладыка, малю цябе, бо нестае больш сілы глядзець на засмучаную маю настаўніцу і на пустую парту ў 9-м "А", што чакае свайго вучня. Дапамажы яму, Госпадзі, ён так любіць сваю малодшую сястрычку і часта сустракаў яе са школы (яна баіцца цемры). Ён так любіць дапамагаць сваёй маці,якая шмат працуе і вельмі стамляецца. Дапамажы яму выжыць, Ойча, выжыць усім, хто хварэе, каго падкасіла радыяцыя, хто спадзяецца ўжо толькі на цябе.

Вялікі дзякуй табе, Божа, што ахоўваеш маю сям'ю ад смяротнага ўздзеяння радыенуклідаў. Мне толькі 16 год. Вельмі цяжка жыць, пазіраючы на пакуты знаёмых, на здзек з маці-зямлі, на неба, ужо не такое блакітнае, якое было раней.

Божа, калі ты ёсць на свеце, зрабі так, каб па-ранейшаму весела спявалі птушкі, каб ішоў спорны дождж на палеткі, калі яны просяць піць, і дождж быў без стронцыю, каб суседзі-пенсіянеры зноў спявалі "Шумяць вербы каля грэблі" ці "Ой, аралі хлопцы ніву", сабраўшыся вечарам на лавачцы каля хаты маёй бабулі, а не пералічвалі чарговыя ахвяры Чарнобыля сярод сваіх знаёмых.

Я абяцаю табе, Божа, маліцца кожны дзень за ўсіх тых, каго люблю, паважаю, толькі пачуй мой плач, выратуй маю зямлю, маю Бацькаўшчыну.

Няхай свяціцца імя тваё, Усявышні, дзень і ноч, ахоўваючы нас, тваіх дзяцей, накіроўваючы на правільны шлях, аберагаючы ад спакусы, даючы жыццёвыя сілы і мудрасць. Ратуй нас, Божа!

*Екатерина БЕЛОУСОВА,*
*ученица 10-го класса*
*СШ N197 г. Минска*



# Земля, мы дети твои!

*...Для меня родина начиналась с самого глухого уголка Полесья... Приезжая сюда, я знал, что теперь я дома.*

*Якуб КОЛАС*

Полесье. Его чувствуешь издали. Воздух здесь наполняется запахом влаги и свежих ягод, вы слышите тот неповторимый аромат настоящего дремучего леса, где переплетаются хвоя с лукаво проглядывающими березками, словно случайно попавшими в это царство силы и благополучия. Кажется, этот запах, этот дух устанавливался здесь веками: сюда уходили люди от монголов и русичей, от поляков и немцев, здесь искали защиты и приюта. Эта земля порождала героев-защитников, она несла и несет в себе дух свободы, заставляя каждого вновь прибывшего впитать его в себя. Огромные дали, неоглядные просторы, полные жизни, разнообразия тонов земли и неба, где столько разгона для твоих очей. Здесь тихая молчаливая даль думает какую-то свою вечную думу и ласково-приветливое солнце разливает свою улыбку и так щедро, беспечно проводит кисточкой лучиков по лицу земли, а легкий ветерок раскачивает зеленые листья, расчесывая и запутывая косы ив и других деревьев.

Здесь живут потомки некогда диких языческих племен. Они отличаются редкой терпимостью, которую впитали их

непокорные предки от этого великолепия дикой природы, ее мощи и спокойствия.

Раньше мы хоть на недельку каждый год выезжали на юг Беларуси — Полесье. А оно для беларуса — это то, что Мещера или берендеево царство для русского, Тибет — для китайца, Анды — для перуанца.

Прежде всего меня поразил сильный, волнующийся Днепр. Он навсегда останется у меня в памяти со своими обрывистыми берегами и прекрасно-сказочными лесами, где так просто было встретить зайцев и лосей, змей и ящериц. Флору Беларуси можно было изучать на небольшом клочке земли: огромное количество самых разных птиц — от аистов и дятлов до орлов и ястребов — кружило над небольшими озерками, в которых мы с сестрой ловили мальков руками.

Высокие днепровские берега, песчаные и почти отвесные, привлекали сотни ласточек и превращались в общежития или, скорее, в своеобразные соты с выемками и норками, где эти живые, шумливые птички находили приют. Птенчики часто выпадали из домиков, и мы, дети, засовывали несмышленышей обратно, надеясь, что их приемные родители будут повнимательнее. Вероятно, мы сами мало отличались от этих птичек, так же беспечно носясь по берегам могучей реки, считая, что это никогда не кончится.

К сожалению, чья-то преступная халатность и недобросовестность привела к чернобыльской трагедии, лишив тысячи беларусских детей возможности наслаждаться красотой Полесья.

Если мысленно вернуться к событиям тех дней, то о взрыве мы узнали через двое суток. Видимо, правительство побоялось сказать правду народу и официально объявило об аварии уже после тревожных сообщений о ней зарубежных радиостанций. Беда вошла в каждый дом, затронула всех и каждого. Тяжелый удар нанесла она Беларуси: две трети всей территории загрязнены так, что нуждаются в реабилитационном сроке, землю не следует пахать, а пашут. Никого уже не удивляет увеличение смертно-

сти, критическое положение с рождаемостью, движущейся к отрицательной отметке. Чернобыль принес страх! Страх за себя и за детей, которых многие женщины боятся иметь. Мы все превратились в заложников Чернобыля, живем, не зная, что будет завтра. Может, все беларусы как нация исчезнут навсегда? Не хочется повторяться, но тот факт, что при медосмотре школьников из трех районов Минска нашли только одного практически здорового ребенка, требует своего осмысления и выводов специалистов.

Мы используем живительную силу родной земли, энергию, заложенную в самоё природе. Может быть, надо, чтобы люди более бережно относились к себе и к своей голубой планете, на которой есть место для каждого. Хочется верить, что мы не потеряем того, что у нас еще осталось.

Конечно, надеяться на чью-то помощь — не выход. Тут нужен другой девиз: "Помоги себе сам!" Каждый должен знать, что делать, и делать свое дело хорошо, добросовестно. Мы вернули бы себе гордость и самоуважение, навеки изгоняя страх и неуверенность.

Низкий поклон людям и странам, несущим нам надежду и поддержку. Однако пора сынам и дочерям кривичей и родимичей встать на ноги и подобно могучему дубу после грозы зазеленеть, расцвести пуще прежнего!




*Мал. Пятра АКУЛІЧА, пас. Салагубаў, Лельчыцкі раён*

*Святлана ДЗЯЦЕЛ,*
*вучаніца 11-га класа*
*Свіслацкай СШ N2*

# Нашай памяці прысак

Радыяцыя паступае да нас, у жыццё, з касмічных прамняў, ад радыеактыўнай горнай пароды ды з іншых прыродных крыніц. Яна няўлоўная для органаў пачуццяў. Паражэнне наступае тады, калі радыеактыўныя рэчывы распадаюцца і часцінкі распаду пранікаюць у клеткі, выклікаючы ў іх структурныя змены.

Горад Чарнобыль быў заснаваны за тры стагоддзі перад тым, як Калумб адкрыў Амерыку, за пяцьсот гадоў да таго, як Пётр Першы стварыў Расійскую імперыю. На працягу васьмі соцень гадоў жыхары горада і яго ваколіц працавалі на зямлі, вырошчвалі жыта і проса, буйную рагатую жывёлу і свіней. Грунт быў пясчаны, шмат навакольнай зямлі было забалочана, што рабіла яе мала прыдатнай для земляробства. Напалеон і Гітлер спрабавалі захапіць тутэйшыя землі, але атрымалі паражэнне. Пераадольваючы голад, варожую навалу, нашэсці чумы і халодныя зімы, чарнобыльцы трымаліся сваёй зямлі.

Цяпер Чарнобыль фактычна пусты, пакінуты, пазбаўлены чалавечага цяпла, акружаны маўклівым лесам. Ён адзін з 179 гарадоў і вёсак, эвакуіраваных пасля найвялікшай у гісторыі чалавецтва атамнай катастрофы.

Будаўніцтва шасціблокавага комплексу ў Чарнобылі стала гордасцю савецкай атамнай энергетыкі. Першы блок Чарнобыльскай АЭС быў пабудаваны ў 1977 годзе, а другі, трэці і чацвёрты — адпаведна ў 1978, 1981 і 1983 гадах. Пяты і шосты блокі планавалася задзейнічаць у 1988 годзе. Рэактары Чарнобыльскай АЭС па канструкцыі былі падоб-

ны адзін да аднаго, але адрозніваліся ад рэактараў, што выкарыстоўваюцца ў ЗША. Па-першае, дзеля запаволення ядзернай рэакцыі ў рэактарах Чарнобыльскай АЭС ужываўся графіт, а не вада. У выніку гэтай, а таксама іншых канструкцыйных асаблівасцей павялічылася небяспека выхаду рэактара з-пад кантролю пры пашкоджанні ахаладжальнай сістэмы. Па-другое, хоць чарнобыльскія блокі і былі атулены моцнымі сценамі, яны размяшчаліся ў будынках, якія не мелі над сабой бетонных купалоў.



*Мал. Сашы СУХАРУКАВА, г. Мінск*

Падзеі, якія прывялі да аварыі, пачаліся ўранку 25 красавіка 1986 года. Згодна з загадзя складзенай праграмай, планавалася спыніць чацвёрты блок і правесці эксперымент. Мэта эксперыменту была ў тым, каб вызначыць, колькі часу турбіны генератара змогуць па інерцыі выпрацоўваць электраэнергію і тым самым прыводзіць у дзеянне вадзяныя помпы для ахалоджвання рэактара пасля таго, як перапыніцца звычайнае паступленне электраэнергіі.

26 красавіка 1986 года падачу пары ў турбагенератары спынілі. І амаль адразу работа ахаладжальных помпаў запаволілася, а струмень вады, што паступаў да стрыжня рэактара, рэзка зменшыўся. Сістэма аўтаматычнага выключэння рэактара ў гэты час была адключана. На працягу нейкага моманту тэмпература ў стрыжні рэактара рэзка паднялася, тым самым спыніўшы некіруемую ланцуговую рэакцыю. У 1 гадзіну 23 хвіліны чацвёрты рэактар Чарнобыльскай АЭС выбухнуў. Выбухаў было два — з інтэрвалам у тры секунды. Першы быў выкліканы параю, другі—параю або вадародам, які ўтварыўся пасля таго, як абалонка паліўных стрыжняў пачала растопліванца і ўступіла ва ўзаемадзеянне з вадою ў камеры высокага ціску. Стрыжань разарваўся на часткі, а тысячатонная накрыўка рэактара ўзляцела ўгору і прабіла дах. Смяротная хмара радыеактыўных рэчываў паднялася ў паветра.

На Чарнобыльскай АЭС падчас аварыі знаходзілася 176 чалавек, але найбольш пацярпелі пажарнікі.

Чарнобыльская катастрофа не перастае апякаць нашы сэрцы незатухаючым прыскам, яна вярэдзіць нашу памяць свежымі ўспамінамі пра нечуваную бяду, што раптоўна абрынулася на прымежныя ўкраінскія, беларускія і расійскія землі, на ўсю планету. І няма той бядзе канца-краю ў нас.

З надзеяй чытаем матэрыялы ў друку, імкнучыся ўведаць праўду пра Чарнобыль, здабыць пэўнасць, пачуць, што ўсё ўжо мінула... Як хочацца часам самога сябе падмануць! У імя жыцця, хоць гэта і завецца абсурдам у свеце катастрофы на атамнай электрастанцыі.



*Святлана СКАМАРОХАВА,*
*вучаніца 10-га класа*
*СШ N10 г. Гомеля*



# Ёд па чайнай лыжцы...

Аднойчы ўзышла над маёй краскай-Беларуссю чорная зорка Чарнобыля, цяжарам легла на душы, жудасным болем адбілася на тварах дзяцей. Васемдзесят шосты... Што ж ты зрабіў з маёй зямлёй пад белымі крыламі? Ці мала было табе, Божа, смяротных і жудасных званоў Хатыні? Ці мала палегла ў цяжкіх бітвах? Ці мала было нам Курапатаў? Што ж ты нарабіў, Божа? Чаму не падумаў пра таго, хто, як лісток, адарваны ад дрэва, жыве не ў родным кутку і нідзе няма яму шчасця, бо вецер часу падхапіў яго і гоніць па свеце.

Забытыя хаты, забытыя селішчы... Не, не забытыя! Тыя, хто пайшоў адтуль, хто чуў ці бачыў гэта, ніколі не забудзе счарнелыя хаты, чорную зямлю, сумныя твары, чорны, як перапалены вугаль, погляд, што западае ў душу чорным болем...

Што мне рабіць, Божа, каб ты быў з намі, каб не адварочваўся ад нас?

...Мне сніцца сон,
Ён жудасны і страшны,
Але забыцца нельга пра яго.

...Вось я стаю ля маленькай рачулкі, гляджу на старыя каржакаватыя дрэвы, на хаты, якія чарнеюць праваламі замест радасна бліскучых вачэй. Нікога... Толькі вецер нясе пыл па пустых вуліцах. Гляджу на неба — яно шэрае, цёмнае. Бяздонная цішыня. Ды раптам чуваць нейкія крыкі. Што гэта? І тут я здагадваюся: гэта душы чалавечыя. Яны, як тыя чайкі, стогнуць і плачуць, стогнуць і плачуць. І няма ім спакою, і няма спачынку, бо не могуць яны глядзець на сваю пакінутую хату, дзе жылі калісьці, дзе кахалі, працавалі, гадавалі дзетак...

Гэта толькі сон, супакойваю сябе прачнуўшыся. Ці толькі сон? Я збіраюся, іду ў школу, вывучаю фізіку, хімію, літаратуру, радыяцыйную бяспеку. Мне гавораць аб лейкеміі, "фатальных зыходах" і маўчаць аб трагедыі... І сапраўды, ці ёсць такія словы, каб яе апісаць? Прыйшоўшы дадому, кідаю партфель і іду ў парк, да ракі. Стаю на беразе Сожа, гляджу на хвалі і прыгадваю: "Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай убягае". Так, ніколі не вернецца той час, тая ціхамірная радасць, што была тады, да 86-га, да аварыі.

Я ўсё яшчэ спрабую адмежавацца ад сваіх уласных думак і іду ў бібліятэку. Прашу даць мне што-небудзь цікавае з новых кніг беларускіх паэтаў. Бібліятэкар падае мне... "Зорку Палын". Здагадаўшыся, што зноў не пазбегнуць цяжкіх думак, зашываюся ў самы далёкі і нябачны куток і чытаю. І плачу над лёсам Алёшкі, які канае ад лейкеміі.

Я не памятаю дзень, калі ўсё гэта здарылася. Але для мяне канец красавіка быў радасным: апошні яго дзень — дзень майго нараджэння. І я лётала як на крылах, лічачы хвіліны.

Далейшыя дні былі цудоўныя: яркае сонца, цвіценне каштанаў і мы, апранутыя ў лёгкія сукенкі.

А потым, як абвал, — страшэнная навіна: эвакуацыя. Пачалася паніка, Гомель быццам вымер: глядзіш на вуліцу, і здаецца, нібыта нікога няма, апрача цябе, тваёй бабулі, ма-

мы, таты і дзеда. Людзі не хадзілі, а беглі, стараючыся як мага менш быць на вуліцы. Нягледзячы на спякоту, усе форткі ў нашай кватэры і ў школе былі зачынены. Радыяцыя — гэта жах, смерць.

Потым пачулі, што трэба ўжываць ёд. Але які і як, ніхто не ведаў. Розныя "спецыялісты" давалі супярэчлівыя парады. Зараз гэта цяжка ўявіць, але ў аптэцы маім бацькам параілі даваць мне ёд па чайнай лыжцы тры разы на дзень. Замест некалькіх кропель! Мне пашанцавала: мой тата растварыў гэтую лыжку ў вадзе. Апёк майго страўніка быў не такім моцным, як у іншых, што апынуліся ў бальніцы.

Усе хацелі вырвацца з гэтага пекла. Натоўп на вакзале... Людзі сядзелі суткамі, чакаючы цягніка. Бралі яго штурмам. Бабуля казала: як у вайну. А гэта і было вайной — вайной за жыццё, за дзяцей, за здароўе.

У класе заставалася ўсё менш і менш вучняў. Адцуралася нас і наша настаўніца. Мы сталі хадзіць да другой.

Калі пачаліся канікулы, маці ўзяла адпачынак і мы паехалі ў Анапу, бо ўрачы раілі вывезці мяне на поўдзень. Маці ўладкавалася выхавальніцай у піянерскім лагеры, і я была з ёю два месяцы. Нам не дазвалялі загараць. Мы зайздросцілі дзецям, якія купаліся ў моры і ляжалі на мяккім жоўтым пясочку. Мне хацелася збіраць рознакаляровыя марскія каменьчыкі і будаваць казачныя замкі ля вады. Сказалі — нельга.

Пасля такога адпачынку я не адчула сябе паздаравелай — увесь час была нейкая слабасць. Стала прапускаць урокі. За другую чвэрць была ў школе толькі тыдзень. Дарослыя не маглі зразумець, што са мною здарылася. На зімнія канікулы бабуля павезла мяне да сваёй сястры ў Маскву. Мы пайшлі ў нейкі медыцынскі інстытут. Там быў зроблены пашыраны аналіз крыві. Высветлілася, што я хворая, — у мяне зменена формула крыві. Урачы параілі на год выехаць з горада, есці чорную ікру і піць свежы сок граната. Адкуль мы маглі гэта ўзяць?

Калі вярнулася ў родны Гомель, мяне паставілі на ўлік у абласной бальніцы. Амаль кожны тыдзень рабілі аналізы. Божа мой, якое гэта цяжкое пакаранне ехаць у бальніцу, глядзець, як у цябе бяруць кроў! Якім болем адгукаліся мае паколатыя пальцы ў час заняткаў музыкай. Мне давялося нават пакінуць музычную школу. Праўда, ненадоўга. І цяпер, калі я ўспамінаю гэта, у мяне мурашкі бегаюць па скуры. Я прымала таблеткі, якія, як пазней высветлілася, прымаць мне было нельга. У мяне калоціцца сэрца ад крыўды: колькі дзяцей сканала з-за нядбайнасці, непрафесіяналізму і невуцтва ўрачоў, подласці тагачасных афіцыйных асоб, якія не ведалі, што робяць, ды і не жадалі задумвацца над гэтым.

Горка... Згасла жыццё многіх маіх знаёмых. Памерлі мая цётка, яшчэ маладая жанчына, і дзядзька. Пастаянна хварэе тата: ён ездзіў у розныя раёны, сачыў за забеспячэннем харчамі насельніцтва. Яму сорак, але ў яго хворае сэрца.

Людзі добрыя, што нам есці, што піць, як пазбавіцца ад жудаснага пачуцця бязвыхаднасці?..

Зараз прыйдзе матуля. Яна павінна атрымаць "трунавыя", як іх заве народ, грошы. Уваходзіць заплаканая і кажа, што памерла яе сяброўка, якой было толькі 35. Яна зноў апранаецца ў чорнае, каб ісці на могілкі, якія хутка збіраюцца закрыць, бо яны перапоўнены. І мне прыгадваюцца счарнелыя хаты, чорная зямля, сумныя твары, чорны, як перапалены вугаль, погляд, які западае ў душу, чорны боль...

Зорка Палын... Здаецца, не так многа палыну на маёй зямлі, але ж ты ўзыходзіш на небасхіле, дадаўшы да ўсяго прысмак гаркаты, прысмак, якога не пазбыцца, пэўна, ніколі.

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая...

Смутку хапае. Але так бы хацелася мець хоць кроплю радасці мне і людзям маёй Беларусі!

*Илья ШУКИЛОВИЧ,*
*ученик 7-го класса*
*Крайской СШ Логойского района*

# Память

Нашим дедам досталось
В сорок первом
коварном году.
Это в памяти нашей осталось,
Хоть мы не были в этом аду.

Землякам
моим вечною болью
Будет в сердце стучаться Хатынь.
Вместо роз и жасмина в подворьях
Подорожник растет и полынь.

Мы той болью не жили, но знаем:
Беларусь не сломить никогда!
Расцветала она и мужала...
Но нагрянула снова беда.

Не война подкосила — Чернобыль,
Что принес нам гóречь полыни,
Опустевшие нивы и села —
Это новые наши Хатыни.

Беларусь, ты устала бороться,
Но сожми свою волю в кулак
И поверь, что взойдет твое солнце
И отхлынет чернобыльский мрак.

2 Зак. 391

*Вольга СЕМЯНЧУК,*
*вучаніца 11-га класа*
*СШ N29 г. Гомеля*

# Роспачы трывожны смутак

*Наша дрэва славянства*
*Чарнобыльскім дротам абвіта...*

Таіса МЕЛЬЧАНКА

Так, мы маем справу са з'явай, на якую я за восем год наглядзелася.

Чарнобыль — гэта калі ідзеш у школу, глядзіш на асфальтаваную дарожку, па якой ступаеш, на неба, дрэвы, птушак і не верыш, што ўсё гэта страшэнна забруджана радыенуклідамі. І ты ніколі не паверыш, што дождж, які раней быў сімвалам жыцця, цяпер атрутны і вельмі небяспечны, што паветра, на якім раней так раілі знаходзіцца дактары, цяпер нясе хваробы і смерць, што сонца, якое раней сваімі пяшчотнымі промнямі лашчыла і сагравала зямлю і ўсё жывое, цяпер без літасці забівае гэтымі промнямі.

Чарнобыль — гэта калі на ўроках беларускай літаратуры разглядаюцца творы, аб існаванні якіх ты нават і не падазравала. Усе яны аб'яднаны агульнай тэмай — чарнобыльскай бядой. Страшная, балючая рэчаіснасць патрабуе новых поглядаў і падыходаў да праблемы. Немагчыма без болю чытаць кнігі "Лабірынты страху" Алеся Крыгі, "Радыяцыя" Міколы Сердзюкова, "Злая зорка" Івана Шамякіна і асабліва вершы гомельскіх паэтаў, выхадцаў з тых смяротна забруджаных вёсак, над якімі пануе мёртвая цішыня.

Чарнобыль — гэта калі чытаеш у падручніку па фізіцы параду, як абараніцца ад радыеактыўнага ўздзеяння: "Трэба

аддаліцца ад аб'екта апрамянення..." Табе хочацца разарваць на шматкі тую кнігу і зазірнуць у вочы яе стваральнікаў.

Чарнобыль — гэта страшны боль і спусташэнне, калі ты, слухаючы параду "аддаліцца ад аб'екта", прыедзеш на адпачынак і аздараўленне ў адзін з рускіх гарадоў і, замест спагады і жадання дапамагчы, цябе сустрэнуць абыякавасць і варожасць. І бацькі тваёй тамтэйшай сяброўкі-аднагодкі будуць страшэнна хвалявацца за сваё адзінае дзяўчо, якое водзіцца з гэтымі "чарнобыльскімі вожыкамі", бо тыя абавязкова ёй чым-небудзь нашкодзяць!

Чарнобыль — гэта зона адчужэння. Не, не тая, так званая, 30-кіламетровая. Мне здаецца, што ўся мая родная зямля носіць гэта страшнае кляймо і яшчэ вельмі доўга будуць называць беларускую зямлю зонай.

Чарнобыль — гэта страх, усеабдымны страх перад будучыняй. Баючыся яе, мы сталі падазрона глядзець на лясы, нябёсы, на чыстую ваду. Сёння баімся ісці да доктара — невядома, што ён паведаміць, бо нябачныя ўдары радыяцыі хоць даганяюць не адразу, але б'юць напэўна...

Чарнобыль — гэта калі іншаземцы, што прыехалі да нас, з ледзьве прыхаваным жахам у вачах пытаюць: "А як вы жывяце тут, дзе доза ў дзесяткі разоў перавышае норму?!" Вядома, яны ніколі не зразумеюць нас, як не зразумелі раней мы, што ж меў на ўвазе адзін высокі начальнік, калі сказаў пасля аварыі наступныя словы: "...у нашай краіне назапашаны і абагульнены вялікі вопыт і кароткачасовых, і працяглых радыяцыйных уздзеянняў на прыроду і чалавека (?!)... і таму ніякага радыяцыйнага кашмару ў закранутых Чарнобылем раёнах няма і не прадбачыцца..."

Чарнобыль — гэта вайна, толькі страшнейшая за другую сусветную. Увогуле яна самая адметная з тых, што былі за ўвесь час існавання чалавецтва. На беларускіх абшарах лютуе вораг, толькі мы не бачым забойцу, не бачым і нічога не адчуваем, калі сустракаемся з ім, таму не ведаем, як зма-

гацца супраць яго. Але і на гэтай жудаснай вайне былі свае героі, самыя звычайныя людзі: пажарнікі, служачыя, рабочыя — усе тыя, хто змагаўся з шалёнай стыхіяй у час выбуху на станцыі, хто ратаваў нас, не шкадуючы свайго жыцця.

Чарнобыль — гэта калі роспач і трывожны смутак, нібы ланцугі, сціскаюць сэрца і хочацца ад болю і бездапаможнасці крычаць на ўвесь свет, прасіць літасці ва Усявышняга: "Дзе ж ты, Госпадзі?! Навошта стварыў свет, калі ён згасае? І за што, за якія грахі майму народу такое гора і такія пакуты?"

Чарнобыль — гэта страшная помста ад роднай зямлі за ўсё: за дзесяцігоддзі здзекаў, за акіяны хлусні, за смяротныя грахі і памылкі маіх дзядоў і бацькоў. Мы самі ўвесь час ішлі да Чарнобыля, рабілі ўсё дзеля таго, каб гэта здарылася. Мы, і больш ніхто, вінаватыя ў трагедыі...

І ўсё ж я спадзяюся, што чарнобыльская аварыя не стане апошняй старонкай у гісторыі Бацькаўшчыны. Я нават маю зусім маленькую надзею-мару, што калі-небудзь хаця б для нашых унукаў рэкі і азёры зноў стануць здаровымі, а паветра жывым, дождж і сонца, як некалі, будуць паліваць, лашчыць і саграваць спакутаваную зямельку...

Я мару, бо інача проста не варта жыць.



*Мал. Алены ПАРАЖНЯК, г. Мінск*

*Міхась ВІННІК,*
*вучань 9-га класа*
*базавай школы N4 г. Бабруйска*



# Не — мёртвым зонам!

Мае бацькі любілі вандраваць па роднай Беларусі, пабывалі разам са мной у многіх блізкіх і далёкіх куточках. Што мяне больш за ўсё ўразіла ў час падарожжаў, што кранула? Гэта помнікі: помнікі ваеннай гісторыі, помнікі воінам-вызваліцелям, партызанам, землякам, якія змагаліся за нашу будучыню.

У помніках — трагедыя вайны. А зараз да гэтай трагедыі далучылася яшчэ адна — Чарнобыль.

На палескай зямлі ёсць Міцінскія могілкі — вялікі горад мёртвых, які раскінуўся за вёскай Міціна. Зусім маладыя могілкі. На галоўнай алеі — дваццаць шэсць магіл з аднолькавымі белакаменнымі помнікамі, невялікімі стэламі. Тут пахаваны ўдзельнікі ліквідацыі чарнобыльскай аварыі. Іх смерць ускалыхнула людзей.

Не кукаваць у лесе тым зязюлям.
Не голы ён, куды страшней —
нямы!
О, людзі, позна вы адчулі:
Чарнобыль — гэта ж з ядзернай
вайны!

Я шчаслівы, як і многія мае аднагодкі, што не апынуўся на тэрыторыі сённяшняй забруджанай зоны. Але мне балюча за свой край.

Для кожнага чалавека надыходзіць такі час, калі ён пачынае падводзіць вынікі не толькі свайго асабістага жыцця, але і задумвацца над лёсам сваёй краіны, гісторыяй свайго народа, ацэньваць свой асабісты ўклад у агульную народную справу. Маральным штуршком у такіх развагах часцей за ўсё бываюць нейкія сур'ёзныя падзеі. Мне хочацца расказаць пра людзей, імёны якіх ведае ўся краіна.

Плыла красавіцкая ноч над Чарнобылем. І раптам на чацвёртым рэактары — пажар. Гарэў дах. Праз сто секунд дзяжурны каравул пажарнай N2 па ахове АЭС быў на месцы аварыі. 23-гадовы лейтэнант Уладзімір Правік выйшаў на лінію агню, узяў на сябе кіраўніцтва ў барацьбе з пажарам на атамнай станцыі, дзе было больш за сорак ачагоў. З якога пачаць? Які пажар самы небяспечны? На адказ адводзіцца імгненне.

Іх было дваццаць восем чалавек — байцоў трох пажарных каравулаў. Яны павінны былі калі не патушыць, то хоць бы не дапусціць распаўсюджвання пажару. Узляцеў па лесвіцы на 70-мятровую вышыню старшы лейтэнант Васіль Ігнаценка. На дах машыннай залы кінуўся Уладзімір Цішура. На АЭС прыехаў начальнік пажарнай часці маёр Уладзімір Цялятнікаў. Ён убачыў жудасную карціну. Рэактар дыхаў агнём, на агромністай вышыні мітусіліся фігуркі людзей. Гэта быў самы небяспечны ўчастак. Маёр зразумеў усю трагедыю і бязвыхаднасць становішча, у якім аказаліся Віктар Кібянок, Уладзімір Правік, Васіль Ігнаценка, Мікалай Вашчук, Уладзімір Цішура, Мікалай Ціцянок. Машынная зала была выратавана. Пажарнікі перамаглі агонь, бо кожны з іх разумеў, што адступаць няма куды, за імі — дзеці, бацькі і маці, старыя, за імі родная зямля. Яны стараліся апярэдзіць адзін аднаго ў барацьбе з агнём, не шкадуючы сябе, сваіх жыццяў.

Леанід Цялятнікаў атрымаў апрамяненне 360—380 рэнтген. Два месяцы будуць змагацца за яго жыццё дактары. І здарыцца цуд. Цялятнікаў застанецца жыць.

204 чалавекі атрымалі дозу апрамянення ад 25 да 100 бэр. Храбрасць, мужнасць, самаахвярнасць. Як выхаваць такія якасці? Я захапляюся гераізмам гэтых людзей, бо яны прайшлі праз пекла выпрабаванняў. Іх подзвіг можна параўнаць з подзвігам воінаў-вызваліцеляў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Чарнобыль! Чарнобыльская бяда! Па-рознаму паводзілі сябе людзі ў гэты час. Большасць гераічна, некаторыя панікавалі, а некаторыя станавіліся дэзерцірамі. Бяда, як рэнтген, прасвечвае душу кожнага, хто трапляе ў яе зону. Зону павышанай высакароднасці, павышанай праўды і сумлення.

Ідуць гады. Тысячы людзей будуць захоўваць у сваёй памяці мужных байцоў чарнобыльскай трагедыі. Чарнобыльскі боль немагчыма суцешыць калейдаскопам чароўных уражанняў ад аздараўленчых вандровак нашых дзяцей па свеце, не суняць абяцаннем урада аб увядзенні дадатковых кампенсацый насельніцтву суверэннай Беларусі, не заспакоіць прагнозамі медыцынскай навукі. За ўсім гэтым адчуваецца зманлівасць.

Аварыя на Чарнобыльскай АЭС ускалыхнула Зямлю і ўнесла нямала карэктываў у наша жыццё. У мову ўкараніліся словы "радыяцыйны фон", "бэр", "кюры"... Цяпер наша жыццё будуецца з папраўкай на Чарнобыль.

Калючы дрот, змрочныя аб'явы, забароненыя для чалавечага жыцця зоны. І гэта не старая хроніка ваенных гадоў. Гэта адбываецца сёння ў нашай Беларусі. Чарнобыль — гэта зямля, на якой нельга сеяць. Вада, якую нельга піць. Паветра, якім нельга дыхаць. Бацькоўскі дом, які трэба пакінуць назаўсёды. На гэту зямлю не вернуцца дзеці, нашы ўнукі. Але ж калі-небудзь, калі зямля перахварэе цэзіем і стронцыем, мы вернемся. І няхай гэта будзем не мы, а на-



*Мал. Сашы, Валодзі і Васі* АНДРЫЕКАЎ, *г.п. Камарын*

шы далёкія-далёкія нашчадкі. Зямля пазнае тых, хто спрадвеку жыў на ёй. Абавязкова пазнае і дарue. Я веру ў гэта.

У жыцці нашым столькі цяжкасцей. Нікому з нас невядома, колькі мы пражывем, ці многа паспеем зрабіць. Ды след, які мы пакінем пасля сябе, абавязкова павінен быць добры. Каб людзям было што ўспомніць пра нас. І мне так хочацца, каб не было ў маёй краіне мёртвых і забароненых зон. А на зямлі гэтых зон хутчэй выраслі светлыя бярозавыя гаі, шумлівыя сады, на яблынях — сакавітыя яблыкі. Каб паветрам можна было дыхаць, ваду — піць, а зямлю — засяваць.

Няхай будзе паветра чыстым,
А неба блакітным!
Палі засяваюцца,
Збажынoй залатой наліваюцца.

*Юля ТАПАРКОВА,*
*вучаніца 10-га класа*
*Машукоўскай СШ Клецкага раёна*

# Крыўдна, як падсеклі карані

*Мы птушкі аднаго гнязда,*
*Ды нас па свеце раскідала...*

*Уладзімір ШАЎКАШЫТНЫ*

Уявіце сабе маленькую дзяўчынку, якая толькі-толькі пайшла ў школу.

Чаго я зусім не помню, дык гэта таго, як я даведалася пра аварыю. Была субота. Прайшлі адзін ці два ўрокі, а потым нам аб'явілі, што больш урокаў не будзе, і мы вельмі радаваліся, толькі не маглі зразумець, чаму ў настаўніцы такія заплаканыя вочы і чаму нам нельга быць на вуліцы.

А на наступны дзень з раніцы дома пачалося нештаневерагоднае. Тата не прыйшоў начаваць, толькі званіў увесь час і аб чымсьці доўга гаварыў з мамай, а мама плакала і складвала ў сумку ежу, нейкае адзенне... У 9 гадзін вечара ля пад'езда спыніўся аўтобус, мы выйшлі, мама пастаяла перад закрытымі дзвярыма пад'езда. Яна не плакала, а ўсё нешта расказвала мне, гаварыла, гаварыла... У аўтобусе ўжо сядзелі нашы суседзі. Было незвычайна ціха. Каля іншых пад'ездаў таксама стаялі аўтобусы і сядзелі ў іх толькі жанчыны з дзецьмі. Потым прыбег тата, пабыў крышку, пацалаваў нас і зноў пабег кудысьці. Прыйшоў генерал з цэлай камісіяй (гэта мама іх так назвала). Ён нешта гаварыў, смяяўся, а адна жанчына чамусьці раззлавалася на яго і закрычала, што наш дух падымаць не трэба, мы не панікуем, лепш бы адпраўлялі хутчэй. Не помню, як мы



*Мал. Алены КАРАБЕЙНІКАВАЙ, г. Мінск*

ехалі: гэта доўгая, бясконцая начная дарога закалыхала мяне, і я заснула. Мама потым сказала, што прыехалі мы ў 3 гадзіны ночы. Зараз я ведаю, што нас прывезлі ў казармы Кіеўскага ваеннага вучылішча, а тады я ўбачыла доўгі-доўгі, пусты-пусты калідор, там былі ложкі ў два ярусы, але мала. Мама пайшла і прынесла для мяне матрац, падушку...

Зараз я разумею: тое, што адбылося з намі, — страшна. Але тады... Маленькая я была, усё нават цікавым здавалася. Няма цёплай вады — цікава! Прыехала аўтакрама, цягну матулю, а яна чамусьці не ідзе, гаворыць, няма з чым, бягу сама. Усё роўна цікава! Мама зараз расказвае, як кожны дзень чакала тату — нібы з вайны! Не было яго цэлых 5 дзён! І калі прыехалі машыны з салдатамі і афіцэрамі, мы пабеглі да іх, а нас прагналі. Крыўдна. Але ўсё роўна цікава, таму што мы здалёк усё бачылі: яны з нейкімі скрыначкамі і палкамі падыходзілі да кожнага чалавека. Гэта мы

ўжо ведалі: вымяраюць радыяцыю. Нам сказалі, што яны ўсе "свецяцца", значыць, спачатку трэба ў лазню.

Я не магу меркаваць, як нам дапамагалі тады. Сапраўды, кампенсацыю выплацілі, на гэтыя грошы мы купілі мэблю, таму што вывозіць амаль нічога не дазвалялі: мы жылі ўсяго за 7 кіламетраў ад ЧАЭС, фон быў вельмі высокі. І я думаю, нам не патрэбна дапамога ў выглядзе падачак. Толькі б зараз не даводзілася ездзіць у радыелагічны цэнтр. Ды нішто не дапамагло тату пазбегнуць аперацыі на шчытападобнай залозе. Ды ці толькі яму! Мама лічыць, што і мае балячкі ад Чарнобыля. Я не хачу аб гэтым гаварыць. Проста хачу верыць, што ўсё пройдзе.

Я думаю пра іншае: як Чарнобыль перамяніў наша жыццё. Жыцці многіх і многіх людзей. Прайшла мяжа: да таго, як пачалося, і — пасля. Як пасля вайны!

Наша сям'я прывыкла пераязджаць з месца на месца, таму будзем лічыць, што тата атрымаў прызначэнне на новае месца службы. А іншыя? А тыя бабулькі з вёсак, якія здавалі сваіх кароў, курэй, пакідалі хаты, агароды, магілы родных і ехалі ў невядомасць? Ды ці зможа яна, сямідзесяцігадовая, старэнькая, пачаць новае жыццё? Ёй жа падсеклі корань — сувязь з мінулым, з роднай зямлёй. А маладым? Ці для нас не мае значэння тая зямля, на якой мы нарадзіліся, сцены роднага дома, сябры, калыска дзяцінства? І нам падсеклі корань.

Я ўсё часцей і часцей разважаю: чаму гэта адбылося? Хто вінаваты? Ведаю, быў суд, той-сёй пакараны. Ды ўсё не так проста! І аварыя зусім не выпадковая, і ахвяры, такія шматлікія, таксама маюць сваю абумоўленасць. Чалавек перастаў быць вартасцю? Яго жыццё нішто ў параўнанні з амбіцыямі чыноўнікаў?

І зараз гэта цудоўная зямля знішчана, можа, назаўсёды. А людзі хварэюць, пакутуюць. Хто ім дапаможа? Ніхто! Кожны стаіць перад невырашальнымі праблемамі.

*Михаил САВЕНОК,*
*д.Щеглики,*
*Жабинковский район*

# У нас пока все хорошо

Я жил в городе Припять Киевской области, в 5 километрах от Чернобыльской атомной станции. Папа работал на АЭС оператором в химическом цехе. Мама — лаборанткой на детской молочной кухне. Я родился в городе Припять в 1984 году. Сестра Ира родилась в 1979 году. Во время аварии мне было два года, а сестре семь лет.

Я помню Припять не очень хорошо. Но все равно у меня остались приятные воспоминания.

В тот день мама отпустила нас с сестрой на улицу поиграть: она не знала об аварии. Папа был на работе. Когда пришел домой, сказал, что взорвалась АЭС, и забрал нас с улицы домой.

Потом нас эвакуировали. Мы уехали к бабушке в г.Наровлю. Немного позже поехали к другой бабушке в город Невинномысск Ставропольского края. В 1989 году мы переехали на Брестчину в Жабинковский район, в деревню Щеглики.

Я окончил четыре класса.

Мне здесь очень нравится, кругом лес, недалеко протекает река Муховец. Но все равно мне очень хочется посмотреть на город, в котором я родился!

Недавно мы нашли ежика. Он нас не боялся, только убегал в разные щели. Потом мы его отпустили. Еще у нас есть кот Мурзик, он почти весь черный, и собака Берда охотничьей породы. Мы с папой ходили на охоту и брали ее с собой.

Недавно мы построили дом. В нем семь комнат. И у нас пока все хорошо.

*Таццяна* ***КУЛАКОЎСКАЯ,***
*вучаніца 10-га класа*
*гімназіі N1 г. Баранавічы*



# Што такое ранак?

*Калі распадзецца стронцый,*
*Адпрэчыўшы злую бяду,*
*Лёс мой, пад тваё сонца*
*Я ўжо не прыйду.*

***Мікола МЯТЛІЦКІ***

Зямля, з якой пачынаецца жыццё, адпачывала. Ноч паўзла над зямлёю. Мерна, як у лабараторыі, развівалася сярэдзіна вясны, перапоўненая пахамі жыцця. Мне на той час споўнілася восем гадоў. Маці прыйшла ў хату. На яе твары свяцілася радасць. У руках яна трымала бярозавыя галінкі, на якіх рассыпаліся завушніцамі малюпасенькія шышачкі. Ад іх цягнула дзіўным, непаўторным пахам вясны, лесу, падгарэлага хлеба. Маці павіншавала мяне з днём нараджэння, працягнуўшы тры бярозавыя галінкі. Яна іх адарвала з бяроз, якія раслі насупраць нашай хаты.

Але ціхі, мерны рух у лабараторыі прыроды, сутыкнуўшыся ў гэтую ноч на дваццаць шостага красавіка з чымсьці велізарным і невядомым, парушыўся.

Нас увесь час вучылі, што зялёнае наваколле дадзена на радасць і шчасце чалавеку, а цяпер сталі папярэджваць, што не варта браць у рукі зялёныя галінкі. Маці не маглі

прыносіць сваім дзецям кветкі ў падарунак. Гэта было такім нязвыклым. Людзі нічога не ведалі аб сваім лёсе.

А перад гэтым вечарам у пятніцу я і мой малодшы брацік Ваня прыехалі з бацькам на вялізнай машыне "КамАЗ" да бабулі ў вёску Аравічы, на поўдзень ад Хойнікаў, каб дапамагчы пасеяць агарод. Я добра памятаю той надвячорак, як мы ехалі. Мы пырскалі смехам ад шчасця, што бацька ўзяў нас з сабою ў такую далёкую дарогу. Мы куляліся ў кабіне на заднім сядзенні, якое прызначалася для адпачынку. Бацька нас не ўшчуваў, ціхенька напяваў нейкі матыў — гэта было ягонай звычкай. Я паціху пакепвала з брацікa (у той час яму ішоў чацвёрты годзік), кажучы: "Твой тата ездзіць на вялікай "казе". А ён мне з горыччу даказваў: "Мой тата ездзіць на вялікім "КамАЗе". Мне давялося ўступіць і пагадзіцца з братам, што яго бацька самы важны, што ён кіруе вялізным "КамАЗам", які плыў па лясной дарозе з Хойнікаў на Аравічы, як дзіўны карабель. Здавалася, мы плывём насустрач шчасцю. Бабуля чакала нас, напаіла сырадоем, і мы, шчаслівыя, заснулі. З гэтым сном, аднак, шчасце выкацілася з нашых душ, каб пакінуць іх надоўга.

Мінула восем гадоў з таго вечара. Мне ўжо шаснаццаць, але той куточак душы застаўся пустым, шчасце, спалоханае тым ранкам дваццаць шостага красавіка, дзесьці блукае ў прасторах Сусвету, яно не можа вярнуцца на сваё месца, душа яшчэ не дазваляе яму.

Рыбакі, якія вудзілі рыбу непадалёку ад вёскі Краснаселле, расказвалі пра гэтую страшную ноч. Яны бачылі, як вертыкальна ўгору вырваўся сноп яркага святла, маючы белую, жоўтую і чырвоную афарбоўку адначасна. Ён панёсся на ўсход, да Брагіна, выпраменьваючы святло і сеючы на зямлю сяйво, якое, не прыносячы болю, крала здароўе ў людзей. Можа, таму маё шчасце не можа заняць сваё месца ў душы, там гэты куточак шчыміць і шчыміць, і невядома, калі заціхне мой боль. А можа, ён застанецца назаўсёды, пакуль не скончыцца жыццё, хто ведае?

Вёска Аравічы знаходзіцца, а больш праўдзіва будзе сказаць, знаходзілася, бо яна цяпер як могілкі, без адзінай жывой душы, у радыусе дваццаці сямі кіламетраў ад украінскай вёсачкі Янаў. Побач з ёю былі пабудаваны горад атамшчыкаў Прыпяць і атамная станцыя, якой далі назву невялікага квітнеючага ўкраінскага гарадка Чарнобыль, што знаходзіцца за пятнаццаць кіламетраў ад станцыі. Хто і чаму ў свой час так назваў гэты горад? Відаць, і ў далёкія часіны тут была нейкая чорная быль, але я не думаю, што гэта было так страшна, як цяпер, бо ў Чарнобылі квітнела жыццё. Бабуля ездзіла туды па Прыпяці на імклівай "Ракеце" на базар.

І вось прыйшоў гэты ранак дваццаць шостага красавіка, калі ўсё перастала красаваць; я праклінаю чалавека, калі ён яшчэ жыве, ды яго і мёртвага не грэх праклінаць, якому прыйшло ў галаву збудаваць сярод такойustanаселенай квецені жыцця гэтую атамную станцыю.

Але вось гэты ранак... Што такое ранак? Гэта калі прырода цягнецца насустрач новаму дню, новаму жыццю і калі шчабечуць птушкі. Прыгажосць гэтай раніцы была маўклівай. Я ўспамінаю: было ціха-ціха, цішыня змянілася насцярожанасцю, у якую ўслухоўвалася зямля, людзі. Страшны сілуэт замаячыў па роднай зямліцы, несучы на сваіх чорных крылах гора і слёзы, жудасную невядомасць, страту радзімы. Зялёным аксамітам раскідаліся лугі наўкол Прыпяці, смарагдамі пераліваліся ранішняя раса, але ўсё гэта ўжо не прыносіла радасці.

Надвячоркам у нядзелю мы прыехалі дамоў у Хойнікі. Вуліцы нібы вымерлі, толькі каля нашай хаты пад бярозай стаялі суседзі, прыгнечаныя непамерным цяжарам невядомасці. Праз некалькі дзён было спякотнае Першае мая, людзі прастаялі пад пякучым сонцам з маленькімі дзецьмі да дванаццаці гадзін дня, чакаючы пачатку дэманстрацыі. Але нікому не было справы да таго, колькі іонаў, колькі бэраў набяруць маленькія цельцы. Другога мая паўднёвы ве-

цер прынёс цяжкі дождж. Кроплі былі буйныя, прадаўгаватыя, велічынёй з фасолю. Мы стаялі пад абрыкосавым дрэвам, пакуль маці не паклікала ў хату.

Што было далей? Вандроўкі па свеце прыкладна з такімі маршрутамі: Маладзечна, Гомель, Орша, Белгарад-Днястроўскі, Дубасары, Барысаў, Вілейка, Салігорск, Светлагорск, Мінск і іншыя месцы, па якіх круціла нас кола радыяцыі. Летам 90-га мы выязджалі ўсёй сям'ёй у Баранавічы. Як сёння бачу заклапочаны твар маці. Я не дапамагала збіраць пажыткі, пайшла на вуліцу, стала каля бяроз, каб надоўга запамятаць іх водар, водар цішыні і спакою, ціхамірнага дзяцінства. Сэрца сціснулася ад болю, што страчана штосьці самае дарагое.

Але жыццё працягваецца. І зараз часта вечарамі прыходзіць успамін пра тыя часіны дзяцінства, такія светлыя і, здаецца, такія далёкія. І жыве ў сэрцы неадступны смутак і боль. Жыць будзеш, нікуды не дзенешся, але поўнай радасці жыцця не адчуеш — яна засталася на тым баку, дзе парвалася наша дзяцінства.



*Мал. Ірыны СЕМЯНЧУК, г. Лунінец*

*Елена МЕЛЬНИЧЕНКО,*
*учащаяся СПТУ-212*
*г. Дзержинска*



# Нас у мамы — шестеро

С самого детства жизнь моя наполнена печалью и невзгодами. Я училась во втором классе, когда все началось, и мне пришлось узнать и увидеть своими глазами страдания и горе многих людей, пережить их вместе со своей семьей.

Когда произошла авария, жили мы в деревне Погонное Аровичского сельского Совета. Семья у нас была очень большая. И вот вспоминается то майское утро. Оно выдалось солнечным и теплым. Взрослые спешили на работу, дети бежали в школу. На улице веяло свежестью. Кругом все зеленело, пели птицы. На деревьях появились уже молодые зеленые листочки. Солнце припекало все больше и больше. Вскоре в школе за партами было невыносимо сидеть. От ярких солнечных лучей у многих ребят кружились головы, стояла невыносимая боль в глазах, по всему телу растекалась слабость, сонливость. Это все было непонятно и необычно для нас, но никто даже и не подозревал, что могло случиться что-то страшное, угрожающее не только нам, но и нашей деревеньке. Через несколько дней происходила эвакуация. Это была ужасная картина: дети кричали, старики, испытывая боль и горечь в душе, не могли рас-

статься, оставить свои дома, родные места и уехать, не зная куда. Было сказано взять необходимые вещи с собой на несколько дней, но кто взял, а кто уехал, как стоял, ведь было не до того, я видела растерянность и отчаяние. А сколько было слез!..

Вывезли нас в Гомель. Там замерили радиацию и сказали, что очень большая на одежде, на обуви. Сняли с нас все это и сожгли, а самих положили в больницу для обследования. После больницы мы с мамой и со старшим братом Петром, который учился в четвертом классе, и маленьким Вовой, которому было одиннадцать месяцев, попали в санаторий-профилакторий Минского тракторного завода, а старших детей куда увезли, мы не знали. Мама очень беспокоилась за них, но благодаря врачам мы скоро узнали, что старшие дети находятся в Витебской области, в Шумилино, в лагере труда и отдыха. Отец мой устроился работать слесарем под Минском, в деревне Петковичи. Жил в общежитии, но когда старшие брат и сестра написали, как им трудно без родителей и что живут они там в антисанитарных условиях, отец поехал и забрал их к себе.

Но только в общежитии долго жить было невозможно, так как одна кровать была на троих. Отец нашел квартиру и вскоре забрал нас с матерью, потому что санаторий этот закрывался на ремонт. А душа рвалась домой. Тогда нам сказали, что нашу деревню уже огородили колючей проволокой и там нет ни души, что люди разъехались кто куда.

Через несколько дней поселили нас в городе Дзержинске. Квартира состояла из двух комнат, в ней жили две семьи: наша семья из девяти человек и еще одна — четыре человека. Мы продолжали учиться в средней школе. Нам приходилось очень трудно, осенью помещение не отапливалось, спали на полу и укрыться было нечем.

Не все понимали наше положение — горе и боль, относились к нам настороженно, смотрели на нас, как на чужаков, не только взрослые, но [redacted] дети. В марте 1987 года отцу

предложили дом в деревне Петковичи этого же Дзержинского района. Огромное счастье и радость охватили нашу семью, и мы заселились в этот красивый большой дом, перешли учиться в сельскую Петковичскую школу. Но радость эта была недолгой, ибо мы, дети, стали болеть один за другим и по причине болезней отставали в учебе. Всех нас поставили на учет в клинике радиационной медицины, обследования мы проходили каждый год. При обследовании плохие анализы крови получены были у нашего отца. Через три месяца он умер. Был июнь 1988 года.

Беда и горе преследовали нас по пятам. В один и тот же год умерли обе наши бабушки и дядя. Это был страшный удар судьбы. Нас у мамы осталось шестеро. Маме одной пришлось поднимать нас на ноги.

После всего пережитого мама стала часто болеть. Но, преодолев все беды и тяготы, она окружила нас теплом и любовью, и мы старались ее понимать, чтобы уменьшить чашу ее страданий и слез.

Прошли годы, кое-как изменилась жизнь. Та боль и то горе, которыми были заполнены наши сердца, немного утихли.

Мы по-прежнему живем в деревне Петковичи. За последние годы, правда, сестры вышли замуж, женился брат, второй брат служит в армии, я учусь в училище, а самый младший Володя учится в третьем классе. Большинство моих односельчан переселились в Жлобинский район, и мой брат попал служить в Жлобин. Мне очень хотелось поехать к нему, а заодно проведать своих одноклассников... Мы с мамой поехали, и там, в деревне Кирово, я встретилась с одноклассницей. Мы с ней очень дружили, вместе играли, учились в школе, а теперь, когда прошло восемь лет, не узнали друг друга — настолько выросли и изменились. Нам пришлось как бы заново познакомиться. На душе было радостно и обидно. Радостно оттого, что я встретила здесь своих одноклассников и свою лучшую подругу, увидела, ка-



*Мал. Ганны ВАСІЛЕВІЧ, г. Мінск*

кими они стали, и в то же время обидно и больно, что не видела их столько лет и из-за проклятого Чернобыля не могла быть с ними вместе. Мне так не хотелось уезжать от них, но, уезжая, я думала о своей матери, которой пришлось на своих плечах вынести много горя и страданий, думала о загубленных и искалеченных Чернобылем судьбах многих людей, особенно страдали и страдают ни в чем не повинные дети, даже не зная, кто отнял у них счастливую долю и здоровье.

Сколько бы лет ни прошло, но эта страшная трагедия оставит неизгладимый след в жизни общества, в судьбах многих людей, в памяти всех поколений.

Так помните, люди, что с атомом нету
Ни ладу, ни складу — так будет всегда.
Давайте ж очистим от грязи планету,
От ядерных оргий не оставим следа.

*Людмила ЛАПЦЕВИЧ,*
*ученица 10-го класса*
*СШ N 197 г. Минска*

# Об одиссее дяди Димы

Нелегкие испытания выпали на долю нашего и других народов — пережить самую серьезную из аварий, которые когда-либо случались на ядерно-энергетических объектах. Перед погибшими в чернобыльском пекле склоняем мы головы.

Но рядом с каждым из нас живут и работают люди, которых сегодня мы называем ликвидаторами. Я хочу рассказать о своем дяде, Дмитрии Анатольевиче Головкове, который призывался в июне 1986 года на службу с первым Минским отрядом милиции в 30-километровую зону Чернобыля. В состав отряда входили семьдесят сержантов и пятьдесят офицеров. На ликвидацию аварии были направлены люди из РСФСР, Литвы, Латвии и других республик бывшего СССР. Их можно было узнать по произносимой речи и номерам машин, на которых они приехали. Порой в колоннах шло по две тысячи машин. Это были машины "скорой помощи", милицейские, военные и другие.

Люди, проживающие в радиусе 30-километровой зоны, были эвакуированы вместе со скотом. Котов и собак с собой не брали, им не хватало места. Оставленные человеком, они дичали и становились опасными. Была создана служба по уничтожению этих животных. Оставались стоять сиротливо пустые дома с нажитым за долгие годы скарбом. По злому року судьбы люди стали изгнанниками.

Лето 1986 года было яркое, стояла жара, дули южные ветры. Но величие земли, простор полей уже никого не радовал.

Еще много лет назад, до чернобыльской трагедии, старые люди говорили, что наступит на Земле время, когда всего будет в изобилии, но съесть и воспользоваться этим будет невозможно. Разгадать пророчество не мог никто. И вот наступил этот страшный час. От хорошей погоды, от благодатной и ухоженной человеком земли огороды и сады ломились от изобилия. Люди, зная о радиации, не до конца осознавали ее опасность. Заражение было коварным, невидимым врагом.

В газетах, журналах, книгах мы читали, как трудно пришлось ликвидаторам работать и сражаться с бедой, но нигде я не прочла, какими были условия их быта и питания. В первом Минском отряде трудились мужчины от двадцати пяти до сорока лет, которым одной банки тушенки весом триста двадцать восемь грамм на двоих на один обед было недостаточно. Поэтому те же милиционеры-ликвидаторы заходили в брошенные огороды, сады, срывали зараженные плоды, промывали их водой из колодцев, накрытых пленкой, и употребляли в пищу, чтобы не сводило животы от голода. Рискованно! Страшно! Но факт остается фактом.

Одежда отряда милиции, в котором служил мой дядя Дмитрий, напоминала больничную робу. На голове была фуражка, которая отличала сотрудников милиции от других людей. На дежурство ночью выдавали общевойсковой защитный комплект из прорезиненной ткани. Днем было тепло, а в вечернее и ночное время эти мужественные, выносливые, но полуголодные люди замерзали от холода. Костры нельзя было разжигать, так как они повышают уровень радиации. Некоторые хозяева, покинувшие свой дом, оставляли ключи от сараев этим ребятам. В холодные ночи они согревались в сене и соломе.

За три—четыре дня до отъезда правительство резко, в четыре раза, повысило им норму питания. Сменяющий их отряд милиции уже не переживал таких трудностей с одеждой и питанием, которые выпали на долю первых.

Кому, как не милиции, занимающейся наведением порядка, охраной имущества самой 30-километровой зоны, надо было бы носить оружие! Но у первых ликвидаторов при исполнении служебных обязанностей его не было. Чуть легче стало в этом плане следующим, кто пришел на смену. А работы хватало.



*Мал. Іны АХОЦЕНКА, г. Лунінец*

В первые дни прибытия отряд милиции, в котором служил мой дядя, занимался благоустройством своего быта. Затем милиция охраняла закрытые дома от грабителей-мародеров. Но от недостатка охраны дома грабились. Непорядочные заезжие, проникшие каким-то образом в зону, собирали урожаи с огородов для продажи на рынках городов Беларуси. А проникнуть, несмотря на все старания милиции, было как: ведь перекрывались только основные, ведущие дороги. А сколько было еще маленьких проселочных и лесных троп, дорог. Ликвидаторы рубили лес для опоры,

чтобы делать ограждения с проволокой. В тех случаях, когда местные исполкомы разрешали отдельным лицам забрать часть своего имущества, милиция помогала грузить его. Оставшимся в некоторых деревнях старикам, не желающим уезжать с родной обжитой земли, в милицейских машинах привозили хлеб. Впереди были и другие испытания.

Кругом горел торф. Было трудно, но продолжали работать не покладая рук. Поливочные и пожарные машины все время поливали дороги водным раствором с мылом, прибивая радиоактивную пыль, производили дезактивацию территории.

Несмотря на усталость в этих трудных и опасных для жизни условиях, каждую неделю Минский отряд милиции выпускал свою стенгазету. Мой дядя Дмитрий Головков тоже неоднократно принимал участие в ее выпуске, а потом, приехав домой, из газеты "На страже Октября" от 22 июня 1986 года узнал, что стал лауреатом конкурса на лучшее стихотворение о службе в особых условиях. Усталость этих будней, между прочим, помогал превозмогать чемпионат мира по футболу. Ликвидаторы, трудившиеся вечером и ночью, могли посмотреть повторение программы в утренние часы. Это отвлекало их от грустных дум и придавало в дальнейшем силу, энергию, настроение.

Я не рассказываю о том, сколько бед и страданий вынесли люди, переселенные из 30-километровой зоны в зоны с последующим отселением, так как это другая сложная тема разговора. Добавлю только, что для переселенцев и местных жителей в этих якобы умеренно загрязненных зонах (например, Стреличево, Великий Бор Хойникского района) построили всем миром новые коттеджи, школы, а в 1991 году была признана непригодность проживания в них.

Размеры чернобыльской беды определить трудно, да и измерить невозможно. Беда реальна, ощутима сегодня, а нанесенный ею ущерб может сказаться еще в далеком будущем.

*Вольга ГАНЧАРОВА,*
*вучаніца 9-га класа*
*СШ N18 г. Барысава*



# Лёс Беларусі — мой лёс

У красавіцкую ноч 1986 года на ціхія дубровы і хваёвыя лясы, на палеткі і квітнеючыя сады, на школы і бальніцы пасыпаўся "мірны атам". Каб сустрэць яго ў "абдымкі", былі кінуты тысячы людзей.

Чарнобыль паклікаў і майго тату, які служыў у аддзеле ўнутраных спраў. Я тады вучылася ў першым класе і ніяк не магла зразумець, чаму так доўга няма таты дома.

А старшына міліцыі Ганчароў Аляксандр Міхайлавіч "выконваў службовыя абавязкі ў Хойніцкім РАУС у 30-кіламетровай зоне". Так адзначана ў даведцы, якую тата прывёз з сабою.

Добра памятаю, як ён прыехаў дадому з нейкім чужым, асіплым голасам, шмат піў мінеральнай вады: так раілі ўрачы. Расказваў ён пра пустыя вёскі Палесся, пра хатніх жывёл, якія з шалёным крыкам насіліся па дарогах і лясах, пра нейкіх марадзёраў.

Мінула два гады. Тата зноў пакінуў нас. На гэты раз паехаў у Мінск, у шпіталь. Дома ўсё часцей і часцей стала гучаць слова "Чарнобыль".

У 1989 годзе тату паставілі страшны дыягназ: пухліна спіннога мозгу. Аперыраваць у Мінску ўрачы адмовіліся.

Тата са сваімі сёстрамі едзе ў Маскву. Спрабуюць уладкавацца ў бальніцу. Але ў сталіцы вельмі здзівіліся: "Вы чаго да нас прыехалі? Мы не абавязаны лячыць увесь Савецкі Саюз".

Праз слёзы і скаргі, знявагі і хабар прайшлі яны, каб тату зрабілі аперацыю. Але здароўе не палепшылася. І тады мае цёткі вырашылі шукаць дапамогі за мяжой. Доўгім і цяжкім быў шлях у ЗША. У Мічыганскім шпіталі тата лячыўся два месяцы.

Дзень і ноч я чакала вестак з-за акіяна. Дапытвалася ў дарослых: "Чаму так доўга няма таты?". А яны адказвалі, што гэта Чарнобыль трымае яго там.

І вось жаданая сустрэча. Тата прыехаў вясёлы, поўны надзей. Ён стаў лепш хадзіць, спадзяваўся вясной зусім паправіцца. Зачараваныя, мы слухалі яго расказы пра чужых, але чулых і добрых людзей, з якімі ён сустрэўся ў далёкай краіне.

У сваім лісце да вядомага маскоўскага прафесара амерыканскі прафесар прасіў аказаць майму тату далейшую медыцынскую дапамогу. Але вядомы талент сказаў: "Што вам патрэбна ад мяне? Вы ўжо ўсюды былі!".

Так і застаўся тата без медыцынскай рэабілітацыі. Яму зрабілася горш.

Мама звольнілася з работы, бо камісія прызнала тату інвалідам 1-ай групы. У даведцы — запіс: "Захворванне звязана з выкананнем работ па ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС".

Два гады тата быў на групе. Мы жылі на яго пенсію.

Люты 1993 года. Зноў бальніца. Акрамя асноўнай хваробы, яшчэ адна — пнеўманія. Дзень і ноч не адыходзілі ад ложка медыкі. Амаль два месяцы барацьбы з хваробай, але... 28 сакавіка тата памёр.

За гадзіну да смерці доктар спытаў у яго: "Як адчуваеце сябе?". У адказ пачулі: "Добра". Ніхто ніколі не чуў ад яго скаргі, ніхто не бачыў яго слёз.

Вось так Чарнобыль адабраў у мяне тату. А яшчэ ён адабраў мой дзень нараджэння: тата памёр якраз у той дзень, як мне споўнілася чатырнаццаць гадоў.

Што гэта? Лёс? Гэтае пытанне хачу задаць людзям, якія маюць уладу: адкажыце мне, калі ласка, чаму я ў мірны час не маю бацькі? А як хочацца адчуць бацькоўскае плячо і клопат. Хочацца ўпрыгожваць разам з бацькам ёлку пад Новы год, хочацца накрываць святочны стол у дзень нараджэння. Я ж вымушана на могілках упрыгожваць ёлачку для бацькі, вымушана адмовіцца ад дня нараджэння, бо гэты дзень стаў днём Памяці яго.

Дзе тыя адказныя кіраўнікі і навукоўцы, якія кінулі мільёны грошай і мільёны людзей у радыяцыйнае пекла?

Аўтары чарнобыльскай бяды адышлі ў цень. Пра іх не ўспамінаюць, з іх не спыталі за гора людзей. А праблемамі, якія парадзіў Чарнобыль, не заўсёды займаюцца шчырыя, сумленныя людзі.

Многія з тых, хто ўхапіў уладу, думаюць пра сябе. Прыдумалі пастанову, каб атрымліваць вялікую пенсію за "асабліва важныя заслугі" перад дзяржавай. А якія важныя справы робяць яны? Прыдумляюць хітрыя законы, пастановы, змяненні ў законы. Цяжка жыць чарнобыльцам па закону, які прыдуманы чыноўнікамі, асабліва — нашай сям'і.

Калі мама даглядала тату, ёй ішоў рабочы стаж, ■ рабочае месца не захоўвалася. Пасля смерці таты яна ледзь знайшла месца прыбіральшчыцы. Вось якія ў нас законы! А ці заўважаюць кіраўнікі і стваральнікі законаў, што змяншаецца нараджальнасць, узрастаюць захворванні і смяротнасць беларусаў, што на вуліцы больш п'яных, чым апантаных працай людзей?

Я зразумела адно: у дарослым жыцці шмат хлусні. Таму я мару аб вучоным, які б прыдумаў такі дазіметр, што змог бы вымяраць узровень хлусні, сквапнасці, жорсткасці, бессаромнасці ў кожнага чалавека. Тады, нарэшце, прыйдуць да ўлады разумныя і добрыя, сціплыя і чулыя людзі.

На кароткім жыццёвым шляху майго таты сустракаліся і добрыя людзі, якія дапамагалі яму ў цяжкі час. Гэта лідэр беларускіх прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык, прадстаўнік Чырвонага Крыжа Беларусі І.Р.Буранкоў, начальнік аддзела ўнутраных спраў горада Барысава А.Р.Шыбалка, віцэ-прэзідэнт міжнароднай арганізацыі "Саюз Чарнобыль" Г.Ф.Лепін, віцэ-прэзідэнт асацыяцыі "Шчыт Чарнобыля" С.Р.Сазанкоў, прадстаўнік Беларусі ў ААН Генадзь Бураўкін і іншыя.

А вось добрыя людзі, якія жывуць у далёкай Амерыцы: Язэп Сажыч, Вера Артон, Каця Мазура, Лінда Роджэрс, Стэфанія Брэвер...

Я разумею — Чарнобыль перакрэсліў не толькі мой лёс. Яго смяротны цень ахапіў трэцюю частку роднай Беларусі, яе жыхароў, тых ліквідатараў, якія працавалі ў зоне. Таму я не аддзяляю сябе ад Бацькаўшчыны, яе народа. Балюча сёння не толькі мне, баліць усёй Беларусі. Боль Беларусі — мой боль, лёс Беларусі — мой лёс.



*Мал. Кацi СIНЯК, г. Мiнск*

*Алена ДРОЖЖА,*
*вучаніца 10-га класа*
*Аталезскай СШ Стаўбцоўскага раёна*

# За Чарнобылем — жоўты пясок

*Чорнае слова, як чорнае сонца, бязлітасна ўскацілася на беларускі небасхіл. Яно, нібы чорнае зацьменне, усё пачарніла: і зялёную траву, і празрыстую ваду, і блакітнае неба.*

*Янка СІПАКОЎ*

Зараз мне 16... Для мяне, як і для ўсіх тых, хто перажыў трагедыю Чарнобыля, час нібы распаўся на дзве часткі: да 26 красавіка 1986 года і пасля. Жылі мы не вельмі далёка ад тых мясцін. З горада маці прывозіла ласункі, расказвала пра атамную станцыю, якая дае электрычную энергію.

Па вёсцы пайшлі чуткі, што на ЧАЭС адбылася аварыя. Прыехалі дадому аднавяскоўцы, якія там працавалі. Але ніхто гэтаму не прыдаў ніякага значэння.

На наступны дзень на саўгасным стадыёне адбылося адкрыццё раённых спаборніцтваў па футболу. І я разам з бацькамі і старэйшым братам амаль увесь дзень бавілася там: цікава было. Помню, як нечакана пайшоў дождж. Мы бегалі, падстаўлялі далоні, не ведаючы, што гэты дождж нясе нам.

А вось і доўгачаканае свята — І Мая. Пачала шыкаваць прырода. На стадыёне гулянне: грае музыка, гучаць песні. На тварах — радасць.

Але ж непакой абрынуўся і на нашу вёску. Маці, вельмі ўстрывожаная, днём толькі на хвіліну забягала дамоў. За-

бараніла выходзіць на вуліцу. А па шашы ехалі і ехалі ў бок Прыпяці розныя машыны. Так працягвалася некалькі дзён.

6 мая з'явіліся сваякі з Любані і забралі мяне з братам да сябе. Да гэтага часу я ніколі не расставалася з бацькамі. Праз дзень—два вельмі захацелася дадому. Мне тлумачылі, што ў Стралічава нельга ехаць, што ў бацькоў шмат работы, а непакоіцца няма падстаў.

Тады я не ведала, што пройдуць не дні, а месяцы, пакуль я вярнуся дамоў, што наперадзе мяне чакае бальніца ў Бараўлянах, піянерлагер у Барысаўскім раёне. Толькі ў канцы жніўня я прыехала дадому. Радасці не было межаў. Але дзіўна, што ж тут здарылася? Усё такое прыгожае, як і ў мінулым годзе, толькі ў агародчыку салдаты высеклі кветкі ды каля школы няўтульна стала: замест кустоў, кветак — жоўты пясок.

Хутка разнеслася навіна: у школе будзем знаходзіцца дванаццаць гадзін, бо вуліца, стадыён, лес — небяспечная зона. Так урад паклапаціўся, каб на нас менш уздзейнічала радыяцыйнае апрамяненне.

І зноў у дарогу. Мы, вучні пачатковых класаў, едзем на аздараўленне ў Анапу.

Гомель... Чыгуначны вакзал. Па нас прыехалі з Анапы незнаёмыя выхавацелі. Гэта вельмі добрыя, ласкавыя жанчыны, расказваюць пра Чорнае мора, прыгажосць, утульнасць санаторыя, куды мы едзем. Ды нам не да гэтага. Перад вачыма — твары бацькоў. У душы — трывога, непакой. Вельмі хочацца спыніць цягнік, вярнуцца дадому.

Жывём на беразе Чорнага мора, вучымся, ездзім на экскурсіі. Сумуем, бо невядома, што там, на Бацькаўшчыне.

І вось прыехала маці. Ніколі не забудзецца, як мы беглі яе сустракаць: не толькі я, але і ўсе вучні нашай школы. Кожнаму хацелася пачуць пра сваіх родных і блізкіх, пра вёску.

Маці частуе нас цукеркамі. Многім, напэўна, здаецца, што гэта цукеркі з рук яго маці. А я — самая шчаслівая!

Аднак ёй трэба вяртацца дамоў. Яе чакаюць сур'ёзныя справы: яна — старшыня сельсавета. На твары ўсмешка, маці ўгаворвае мяне не сумаваць, хоць самой не менш цяжка, чым мне.

У школе з пачуццём тугі чакалі канікулаў, бо ведалі: пасадзяць у вагоны і зноў павязуць на некалькі месяцаў.

1989 год. Цяжка захварэў брат. Бацькі пачалі збірацца перяязджаць у іншае месца. Ніколі не забуду той дзень, калі яны паведамілі аб сваім рашэнні. Брат настойліва прасіў: "Мамачка, татачка! Нікуды не перяязджайце, я ачуняю тут. Калі ж вы паедзеце, я застануся і буду жыць з дзедам".

І мы не паехалі. Брат хварэў, не адзін раз ляжаў у бальніцы. Здароўе маё і маіх бацькоў таксама пагаршалася. А ў Стралічаве будавалі новы прыгожы пасёлак з каменных муроў у два паверхі — катэджы. Каму ў іх жыць? Маці, якая раней верыла прадстаўнікам вышэйшых улад, вучоным, што тут можна жыць, пачала сумнявацца, прыслухоўвацца да голасу тых, хто даводзіў у трывозе і роспачы: "Жыць у чарнобыльскай зоне небяспечна!" У газетах "Сям'я", "Гомельская праўда" з'явіліся яе артыкулы, чула па радыё пра яе выступленне ў Мінску на пленуме Дзіцячага фонду па тэме "Дзеці Чарнобыля". Гэта быў крык душы маці, заклапочанай лёсам ужо не толькі сваіх дзяцей, а ўсіх тых, чыё жыццё ў небяспецы.

Знаходзячыся ў красавіку 1990 года ў Геленджыку, куды амаль на тры месяцы вывезлі вучняў нашай школы, з гонарам глядзела на маці, калі яе паказвалі ў тэлемарафоне, прысвечаным чарнобыльскай трагедыі. Зноў яна гаварыла аб тых складанасцях, у якіх апынуліся вучні Стралічаўскай школы, бо ўзровень радыяцыі быў ад 15 да 40 кюры/кв.км і вышэй. Гадзінамі сачылі за тэлемарафонам. Ужо разумелі: у Чарнобылі адбылася не проста аварыя, а катастрофа з тымі вынікамі, якія прыносіць людзям вайна.

З Геленджыка вярнулася ўжо не ў родную вёску, а на новае месца жыхарства, на Стаўбцоўшчыну. Самотна сустрэла мяне Аталезь. Хата на ўскрайку вёскі, непадалёку ад лесу. Усё чужое, незнаёмае. Так прайшло лета.

І верасня звычайна было святам. А тут я, вучаніца 7-га класа, плакала наўзрыд. Маці, настаўнікі, незнаёмыя дзяўчынкі суцяшалі. Разумелі: гэта балючыя слёзы тугі па роднай школе, сябрах.

Час ішоў. Пачалі прывыкаць да новых мясцін. Бацькі, тыя перасталі памылкова Стоўбцы называць Хойнікамі, Аталезь — Стралічавам. З'явіліся новыя сябры. Я ўдзячна ўсім аднавяскоўцам, хто дапамог маральна нам у тыя цяжкія часы, хто побач з намі сёння і ў горы, і ў радасці. Мае бацькі з павагай гавораць пра тых, з кім побач працуюць як у школе, так і ў калгасе.

Але ж чамусьці ў снах часцей за ўсё я бываю не ў Аталезі, а ў Стралічаве, бо радзіму нічым не заменіш.

Пішу, а на вачах слёзы. Успамінаю словы на лістку паперы, напісаныя маёй 70-гадовай бабуляй: "Сардэчна прызнаюся: вельмі хачу дамоў". Хто ёй дапаможа?! Хто дапаможа тысячам людзей з пакалечаным лёсам?! Хто дапаможа хворай на сотні і тысячы гадоў зямлі?

З маленства мяне з братам маці вучыла быць сумленнымі людзьмі. Чаму ж вучылі бацькі вас, усіх тых, каму беларускі народ даверыў свой лёс, абраўшы на высокія дзяржаўныя пасады. Дый хто вас выбіраў? Хто даў вам правы хлусіць, утойваць праўду?!

Не, вашых прозвішчаў я не назаву, бо многіх не ведаю. Я сёння назвала б імёны тых вучоных, медыкаў ды літаратараў, у каго не было высокіх пасадаў, а было шчырае сэрца, хто добрасумленна выконваў і выконвае свой грамадзянскі абавязак, нягледзячы на розныя складанасці як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя.

З ўдзячнасцю ўспамінаю пісьменнікаў Уладзіміра Ліпскага, Васіля Якавенку, якія прыязджалі тады да нас у

школу. Мы разумелі, што для гэтых людзей наш лёс неабыякавы. А пасля, чытаючы іх артыкулы ў газетах, падзіцячаму лічылі: можа, гэта мы іх натхнілі так палымяна пісаць.




*Мал. Валі БІРУК, г. Мінск*

Менавіта хойніцкая зямля ўзрасціла Барыса Сачанку, Міколу Мятліцкага. У іх творах гэтага часу чуецца боль за родны край. Радыяцыя не абышла і радзіму Івана Шамякіна. Добра ведаючы палешукоў, іх характары, звычаі, не мог пісьменнік не ўзяцца за пяро, не напісаць аб гэтай трагедыі. Раман "Злая зорка" мы ў сям'і прачыталі ўсе. Тата сказаў: "Усё вельмі праўдзіва, здаецца, што гэта не мастацкі, а дакументальны твор. Такое ўражанне, што і я расказваў пісьменніку аб падзеях тых першых злашчасных дзён".

Ну а цяпер чарга за намі, вучнямі. Напішам пра тое, што нельга забыць. Нельга забыць дзеля будучыні Беларусі, нельга забыць дзеля дабрабыту беларускага народа, нельга забыць дзеля таго, каб ніхто ніколі не мог сказаць пры такой катастрофе: нічога не здарылася, не ад радыяцыі хварэюць і паміраюць... Так, гэтага больш не будзе.

4 Зак. 391

*Ольга АНТОНОВИЧ,*
*ученица 8-го класса*
*СШ N10 г. Гомеля*

# Небо резко потемнело...

26 апреля был удивительно яркий и красивый день. К нам пришли друзья нашей семьи со своими детьми, чтобы поздравить моего младшего брата Сашу с днем рождения. Мы вместе долго гуляли по парку, катались на качелях. Все были довольны! И вдруг небо резко потемнело, поднялась сильная песчаная буря. Мы побежали домой, а ветер срывал панамки у малышей и забивал песком глаза, нос, волосы...

Наступили первомайские праздники. Буйно зеленели деревья и трава, каштаны выбросили свои свечки, и никто не знал, что всюду таится опасность.

Моему братику Саше было тогда только два года, и ему все хотелось попробовать: будь то камешек, веточка, листик с дерева. Но ему говорили — нельзя!

А потом начали вывозить детей подальше от радиации, хотя, как показало время, для многих это было уже поздно.

Детей эвакуировали классами. Их сопровождали учителя и некоторые родители. Моя бабушка была учительницей младших классов. Вместе с мамой мы ходили провожать ее. Помню огромную толпу людей на вокзале. Родители стояли с одной стороны, а дети с учителями — с другой, у вагонов. Все плакали, тянулись друг к другу. Расставались так, словно не суждено было встретиться! Бабушка со своим классом на все лето уехала в Северную Осетию. До сих пор она рассказывает нам, как их встречали совершенно

чужие люди, на руках выносили из вагонов, приглашали к себе домой, приносили фрукты, цветы. Бабушка все эти годы переписывалась с учительницей из Северной Осетии. А теперь там — война, тоже страдают люди.

В середине мая мама, я и Саша уехали в Москву. Позвонил однополчанин дедушки и просто сказал: "У вас беда. Приезжайте". Мы жили в их небольшой двухкомнатной квартире. Милые, отзывчивые люди. Папа нас не провожал. Он — офицер милиции, его отправили в 30-километровую зону помогать эвакуировать людей. В августе 86-го вернулись в Гомель. Мы старались убежать от чернобыльской беды, но она настигла нас.

Чернобыль... Я осязаю горький вкус этого слова. Оно вязнет, перекатывается во рту и застревает в горле. Чернобыль, это ты убил радость в нашей семье, заставил умолкнуть звонкий смех моей мамы, погасил радость в ее глазах.

Мамочка, я, наверно, больше никогда не увижу тебя по-настоящему счастливой. С того страшного дня, когда в клинике НИИ радиационной медицины в Минске тебе сказали, что у твоего младшего сына заболевание щитовидной железы, ты выплакала свои глаза. Тревога навсегда поселилась в сердцах моих родителей. Они прошли все круги ада, помогая моему братику преодолеть недуг. Своими руками мама отнесла его на операционный стол. Две операции, долгое и трудное лечение, многократные обследования.

Мой брат был в числе первых детей, пострадавших от Чернобыля. А сколько их по всей республике! У нас в городе создана организация "Дети в беде", которая объединяет семьи, имеющие детей с заболеваниями крови и щитовидной железы, детей, пострадавших от аварии на ЧАЭС.

Простые люди из Германии, Италии, Австрии и других стран стараются помочь детям. Они принимают их в свои семьи, обогревают теплом и лаской своих сердец. Я сопровождала Сашу в Германию, когда он ездил с группой больных детей. Я смотрела на них и думала, что эти дети — за-

ложники Чернобыля. Среди них была очень веселая и симпатичная девочка Катя. Никому не верилось, что она тяжело больна. Мы ездили весной, а осенью я узнала, что она умерла...

У Саши на столе стоят бумажные журавлики. Их ему подарили японские врачи, которые приезжали в Минскую клинику. Помню, Саша очень плакал, когда узнал о девочке из далекого города Хиросима. Она тоже не успела убежать от беды, не успела доделать своих журавликов...

Хиросима, Чернобыль... Мы живем на такой маленькой планете.

Пепел этих страшных трагедий никогда не остынет в наших сердцах!



*Мал. Ані ЦЫБУЛЬКА, г. Віцебск*

*Жанна ТАЧЫЛА,*
*вучаніца 8-га класа*
*СШ N29 г. Гомеля*

# Лірычны калейдаскоп

У 1986 годзе я была яшчэ маленькая і нічога не разумела. Але некаторыя дні гэтага года назаўсёды засталіся ў маёй памяці.

**24 красавіка 86-га.**

Прачнулася ў шэсць гадзін. Раніца была цудоўная. Зусім нядаўна ўзышло сонца і заспявалі першыя птушкі. На траве блішчалі маленькія кропелькі расы, якія надавалі ёй нейкую чароўную прыгажосць. Я сядзела каля акна, наглядаючы за абуджэннем прыроды, і думала пра наш сённяшні паход у лес.

Дзень прайшоў спакойна, без ніякіх здарэнняў. У пяць гадзін вечара мы ўсёй сям'ёй пайшлі ў лес. Якая прыгажосць вакол! Здавалася, трапіла я ў чароўную казку. Сонейка сваімі залатымі промнямі, як маці, ласкала вяршаліны дрэў. Шапацела лісце, быццам напявала нейкія незнаёмыя матывы. На лузе, сярод маладой траўкі, рассцілаўся каляровы дыван кветак. Я хадзіла па лесе і дыхала чыстым паветрам, напоўненым водарам хвоі. Мы і не заўважылі, як надышоў вечар. Пачало цямнець, на небе, далёка-далёка ад нас, з'явілася некалькі яркіх маленькіх зорачак.

**26 красавіка 86-га.**

Зноў цёплы вясновы дзень. На вуліцы была такая прыгажосць, здавалася, што яе нічога не можа парушыць. Ні воблачка, ні хмаркі, толькі недзе далёка нешта пагрымвала.

У гэты дзень бацька раней вярнуўся з работы, забраў мяне і брата з садзіка. Мы прыйшлі дамоў. Мама зачыніла ўсе

вокны. Яна была вельмі ўсхваляваная. Што здарылася? Я нічога не разумела. Цэлы дзень былі ўключаны радыё і тэлевізар. "Чаму нічога не гавораць?" — кожнага з нас хвалявала адзінае пытанне.

**1 мая 86-га.**

Свята. Дэманстрацыя. І я з бацькамі і братам тут. А вакол толькі і чуюцца размовы аб тым, што здарылася чарнобыльская аварыя. Чаму ж па радыё і тэлебачанні нічога не гавораць?

**2 мая 86-га.**

Вечар. Як заўсёды, мы ўсёй сям'ёй сядзім каля тэлевізара і чакаем інфармацыйную праграму "Час". Пачынаецца праграма, і аб'яўляюць аб здарэнні на ЧАЭС. Афіцыйна выказаная вестка пачынала ўсё больш хваляваць.

**3 чэрвеня 86-га.**

Людзі ад'язджаюць у чыстую зону: хто — на мора, хто — у горы, хто — за мяжу. Некаторыя там і застаюцца. Мы ўсёй сям'ёй паехалі ў Адэсу. Там усе гаворкі толькі пра Чарнобыль. Але ж адэсіты, так, як і мы, нічога пэўнага не ведаюць і не разумеюць, што здарылася.

**3 красавіка 1994 года.**

Я пішу сачыненне на тэму "Чарнобыль у маім лёсе". А што прынёс мне Чарнобыль? Усё дрэннае. Я дыхаю паветрам, у якім шмат радыяцыі. Я ем атручаную ежу, п'ю кепскую ваду.

Мінула ўжо восем гадоў, а мы так і засталіся са сваёй бядой і нічога не думаем змяніць. Першы час нам дапамагалі людзі з іншых рэспублік, з-за мяжы: бралі нашых беларускіх дзяцей на аздараўленне. Але не ўсе гэта рабілі з дабрачынных памкненняў, некаторыя рабілі з карысці, дзеля рэкламы. Мне пашанцавала. Я ездзіла з класам чатыры гады запар у лагер, што пад Масквой. Нас заўсёды ветліва сустракалі, добра кармілі, адносіліся як да родных. Бачыце, яшчэ засталіся добрыя людзі, якія гатовы нам дапамагчы, і мне хочацца верыць, што міне час і мы адолеем экалагічны крызіс, але ж дзеля гэтага патрэбны нашы воля і розум. Ці знойдзем мы іх?

*Лилия АДАМОВА,*
*учащаяся Пинского*
*ПТУ-108 трикотажников*

# Подсолнухи — как два солнышка

Лето 1986 года... Перед каникулами из Ленинграда позвонила папина сестра. Она была очень расстроена, плакала, сказала: "У нас здесь считают всех беларусов обреченными. Пришлите детей хотя бы на месяц". Папа взял отпуск и повез меня и брата в Ленинград. Мы быстро подружились с нашими одногодками во дворе. Но однажды, когда мы с братом играли в мяч, к нам подошли мальчишки и, показывая на нас пальцем, стали смеяться. "Чернобыльские ежики! Интересно, вы в темноте светитесь?!" — кричали они. Мы не знали: смеяться нам вместе с ними или обижаться на них. Но в душе нам было очень больно. Мы почувствовали себя клейменными, виноватыми, хотя в чем была наша вина, не знали. С тех пор мы редко выходили во двор, а потом написали домой, чтобы нас забрали.

В учебном году у многих школьников начались головные боли, обморочное состояние, и на все это мы слышали одно объяснение — радиация.

А еще через год в нашу семью пришла беда.

Моя мама из Гомельской области. Там живут все ее родственники. Первая весточка пришла из городского поселка Костюковка — умер дядя Коля, а спустя восемь месяцев — тетя Даша. И опять одно объяснение — радиация.

В Хойниках живет мамина двоюродная сестра. Она написала, что очень плохо себя чувствует и просит нас приехать к ней. Мама не хотела брать меня с собой, но я уговорила ее.

И вот мы в Хойниках, о которых так много писали и говорили. Раньше, наверное, это был красивый город. Сейчас этого о нем не скажешь. Мы увидели заколоченные дома, запущенные дворы, заросшие крапивой и лебедой. На это невозможно было смотреть без слез. Кажется, что дома с заколоченными крест-накрест окнами так и кричали: "Где же вы, люди! Приезжайте, живите! Мы вас ждем!"

Неужели эта земля никогда больше не услышит звонкого детского смеха, не вырастет здесь дерево, чтобы спрятать под своей листвой от горячих лучей уставшего путника. И вдруг... в одном из заброшенных дворов, среди бурьяна, я увидела два подсолнуха. Они стояли на тонких стебельках, как два солнышка, и сами тянулись к солнцу, к жизни. Они были как луч надежды на лучшее. И я подумала: "А может, еще не все потеряно. Вернется сюда жизнь, должна вернуться!"

Мама уговорила сестру переехать к нам. Тетя отказалась. Но теперь ее дети каждое лето приезжают к нам на каникулы.

Мы пробыли в Хойниках несколько дней, но все, что я там увидела, останется в моей памяти навсегда.

И даже после этой поездки я полностью не осознала ту беду, которую причинила нам катастрофа.

Понимание всего горя, всей утраты пришло, когда я посмотрела телемарафон "Дети Чернобыля". Невозможно было отойти от телевизора. Мама весь день плакала. Мне стало страшно, хотелось зарыться в подушку и ничего этого не видеть. Но человек привыкает ко всему. И вот спустя восемь лет все это не кажется таким страшным.

У людей всегда должна быть надежда. Хорошо, что она умирает последней.

И сейчас, когда я читаю газеты и узнаю по телевидению прогнозы о том, что нас ожидает в ближайшем будущем, мне хочется крикнуть: "Нет! Я знаю, я верю — жизнь вернется!".

Мне только шестнадцать лет. Еще не сбылись мои девичьи мечты. Ведь страшно подумать, что чернобыльская авария своим черным крылом коснется моей судьбы. Вся моя жизнь впереди. У меня будут дети. Какими они будут? Ведь я уже сейчас плохо себя чувствую — у меня постоянно кружится голова. И все же я надеюсь, я верю, что жизнь не остановится.



*Мал. Рыты СЯМЕНЧАНКА, г. Мазыр*

*Галина* **ЮРКИНА,**
*деревня Коротковичи*
*Жлобинского района*

# Под слоем серого пепла

Мне было тогда семь с половиной лет. Жила я с бабушкой и дедушкой в деревне Дроньки Хойникского района. Училась в первом классе. И вот нас постигла беда. Когда [redacted] вышла утром на улицу, мне очень хотелось пить. Дома, деревья, земля — все было покрыто тонким слоем серого налета.

Затем [redacted] услышала разговор бабушки и дяди. Они говорили о радиации, о Чернобыле. Сначала я не поняла, о чем идет речь, и подумала, что начинается война. А я, как и все дети Земли, боялась войны. Первая мысль была убежать в лес и спрятаться. Мне было очень страшно. Я просила бабушку уехать далеко-далеко. Просила уехать к маме в Казахстан. Но бабушка не соглашалась, и я подумала, что маму убили. Это было ужасно. Я кричала сквозь слезы: "Скажите, что мама и папа живы, скажите, что они не умерли". Меня успокаивали. Говорили, что мама жива, что мы к ней скоро поедем. Но я никому не верила, и когда входил незнакомый человек, боялась, мои глаза расширялись от ужаса, я думала, что сейчас скажут: "Девочка, твои родители мертвы". Бабушка все время плакала, и мне казалось, что она плачет по маме.

Потом мы поехали в Хойники, а затем в Минск. Когда меня проверили, то сразу же положили в больницу. Мне ничего не говорили о болезни. Но однажды я подслушала, как врач говорил бабушке, что я нахожусь в тяжелом состоянии: что-то с печенью. Только сейчас я узнала, что печень у меня была увеличена. В больнице я пролежала около двух месяцев. Затем врачи сказали, что нужно менять климат, и



*Мал. Машы ФЁДАРАВАЙ, г. Віцебск*

бабушка отвезла меня в Казахстан. Но и там не было спасения. Стали выпадать волосы. Узнав, что я облучена, со мной никто не хотел дружить. Как я плакала, когда слышала от кого-нибудь небрежное — "травленая".

В Казахстане я прожила недолго. Мне все время было плохо: кружилась голова и я часто падала. Врачи не знали, чем помочь, и мне пришлось вернуться в Беларусь.

Сейчас я живу с бабушкой и дедушкой в деревне Коротковичи Жлобинского района. Дальше — больше стала болеть. У меня больной желудок, почки, печень, увеличена

щитовидная железа. Я часто писала в фонд "Мы — детям", просила о путевке, но было все напрасно. И мне приходилось лечиться в нашей Жлобинской больнице. Но кроме физической боли — боль душевная. Хоть я была тогда еще маленькая, все отлично помню. Я помню свои слезы, слезы родителей, слезы бабушки и дедушки, слезы соседей. Помню, как боялась каждого шороха, думая, что это враги. Помню долгие дни, проведенные в больнице. Помню ту детскую обиду, когда меня обзывали.

Говорят, что время лечит все душевные раны. Правда, боль утихает, но это невозможно забыть. Мне скоро будет шестнадцать лет. У меня остался страх. Страх перед болезнями. Я боюсь за своих будущих детей. Часто слышу о мутациях и очень беспокоюсь, что это может произойти с моими детьми. Таких, как я, очень много. Я уверена, что многие "травленые" испытывают то же, что и я. Если бы это было в моих силах, я бы всем людям в мире сказала: "Люди, одумайтесь. Не совершайте ошибок. Не стройте атомных электростанций. Не делайте атомного оружия. Вспомните Хиросиму и Чернобыль и подумайте о последствиях. Подумайте о детях. Неужели так трудно понять друг друга и прийти к взаимопониманию и миру? Неужели нет другого пути получать энергию? Подумайте, я умоляю вас!"

Услышьте крик простой девчонки. Помогите сохранить нашу планету.



*Ольга РАДЧЕНКО,*
*ученица 6-го класса*
*СШ N177 г. Минска*



# Я такая не одна

Сейчас мне тринадцать. Живу в Минске. Каждое лето я ездила отдыхать, набираться сил и здоровья к бабушке, которая жила в деревне Губаревичи Хойникского района. Не исключением был и тот злополучный год.

Прошло восемь лет, но события тех дней я буду помнить всю жизнь. Получилось так, что у папы был отпуск с двадцать шестого апреля. Он спешил в деревню, чтобы помочь с посевной. И я радовалась, что мы поедем раньше обычного. Только сейчас я понимаю, что радовалась тогда напрасно. Была посевная, и я бегала босиком по вспаханному полю, по молодой траве, радовалась яркому солнцу, голубому небу, свежему весеннему воздуху.

В то время никто даже и не подозревал, что где-то недалеко, в сорока километрах от нас, началась катастрофа. И это яркое солнце, и этот свежий весенний воздух, и этот теплый дождик, который тогда пролился нам на головы, несли в себе столько беды и горя для меня, моих родных, для многих тысяч людей. Узнав об этом страшном происшествии, мы сразу же вернулись в Минск. Я тогда не понимала, почему папа так быстро увозит меня от бабушки, ведь я обычно оставалась там на все лето. Я мечтала, как мы с ба-

бушкой будем ходить в лес за ягодами, как буду купаться в озере недалеко от бабушкиной деревни, как буду с дедушкой пасти коров на лугу. А сколько вкусных ягод, яблок, груш росло в дедушкином саду! Но, к сожалению, всего этого у меня тем летом не было, но было другое: больница, врачи, огорчения и слезы.

Приехав в Минск, мы сразу же обратились в двадцать восьмую поликлинику для обследования. Я помню, сколько людей стояло в очереди, чтобы провериться на радиацию. Было очень жарко, хотелось пить, я плакала и просилась домой, но мама меня успокаивала. После того, как меня проверили, маме сказали, что доза облучения у меня очень большая и следует лечь в больницу. Я все время твердила: "Мамочка, ведь у меня ничего не болит, зачем меня кладут в больницу?!" Все меня успокаивали, обещали, что надолго я там не останусь. Проходили дни за днями, но меня все не выписывали.

Когда мама приезжала ко мне, она заходила к врачу. Выходила из кабинета заплаканная. Тогда я не понимала, почему мама плачет, ведь я себя хорошо чувствовала. Выписали меня только через полтора месяца. И на этом обо мне забыли. Сейчас я два раза в году, по инициативе своих родителей, прохожу обследования. И по истечении стольких лет с каждым годом все острее чувствую на себе радиацию, которой я подверглась в те страшные апрельские дни. У меня плохие анализы, сахар в крови повышен, часто кружится и болит голова, чувствую слабость. Когда мне делается плохо, мама плачет и просит Бога о помощи, а больше нам надеяться не на кого. Я часто по радио и телевизору слышу, как говорят, что заботятся о нас, о тех, кто пострадал от аварии. Но где эта забота?

За восемь прошедших лет я не получила ни одной витаминки, не говоря еще о чем-то, словно так и должно быть, словно нас и не существует. Знаю, что я такая не одна, нас много, пострадавших и никому не нужных. Только наши родители

обеспокоены за нас и наше будущее. Это у них болит душа и сердце, когда нам плохо, когда мы страдаем от боли.

Три года назад деревню, в которой жили мои бабушка и дедушка, выселили, они переехали в Минск. В этом году дедушка умер от рака печени. Ему не было еще и пятидесяти шести лет, бабушка тоже очень слабая, у нее сахарный диабет. И все это — последствия той страшной трагедии.

В прошлом году летом мама сказала, что хочет поехать [redacted] деревню и посмотреть на дом, что ей тоскливо и очень хочется пройти по родному двору. Я попросила взять меня с собой. Мы ездили на один день, и [redacted] никогда не забуду эту картину. Как жутко было смотреть на заколоченные окна и двери домов, в которых когда-то жили люди, на заросшие бурьяном сады, которые никому не нужны. Я долго смотрела на дом, где выросла моя мама, куда она и меня привозила до того рокового дня, который перевернул жизнь многих людей, в том числе и моих родителей, родных и знакомых. Мама плакала, рассказывая мне, как хорошо было [redacted] деревне, какой счастливый и веселый жил здесь народ. А сейчас там пусто, нигде ни души.

Иногда я думаю о своем будущем и о том, как сложится моя жизнь, жизнь моих сверстников, таких же детей, как и я, которые пострадали от аварии.

Хочется выйти однажды на улицу и громко крикнуть: "Люди! Цените жизнь, берегите друг друга, заботьтесь о слабых, давайте надежду утерявшим ее и найдите средство продлить жизнь всем, кого коснулся крылом Чернобыль!"



*Игорь ВАКОЛЮК,*
*ученик 5-го класса*
*СШ N4 г. Жодино*



# Помню, взрослые садили картошку...

Когда случилась авария на Чернобыльской АЭС, я был еще маленьким, но в моей памяти остались некоторые эпизоды. Помню, как мы с мамой и папой поехали из Жодино к бабушке в деревню Оревичи Хойникского района. При встрече бабушка плакала, а я не понимал, почему она плачет. Теперь понимаю. Мы узнали тогда, что на атомной станции произошел взрыв. Я помню, как взрослые садили картошку, а мы, дети, считали самолеты, которые часто летали над нашими головами. Впервые я увидел вертолет, который садился на поле и оттуда выходили военные. А я думал, что это милиция, потому что мама всегда пугала меня милиционером, когда я не слушался ее. На улице я видел людей. Они стояли и плакали.

По возвращении домой мама рассказывала своим знакомым, как эвакуировали нашу деревню, как вывозили скот, как уезжали люди, как плакали и не хотели покидать родные места. Они надеялись возвратиться домой, но сделать это было невозможно.

5 Зак. 391

Мы с бабушкой и тетей уехали в Калининград. Меня сразу положили в больницу, остригли волосы. Лежал в стеклянной палате один. Ко мне боялись входить, потому что я был радиоактивный. Таблетки давали через окошко. Потом приехала мама. Мне стало веселей, и через 10 дней меня выписали. Когда приехали домой, мне стало плохо, и меня опять положили в больницу. С тех пор я часто лежу в больницах. Дважды был в Аксаковщине. Однако мне почти ничего не помогает. Но я не теряю надежды выздороветь. Мне жаль мою маму, бабушку, тетю. Они также заболели. Хоть я ничего не понимаю в этой радиации, знаю одно: она очень вредна для всех людей, знаю, что много детей уже умерло от разных болезней.

Я очень хочу, чтобы взрослые и дети никогда не болели. Всем людям желаю крепкого здоровья и счастья. И чтобы тем, кто был в чернобыльской зоне, не говорили: "Вас туда никто не посылал". Но мы не одни такие, нас много.




*Мал. Сашы КІШУМАНЁВА, г. Мінск*

*Наталля ЯРМОЛЕНКА,*
*вучаніца 11-га класа*
*Брагінскай сярэдняй школы*



# Кветкі ля хаты

*Чарнобыльскі пыл,*
*як смецце,*
*Вятры пазмятуць*
*куды?*
*Жывём мы на гэтым свеце*
*Заложнікамі бяды.*

*Рыгор БАРАДУЛІН*

Усё далей і далей адыходзіць тое, што ўскалыхнула ўначы горад Прыпяць, навакольныя сёлы, старажытны гарадок Чарнобыль і ў цэлым Палессе.

Пачаўся адлік трагічнага часу.

Дваццаць восем маладых хлопцаў уступілі ў схватку з агнём, які стаў смяротным для многіх з іх. Ніхто не адступіў перад небяспекай. Кожны разумеў, што знаходзіцца ў зоне павышанай радыяцыі, але ні ў аднаго з іх не з'явілася думка адступіць, не выканаць свой службовы і высокі грамадзянскі абавязак. Ад іх залежала жыццё многіх людзей і, мусіць, лёс самога жыцця на планеце.

Кожны, хто тушыў пажар непасрэдна на Чарнобыльскай АЭС, заслугоўвае таго, каб пра яго напісалі гісторыкі. Няхай ведаюць людзі, як ведаюць пра Аляксандра Матросава, як мы ведаем пра свайго земляка...

У першыя дні аварыі шэсць пажарнікаў атрымалі смяротную дозу апрамянення. Сярод іх — таксама і наш зямляк Васіль Ігнаценка з ціхай вёсачкі Спярыжка, што на Брагіншчыне. Яму б жыць ды жыць, а лёс абарваў жыццё ў дваццацігадовым узросце.

Зараз, праз восем гадоў, мы ведаем горкую праўду. Чарнобыль высвеціў многае, і мы бачым вытокі бяды і злачынствы некаторых людзей, ведаем пра нязгасны подзвіг пажарных, верталётчыкаў, аператараў станцыі, радавых тэхнічных работнікаў і салдат. Што было б, каб не яны, каб чарнобыльскі радыеактыўны вулкан дзейнічаў яшчэ колькі дзён або тыдняў?

Мы спазналі, нарэшце, што вынікі аварыі і розныя страты аказаліся больш маштабнымі і сур'ёзнымі, чым гэта ўяўлялася нават буйным вучоным і спецыялістам.

У першыя дні трагедыі людзі жылі ва ўмовах традыцыйнага яе замоўчвання. Таму і нельга было прабіцца праўдзе ў сродкі масавай інфармацыі, ніякім чынам не дапускаліся трывожныя папярэджанні насельніцтва.

Гублялі час, "аптымізавалі" сітуацыю, замоўчвалі сапраўднае становішча.

Легкадумнымі і даверлівымі былі мы, жыхары зоны паражэння, у першыя дні аварыі. Жылі тым самым жыццём, што і да аварыі: дзеці бегалі пад радыеактыўным дажджом, праводзілі спаборніцтвы, елі піражкі з адкрытых латкоў, хадзілі ў лес, а дарослыя працавалі на полі.

Памятаю, бацькі не ўзялі мяне з братам на першамайскую дэманстрацыю. Адчувалася бацькоўская перасцярога. А вось ад радыеактыўнага дажджу нас ніхто не збярог.

Гэта было ў нядзелю. Мне захацелася пасадзіць кветкі ля хаты. А потым сыпануў спорны дождж, які паддаў мне ахвоты, бо кветкі лепш садзіць і перасаджваць пад дождж. Да мяне прыбег брат. Мы прамоклі да нітачкі, але кветкі ўсё ж пасадзілі. Калі прыйшлі ў хату, вопратка і абутак былі з зеленаватым налётам. Мой брат растлумачыў, што вецер і

дождж прынёс пылок з раслін, але, як мы ведаем цяпер, гэта быў не пылок, а жудасны пыл і попел Чарнобыля. Ён застаўся і дзейнічаў не толькі на адзенні, але і ў нашых шчытападобных залозах, у нашай крыві, адбіўся на нашым лёсе.

Зараз мне пайшоў семнаццаты год, але ўжо на працягу сямі гадоў я жыву з хваробай шчытападобнай залозы. Знаходжуся на ўліку ў Гомельскім супрацьзобным дыспансеры. Рэгулярна ўжываю лекі. Узрост мой, бадай, самы яркі, а жыццё не радуе. За што я павінна пакутаваць?! Мне было тады толькі дзевяць. Якая ж у мяне будучыня?

Вось тое, што я ведаю, што даў Чарнобыль мне, майму здароўю. Але гэта не ўсё. Катастрофа абарвала мае карані, раскідала маіх родных і блізкіх па ўсёй Беларусі.

Душу кожнага з нас сціскае невыносная горыч, смутак па роднай зямлі і прыродзе.

Забруджаны воды Прыпяці, атручаны крыніцы, векавыя лясы, ураджайныя палі.

Ростань не ў сілах адарваць душу ад родных студняў, двароў, хат.

Чарнобыль па сваіх жудасных выніках раўназначны ядзернай вайне, якая няўмольна патрабуе ахвяр, не шкадуе ні дзяцей, ні дарослых. Расплачвацца ж за аварыю выпадае народу, плаціць па самым вялікім рахунку — людскімі жыццямі, калецтвамі ды ўсякай немаччу.

Многія людзі з забруджанай радыяцыяй тэрыторыі развіталіся назаўсёды са сваімі мясцінамі. Як цяжка ў сталым узросце прырастаць на новым месцы! Я бачу гэта па сумных вачах бабулі, цёткі Надзі. Цяпер яны жывуць у розных мясцінах Беларусі. А іхняя вёска Рафалаў зараз зарастае дзядоўнікам у рост чалавека. І гэта замест прыгожых кветак, наліўных яблыкаў і крынічак з вербамі.

Балюча адчуваць, што больш не існуе і вёска Кругрудка, дзе жыла мая другая бабуля. Яна, бабуля Алена, памерла ўжо, так і не зведаўшы, якое жудаснае відовішча адбылося.

У год яе смерці пахавалі і вёску, дзе яна пражыла ўсё жыццё. Ад гэтай вёскі толькі ржавая воданапорная вежа засталася. Можа, ператварыць яе ў крыж?

Сэрца заходзіцца ад жалю, слёзы коцяцца самі сабою, калі прыгадваю той дзень, у які паміналі вёскі, служылі малебен па вёсках, якія больш не існуюць на зямлі. А іх толькі ў нашым Брагінскім раёне восем. Хіба ж дзе ў свеце такое было? Няма сілы змірыцца з цяжкай рэчаіснасцю, з тым, што сцежкі майго басаногага дзяцінства адабраў Чарнобыль і парушыў Бацькаўшчыну.

Чарнобыль — адкрытая рана. Ахвяраў гэтай аварыі нельга злічыць.

Але на свеце ёсць добрыя людзі, якія ў цяжкую хвіліну падтрымліваюць і словам, і справай. Аб гэтым сведчаць паездкі нашых дзяцей за мяжу. Праўда, не ўсім шанцуе. І ўсё ж гэта добры знак.

Ёсць боль, але ёсць і гонар Чарнобыля. Лепшыя людзі планеты падалі руку дапамогі. У бяды ж размытыя межы. Людзі адчулі, што не могуць быць абыякавымі да чужой бяды, якая незнарок можа і іх напаткаць.

Дык няхай наша бяда паслужыць набатам, які разбудзіць розум усіх людзей свету і не дасць магчымасці выкарыстаць энергію атама на бяду чалавецтва.

Няхай жа на ўсёй нашай планеце кожнаму чалавеку ўсміхнецца незамглёным днём шчаслівая будучыня!

Няхай чалавецтва, жывучы ў міры і дружбе, ніколі не зведае разбуральнай сілы наўмысна растрывожанага атама.

Няхай вечна жыве наша Зямля!

Нібы вугалёк цепліцца надзея, што не патухне жыццё і ў нашым палескім краі. Дай, Бог!

*Леанід ШЫПІНСКІ,*
*вучань 11-га класа*
*Кармянскай СШ Добрушскага раёна*



# Там, дзе калісь мы гулялі

*Бегаў сын на прасторы...*
*Дзе там ведаць было,*
*Што з Чарнобыля гора*
*Хмарай сіняй плыло...*

*Эдзі АГНЯЦВЕТ*

У маляўнічым куточку паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі, у Брагінскім раёне паміж вёскамі Піркі і Сувіды, размяшчаўся прыгожы пасёлак Сонечны, цэнтр саўгаса "Брагінскі". Гэта быў новы пасёлак са шматпавярховымі дамамі, утульным дзіцячым садком, школай, сталовай, лазняй. Вось-вось павінны былі адчыніцца дзверы Палаца культуры і новай крамы...

Тут, у гэтых мясцінах, якраз і прайшло маё дзяцінства. Кажуць, што ўспаміны дзяцінства самыя яскравыя. Яны адбіваюцца ў нашай памяці назаўсёды. Таму, напэўна, я добра памятаю бярозавы гай, што раскінуўся з аднаго боку пасёлка. Казалі, яго пасадзіў мой прадзед, калі працаваў лесніком. Гай гэты — сама прыгажосць. Паглядзелі б вы на яго зімой, калі галінкі бяроз прыцярушаны лёгкім сняжком! Ідзеш — як у казцы! А як прыгожа тут вясной, калі толькі-толькі пачынаюць распускацца маладыя клейкія лісточкі, ці восенню, калі яны набываюць жаўтлявы колер! Вам не да-

водзілася паспрабаваць і гнілак, што густа ляжалі пад грушамі-дзічкамі. Смак іх я нават не бяруся апісаць.

У Сувідах жылі мае дзядуля і бабуля. Я з бацькамі часта хадзіў да іх. Мы вельмі любілі блукаць па бярозавым гаі і маладым ляску, што пачынаўся адразу за гэтым гаем і сваім крылом як бы закрываў прыгожую вёску ад вятроў і розных нягод. Але ўсё ж не закрыў...

Чарнобыль... Ён знаходзіўся ад нас за 25 кіламетраў. Часам бацькі ездзілі туды і прывозілі мне шмат ласункаў. Помніцца, з якім апетытам налягаў я на згушчанае малако ці ўкраінскія каўбасы. Аднойчы я таксама там пабываў. Мне спадабаўся гэты невялікі ціхі гарадок, у якім найчасцей сустракаліся аднапавярховыя драўляныя дамы. Час ад часу я пытаўся, ці скора бацькі паедуць туды зноў, у надзеі, што мяне таксама возьмуць.

15 красавіка 1986 года ў мяне нарадзіўся брацік. Якая радасць! Мне тады якраз споўнілася восем з паловай гадоў. 26 красавіка ў нашай сям'і адзначалі хрэсьбіны. Было шмат гасцей. Весела заліваўся гармонік, яго змяняў магнітафон, але твары ва ўсіх былі чамусьці невясёлыя. Усе аб нечым усхвалявана размаўлялі. З Янава прыехала сваячка і расказала, быццам нешта ўзарвалася ў Чарнобылі, а вуліцы паліваюць нейкай пеністай вадой. Але дакладна ніхто нічога не ведаў.

Мне ж да размоў дарослых не было аніякай справы. Мой позірк быў скіраваны да ложка, на якім мірна пасапваў брацік. Я марыў, як ён вырасце і мы з ім будзем, трымаючыся за рукі, бегаць па дарагіх майму сэрцу мясцінах.

Мы, дзеці, не ўяўлялі сабе, што ў Чарнобылі здарылася нешта страшнае, непапраўнае. Да нас у пасёлак прыязджаў тады нейкі начальнік з раёна і сказаў, што праз 2—3 дні ўсё нармалізуецца. Таму мы па-ранейшаму гойсалі на футбольным полі, да позняга вечара гулялі ў хованкі. Дамоў прыбягалі брудныя, пыльныя. Хіба хто ведаў, што гэты пыл небяспечны для нашага здароўя?! Хутка многія бацькі

пачалі вывозіць сваіх дзяцей далей ад бяды. Маці таксама склала невялікую сумку, узяла на рукі малога, якому споўнілася ўсяго два тыдні, і мы рушылі ў дарогу. Здавалася, ненадоўга, а як высветлілася, назаўсёды...

Дзе толькі не давялося пабываць... Воляю лёсу мы апынуліся ў сваякоў у Оршы. Потым нас чамусьці забралі ў Віцебскую абласную дзіцячую бальніцу, дзе два тыдні за намі пільна сачылі ўрачы, амаль кожны дзень ва ўсіх бралі аналіз крыві.

Толькі ў пачатку мая па тэлевізары аб'явілі аб чарнобыльскай катастрофе. А 4 мая, якраз на Вялікдзень, жыхары нашага пасёлка і саўгаса былі эвакуіраваны.

З Віцебска мы паехалі да бабулі ў Кармянскі раён. Дарэчы, калгас "Радзіма", у якім жыла мая бабуля, таксама адсялілі, бо і там узровень радыяцыі вельмі высокі. Зараз у гарадскім пасёлку Карма будзе ўзводзіцца помнік ахвярам выбуху на ЧАЭС. Аб гэтым нядаўна пісалі ў "Звяздзе". Пасля доўгіх пакут мы атрымалі кватэру ў вёсцы Карма, што на Добрушчыне. Але і гэта мясцовасць забруджана і знаходзіцца ў зоне перыядычнага кантролю. І мне здаецца, што на Беларусі няма куточка зямлі, які б не закранула чарнобыльская бяда.

Чарнобыль. Чорны боль...

Два гады таму маці ехала да сваякоў у гарадскі пасёлак Камарын, гэта ў Брагінскім раёне, і я ўпрасіў узяць мяне з сабою. Усю дарогу я думаў пра тое, каб не прамінуць месца, дзе знаходзіўся наш пасёлак. Вось паказаўся першы пяціпавярховы дом. Побач наш... Як калоціцца сэрца, здаецца, вось-вось выскачыць! "Мама, глядзі, вунь акно нашай кватэры!" — крычу я. Пасажыры здзіўлена паглядзелі на мяне, але ніхто не папракнуў. Напэўна, зразумелі маю радасць. І мой боль... Выбітыя шыбы, вывернутыя дзверы, высокі тоўсты быльнёг на тым месцы, дзе калісь мы гулялі. Не, не такой я ўяўляў сустрэчу са сваім родным кутам. Але гэта была мая радзіма, такая блізкая і такая незнаёмая.

Зямля, на якой нельга сеяць. Вада, якую нельга піць. Паветра, якім нельга дыхаць. Бацькоўскі дом, які пакінулі назаўжды.



*Малюнак аўтара*

Кажуць, маё пакаленне ўжо не вернецца туды. А хто ведае, ці вернуцца нашы дзеці, унукі?.. Не губляю надзеі, што калі зямля "перахварэе" цэзіем, стронцыем, плутоніем, мы вернемся! І няхай гэта будзем не мы, а нашы далёкія нашчадкі, зямля пазнае тых, хто спрадвеку жыў на ёй. Пазнае і прызнае. І яны, нашы нашчадкі, адродзяць гэтую пакутлівую зямлю. І зноў, як і раней, наша Бацькаўшчына будзе радаваць сэрцы людзей. Толькі тыя людзі будуць шанаваць і берагчы сваю зямлю, каб не здарылася зноў чорнае гора.

Я веру ў гэта.

***Святлана ХВАРАСЦЕНКА,***
*вучаніца 9-га класа*
*гімназіі N1 г. Баранавічы*

# Цёмная паласа над морам

*Экалогія — навука аб узаемаадносінах паміж чалавекам і навакольным асяроддзем.*

***З вучэбнага дапаможніка***

Чарнобыль... У назве гэтага старадаўняга горада быццам нейкае змрочнае прадказанне. Было, быль... Але, на жаль, Чарнобыль — гэта не быль сівых вякоў, не мінуўшчына, гэта сучаснае — гора, пакуты, боль, слёзы.

На месцы катастрофы ўсе хаты, дрэвы, расліны — усё, што ў памяці людзей, зраўняна з зямлёю. Гэта мёртвая зона. Мёртвая... Яна, безумоўна, адрозніваецца ад выселенай, бо ў выселеных вёсках засталіся хаты, сады, агароды, толькі іх ужо не даглядае ўважлівае вока гаспадара.

У некаторых вёсках яшчэ можна сустрэць чалавека. Гэта людзі, якія вярнуліся назад у свае хаты, кватэры, якім жыццё — не жыццё ўдалечыні ад радзімы, роднага кутка, дзе выраслі, кахалі, марылі, дзе гадавалі сваіх дзяцей, унукаў.

Зазірніце ў вочы гэтых людзей. Што вы ўбачыце ў гэтых вачах сёння?

Ужо два гады я жыву ў іншым горадзе. Раней жыла ў 60-кіламетровай зоне, адкуль высяляліся сем'і з дзецьмі. Памятаю, як нас прымалі ў піянеры. Мы, дзеці, вырашылі, што наш атрад павінен насіць імя Васіля Ігнаценкі, нашага земляка, пажарніка, удзельніка ліквідацыі аварыі на ЧАЭС. Аднойчы ў бальніцы, калі Васіля наведала маці, ён папрасіў

прывезці вады з іх крыніцы. Васіль не ведаў, што ніхто ўжо не п'е той вады, — забруджаная, яна болей нікому не натоліць смагу.

Маці Васіля Таццяна Пятроўна працавала ў карціннай галерэі нашага гарадскога пасёлка. Яна расказвала нам аб прыгожых карцінах, ды толькі ў адной зале, прысвечанай чарнобыльскай бядзе, не знаходзіла слоў. Неўзабаве там быў пастаўлены бюст Васіля Ігнаценкі.

Калі пачынаюць гаварыць пра Чарнобыль, я ўспамінаю фільм, у якім расказвалася пра першыя дні пасля аварыі. З горада энергетыкаў Прыпяці высялялі людзей, а маленькі хлопчык згубіўся і застаўся адзін. Ён бегаў па горадзе, шукаючы маці, але не знайшоў ніводнай жывой душы. Малому так патрэбна была маці, якая б суцешыла і супакоіла яго. Нікога-нікога не ўбачыў ён вакол, толькі сустрэў маленькае кацяня, з якім увесь дзень блукаў па горадзе, трымаючы яго на руках. У той жа дзень хлопчык памёр.

Аднойчы на выставе, прысвечанай Чарнобылю, я ўбачыла карціну, якая ўсхвалявала мяне і надоўга запомнілася: прыгожая дзяўчына плыве ў лагодным сінім моры, а над ёй — шэрая пагрозлівая хмара. Мне здаецца, мастак паказаў у асобе дзяўчыны Беларусь. Ці выплыве, ці прыб'ецца яна да берага светлага і шчаслівага жыцця?

У гісторыі Беларусі можна вызначыць цёмныя палосы — гэта войны. І апошняя паласа — Чарнобыль.

*P.S. Крышку пра сябе. Мне 15 год. Нарадзілася ў гарадскім пасёлку Брагіне і ўвесь час, да мая 1992 года, жыла там. Пасля наша сям'я пераехала ў Баранавічы. Пачуўшы па тэлебачанні, што можна пісаць сачыненне на тэму "Чарнобыль", я адчула штуршок сумлення і свядомасці: павінна напісаць! Я ведаю, што гэта бяда закранула не толькі маю сям'ю — многіх людзей.*

*Я вам удзячная за гэты конкурс. Вельмі добра, што многія выкажуцца пра Чарнобыль.*

*Ирина ЧЕРНОБАЙ,*
*ученица 4-го класса*
*Чемерисской СШ Брагинского района*

# Откуда я родом

Моя мама проверяла тетради с сочинениями "Чернобыль в моей судьбе" и спросила, что я знаю о Чернобыле. Знаю, что когда я была совсем маленькой, на Украине взорвалась атомная станция. Она называлась Чернобыльской. Мама говорит, что только в мае детей увезли подальше от грязи и радиации со станции. Мы целое лето жили на турбазе возле Гомеля. Я помню высокие сосны и шишки под ними.

Моего братика Тимы тогда еще не было. Он родился позже. Какой он был маленький! Каждый год, и это я уже хорошо помню, папа с мамой старались увезти нас к Черному морю набраться сил, отдохнуть, выкупаться, позагорать. Из окон поезда виднелись веселые, разноцветные, пестрые поля, заводы с дымящими трубами, виноградники в горах и много-много интересного. Но самое волщебное — это море. Даже когда не было солнца и погоды, мы ходили к нему послушать, как оно шумит. Когда погода, волны почти бесшумно ложатся на песок и ласкают босые ноги. Вот сердитый старик Нептун дергает за волосы своих дочерей и выбрасывает водоросли на камни. А вот легкий ветерок несет прохладу с ночного водного зеркала, и видно, как в горах зажигаются огни. Однажды мы видели итальянский корабль. Он весь светился на фоне звездного неба.

Везде живут люди. Только в нашем Брагинском районе много пустых домов, где разбиты стекла и давно никто не живет. Люди или умерли, или уехали. Страшно. Есть целые пустые улицы. Папа говорит, что до Чернобыля — рукой подать и что ветер часто дует оттуда. Может, я еще маленькая

и плохо понимаю, чем это грозит. Нам с братом хорошо возле папы с мамой. Жалко очень, когда они болеют. Не болей, папочка! Мне тяжело смотреть в твои грустные глаза. Нам с Тимой хочется, чтобы ты читал нам книжки про дальние страны, про удивительные камни и звезды. Потому что теперь мы не скоро поедем на море и потому что Тима читать не умеет, а мне много нельзя — плохое зрение, ношу очки и уже лечилась в детском глазном санатории.

И еще мне повезло — нас пригласили пасторы в Германию. Мы ехали туда целых два дня. Я и не знала, что наша Беларусь такая знаменитая. В Польше на деревьях — белорусские флаги, а в Германии фонари тоже покрашены под цвет нашего флага. Нам очень понравилось в парках. Лебеди на реках и косули бегают прямо по дорожкам. Немцы любят животных, подкармливают их.

Бедные наши зверюшки. В лесах они жуют радиоактивные желуди, щиплют грязную траву и, наверное, тоже болеют, как люди. К нам давно уже зимой не прилетают снегири. Может, их чернобыльским ветром сдуло? И аисты теперь редкие гости.

Наши бабушка и дедушка живут в маленькой деревне у самого леса. Там очень красиво. Когда весной Днепр разливается, разные звери собираются на остров, поближе к людям. Они надеются, что люди их перевезут на лодках в деревню. Зайцев можно (дедушка однажды так и сделал), а вот что делать с дикими кабанами? Лоси сами хорошие пловцы и после того, как вода спадет, опять убегают под защиту зеленого бора. Один раз, когда мы с бабушкой собирали бессмертник, видели рыжую лисичку.

Я люблю жареное сало на костре и сваренную уху. Мне приятно писать про это. Ведь это моя родина, тут проходит мое детство. Очень хочется, чтобы природа и люди жили долго. Чтобы не росли страшные атомные грибы. Чтобы можно было пить чистую родниковую воду. Мои родители мечтают дожить до внуков. Когда я вырасту, то не дай, Бог, чтобы мои дети знали, что такое радиация.

*Василий АГЕЙЧЕНКО,*
*ученик 8-го класса*
*СШ N141 г. Минска*

# Я вспоминаю...

Я вспоминаю ту весну,
Перед глазами — домик милый.
Сбежать туда не премину...
Каким я был тогда счастливым!

Каким я был тогда счастливым,
Веселым, радостным, игривым!
И вот теперь мой дом пустой,
Наш огород зарос травой,
Уже никто не ловит рыбу.

Уже никто не ловит рыбу,
Там не услышишь смех детей,
Весною, после того взрыва,
Накрыло множество людей.

Накрыло множество людей,
И сникло счастье незаметно,
Попробуй вновь его найди!..
И вдалеке от нив заветных
Я оказался взаперти.

Я оказался взаперти,
О, как тут мне все надоело:
Больница, врач и медсестра...
Зачем ложился я сюда?

Зачем ложился я сюда?..
Как я хочу к себе домой,
К лесам, полям, к своим озерам...
Не охватить желаний взором.

Не охватить желаний взором...
Опять заходит медсестра.
Она рукой снимает грезы.
Улыбка тает на губах,
И остаются только слезы
В наивных голубых глазах.




*Мал. Тані КАНЧАР, г. Мінск*

*Диана БАЛЫКО,*
*ученица 9-го класса Минской экономической школы-гимназии*



# Верните мне родину!

*Обнаженные нервы земли*
*Неземное страдание знают.*

*Владимир ВЫСОЦКИЙ*

...И зазвучал до боли родной, далекий голос: "Мне трудно дышать, Ладочка..."

Я забормотала во сне: "Бабушка... Не уходи, умоляю. Ведь я так люблю тебя! Нам нужно поговорить о многом впервые и всерьез".

"Ты слышишь, Ладочка, как дрожит земля?"

"Нет. Не слышу, не чувствую... Я сейчас в больнице, лежу на седьмом этаже. Из моего окна видны трубы дымящих заводов и зубчатые кварталы новостроек, простирающихся до горизонта".

Бабушка тяжело ворочается, стонет, плачет. Она кричит: "Неужели вам, живым, не ведомо это?"

"Бабушка, родная, ты жива? Разве не тебя похоронили на брагинском кладбище два года назад?"

Молчание...

"Бабушка, где ты?" — робко прошептала я, а в ответ — тишина. Пустота обуяла мою душу, и я, вздрогнув, проснулась. Страшно... Через стекло в двери увидела, что в конце длинного темного коридора одиноко мерцает мутная лампочка. Над городом поднимался серый рассвет...

Я словно очнулась, потянулась, чтобы обнять бабушку, но руки как-будто ударились о воздух, почувствовали стеклянную стену, разделявшую нас: ее в том мире, меня — в этом.

"Только не забывай ничего, помни..."

И я вспомнила, как переживала, когда в конце апреля 1986 года потерялась наша кошка, моя любимица. А в мае, когда сидела я на скамейке возле дома, что-то белое, оборванное неожиданно шлепнулось мне на колени, жалобно мяукая.

— Да ведь это наша Рыжуха! — воскликнула бабушка.

— Но почему, почему была огненная, а стала белая? — спросила я.

— Поседела она. Чувствую, случилось что-то страшное, ужасное и непоправимое...

Я взяла кошку на руки, прижала к груди, вдыхая знакомый запах.

"Прости", — чуть слышно прошептала я.

"Я чувствую, что скоро умру. Ведь я была ТАМ, и у меня сейчас все нутро горит. Кто был ТАМ, тому не выжить".

Еще ничего не зная, я ощутила в тот момент, что стою на обломках мира. Как же я не почувствовала, когда произошла эта катастрофа, когда рухнул мир! Только теперь я понимаю, что началось все в те апрельские дни.

В феврале 92-го меня из Брагина привезли в Гомельскую больницу. В палате нас было четверо. У всех один и тот же диагноз — лейкоз. Двоих из нас вскоре проглотила ненасытная смерть. И мы остались вдвоем: Оля и я.

Однажды, когда мы разговаривали, Оля вдруг помрачнела и спросила:

— Ты хочешь жить, Лада?

Руки мои беззвучно упали на колени, из глаз покатились две слезинки.

— Только не надо плакать, пожалуйста. Прости, что огорчила тебя, — тихонько сказала Оля. — Но я ничего не могу

с собой сделать, чувствую, что скоро умру. Как ты думаешь: умирать страшно? Смерть бывает всякая — и легкая, и тяжелая. Меня ждет страшная смерть.

— Не говори так! — я почти закричала. — Ты не умрешь никогда, ты слышишь меня, Оля!

Ночью мне снились страшные крики, голоса врачей. Я силилась проснуться, но не могла. А утром, когда увидела еще одну пустую кровать, что-то оборвалось во мне. Я ничего не спрашивала, все поняла сразу, но не заплакала, не закричала, а отрешенно смотрела на черную трещину потолка, которая за ночь, казалось, стала еще больше. Как на зло, два раза зашел врач, постоянно забегали медсестры. Я ничего не слышала из того, что мне говорили. Меня словно окутало саваном пустоты.

В ночной темноте я вдруг начала мелко-мелко дрожать, обливаясь холодным потом, уткнулась в подушку и услышала приглушенный голос бабушки: "Ты поплачь, легче станет".

И` захотелось мне, как в детстве, чтобы пришло чудо и оказалось, что все это мне приснилось — и чернобыльская катастрофа, и седая кошка, и смерть дорогих и любимых, чтобы все было, как раньше.

Завтра мне исполнится 15 лет. А сегодня доктор, почему-то хмурый, сказал, что меня выписывают. И мама плакала.

Приехали домой, в Брагин. Мама сказала, что у ее сестры родился сын, что надо сходить, поддержать... Я ничего не понимала, что значит "поддержать", когда ребенок — это такая радость, такое счастье, тем более, что семья эта так долго ждала первенца. Ему уже почти полтора месяца, а мне только сейчас сообщили...

— Галя, Галочка... — обняла мама сестру.

Неожиданно и страшно заплакал новорожденный. Галя вынула сына из люльки и взяла на руки.

Я ужаснулась, увидев его голову с почти открытым черепом, где что-то пульсировало, стучало, жило. Я выскочила

на улицу. Пробежала по темному двору и за углом чуть не потеряла сознание.

Что делается с нами? Куда, в какую пропасть мы катимся? Зачем собственными руками приближаем конец света? В доме беспрестанно плакал мальчик, сошедший с ума еще до того, как появился на свет.

И я побежала со двора, из города, чувствуя, что тоже способна сойти с ума от одной мысли о том, что творится. Я прибежала в поле, упала на холодную, сырую землю и почувствовала, как она стонет, надрывно кричит, плачет... Горькие слезы покатились у меня из глаз, и горячий майский радиоактивный дождь заплакал вместе со мной. И я закричала в темную пустоту:

— Верните мне родину! Я хочу пройтись босиком по зеленой траве, хочу испить воды из наших озер, хочу лежать на чистой земле и умываться теплым веселым дождиком! Небо, ты слышишь меня?



*Мал. Вольгі ГАПОНАВАЙ, г. Віцебск*

*Марына МІГДАСЁВА,*
*г.Жодзіна*

# Я стараюся быць вясёлай

Чарнобыль... Многія не разумеюць, чаму пры гэтым слове ў некаторых на вочы набягаюць слёзы. Я таксама да нейкага часу не разумела.

Вынікі выбуху на ЧАЭС адбіваюцца на людзях і цяпер. Гэта розныя паталогіі і захворванні. Бяда не абмінула і мяне — я захварэла. Дыягназ: "Лімфома". Становішча цяжкае і сур'ёзнае — амаль прыгавор. У інстытуце, дзе я ляжала, шмат такіх. І ўсе змагаюцца за жыццё. Той, хто не перажыў падобнае, ніколі не зразумее, што такое жыццё.

За свае 16 год я зразумела адно — мы сталі жорсткімі. Часта бачым зламанае дрэўца, раскіданы мурашнік ці гняздо. Толькі некаторыя з нас не пройдуць міма. Так і наша жыццё: адных зламала хвароба, другіх лёс раскідаў па ўсёй Беларусі.

Шмат матэрыялаў друкуецца пра жыццё ў небяспечных раёнах. Цяжка ўявіць сабе малюнак тых мясцін. Асабіста мне бачацца хаты, кінутыя гаспадарамі, агароды, зарослыя бур'яном, пакінутых жывёл. Адзінока скрыпяць дзверы, надрываючы сэрца. Вецярок варушыць лісце на галінах дрэў. І ніводнага чалавечага голасу. Цішыня. Жудасная цішыня вісіць над такімі вёскамі...

Страшна. І ўсё ж для многіх гэта рэальнасць, жыццё. Кожнаму запаў у сэрца і стаў дарагім той кавалак зямлі, дзе ён нарадзіўся. Многія ўжо ніколі больш не ўбачаць яго.

Чарнобыль прынёс людзям бяду, няшчасце, слёзы.

Да нядаўняга часу я толькі ляжала і, гледзячы на сонечныя плямкі на ложку, думала пра свой лёс, пра жыццё іншых людзей. Усім хочацца жыць. За апошні год я вастрэй адчула гэта. Са смерцю мы сутыкаемся паўсюль: сухі лісток, што ўпаў з галінкі, матылёк, які акалеў восенню... Некаторым смерць прыносіць, напэўна, доўгачаканы спакой. Ад нясцерпнага болю хворыя кідаюцца пад цягнік.



Мае суседзі па палаце кажуць: "Мы ўсе як родныя сёстры. Нават больш як родныя, бо іншы раз радня адварочваецца

ад нас. А мы курс лячэння — тут, дома два тыдні — і зноў сюды". Пры гэтым жанчыны нявесела ўсміхаюцца. Колькі іх тут і старых, і маладых! Яны многае не кажуць мне, суцяшаюць, лічаць, чым менш я буду ведаць, тым лепш. Але я ўсё разумела: і чаму медсёстры ў гумавых пальчатках на працэдурах, і чаму многія жанчыны ў хустках, хаця на дварэ лета, і шмат таго, што мне не гаварылі.

Вечарамі я ляжала і слухала, як у чыстым паветры маланкай праносяцца ластаўкі і стрыжы, шумяць дрэвы, усё жывое радуецца лету, сонцу, цяплу. Толькі я ляжала нерухома на бальнічным ложку з заплюшчанымі вачамі і ўпотай сцірала слёзы, якія каціліся па маіх шчоках, капалі на коўдру, пакідаючы вільготныя плямы... Я хацела жыць і ведала, што змагу выжыць. Я не брала на ўлік той час, тых шэсць месяцаў, што нікуды не выходзіла з кватэры, ні з кім не размаўляла, акрамя сям'і. Я нікому не гавару пра сваю бяду, пра той боль, што нечакана ўварваўся ў маё жыццё. Нікому і ніколі. Я не хачу спачування, якое часам бывае фальшывым. Я спраўлюся сама, бо інакш нельга. Няхай усе думаюць, што я ўсё тая ж вясёлая дзяўчынка-гарэза, якой заўсёды была. Я не хачу нічога мяняць.

Да вечара ў мяне шмат спраў: то школа, то хатнія заданні, то вяжу альбо чытаю. І толькі ўночы, калі ўсе спяць, я магу пагаварыць з сабою, падтрымаць сябе і крыху супакоіць. У мяне добрая сям'я, я вельмі люблю яе і не хачу, каб мае родныя сумавалі. Я стараюся быць вясёлай, жартаваць, але не заўсёды атрымліваецца гэта. Я гляджу ў будучыню аптымістычна. Але як толькі апынуся ў ложку, да мяне наплываюць успаміны. І не заўсёды яны вясёлыя.

Я засынаю з верай, што заўтра будзе лепш, чым сёння. І ў сне я бачу сваё шчаслівае дзяцінства, дзе мяне нішто не турбуе і дзе я магу, лёгка ўзмахнуўшы рукамі, нібы птушка крыламі, узляцець у неба і ўбачыць зверху нашу родную Беларусь з усёй яе прыгажосцю — зямлю, якую я люблю і буду любіць заўсёды.

*Вера ПРАКАПЕНКА,*
*вучаніца 7-га класа*
*СШ N8 г. Гомеля*

# Раскіданае гняздо

Мой родны кут — Ветка — невялікі гарадок па-над Сожам. Там нарадзіліся мая маці, бабуля і прабабуля. Мне здаецца, што гэта самы прыгожы і прывабны куточак нашай роднай Беларусі. Калісьці, зусім даўно, тут нават Емяльян Пугачоў спыняўся на адну ноч. А які ў нас музей! Усе фарбы лясоў і палёў на вышытых ручніках, сабраных там, а таксама кнігі, іконы і іншыя старажытныя рэчы, што належалі нашым продкам. Зойдзеш у будынак — быццам час спыніўся і ты ў далёкім-далёкім мінулым. Як зачараваны ходзіш ціхенька-ціхенька, каб незнарок не патрывожыць чароўнай цішыні, харастві і наогул цудаў.

У той год на Першае мая было дужа спякотна. Мае старэйшыя брат і сястра павінны былі ісці ў школу, а потым на дэманстрацыю, я таксама напрасілася з імі, бо ў школу яшчэ не хадзіла: мне ў ліпені спаўнялася шэсць год. Было так добра, весела! Гэта апошняя дэманстрацыя, на якую хадзілі вучні.

А потым — заплаканыя вочы матулі, доўгая калона аўтобусаў. З дзяцей наўрад ці хто зразумеў, чаму плачуць дарослыя,— мы ж адпачываць едзем, чаму маці мяне суцяшае (я вельмі не хацела ехаць). Яна казала, што так трэба, што нам там будзе добра, як ніколі, а сама паціхеньку плача, каб мы не заўважылі. І пайшло, і пайшло: Ленінград, Нальчык, Адэса, Ялта, Штраўзберг, Даманава. Кожны год, калі ўлетку, калі ўзімку. Ездзіла, з кожным разам усё больш сумуючы па матулі, па сваёй роднай хаце, па сваёй школе.

У нас вельмі дружная сям'я. Так здарылася, што з намі, дзецьмі, толькі маці і бабуля, але мы ніколі не адчувалі сябе ў чымсьці абдзеленымі. Раней кожны вечар, збіраючыся разам, мы расказвалі матулі, як прайшоў дзень, што новага ў школе, якія прыгоды здарыліся. А ў нядзелю вечарамі ў нас гучалі песні. Старэйшы брат браў акардэон, сёстры Таня з Аленай сядалі за піяніна, і пачыналася: мама спявала, я скакала, а яныігралі. Самы старэйшы брат тады ўжо быў жанаты і кожную нядзелю прыходзіў да нас. Мы ніколі не ўяўлялі сабе, што калі-небудзь будзем жыць далёка адзін ад аднаго. Толькі лёс у выглядзе Чарнобыля разважыў пасвойму. Старэйшы брат — у Віцебску. Бабуля са старэйшай сястрой — у Ветцы, а мы вось ужо год жывём у Гомелі.

Тут цудоўная школа, добрыя настаўнікі, але для мяне няма нічога лепшага за маю Веткаўскую школу N2, нікога за маю першую настаўніцу Наталлю Леанідаўну, за майго класнага кіраўніка Надзею Раманаўну, за ўсіх-усіх настаўнікаў маёй роднай школы. Сумую. Вельмі сумую па сваіх сябрах і аднакласніках.

Маці заўсёды хвалюецца, калі я еду ў Ветку, але яшчэ больш хвалюецца, калі ў мяне падымаецца тэмпература. А яна ў мяне пачала падымацца ні з таго ні з сяго. Найбольш, калі пахвалююся.

Мары, мары. Вось і я мару сустрэць чараўніка, які б выканаў маё адзінае жаданне: каб ніколі-ніколі не было Чарнобыля, каб мы ўсе-ўсе вярнуліся да сваёй бабулі, каб у нашай хаціне зноў загучала музыка, такая ж жыццярадасная, як і ў былыя часы, каб мой старэйшы брат жыў з намі блізенька, а я хадзіла ў сваю родную школу, да сваіх самых лепшых настаўнікаў.

*Вікторыя ГАЦУКОВА,*
*вучаніца 11-га класа*
*ліцэя N56 г. Гомеля*



# Знак бяды

Мае дзед з бабуляй жылі ў вёсцы Рэчкі Веткаўскага раёна, жылі адны, бо дзеці, як тыя птушаняты, даўно разляцеліся з бацькоўскага гнязда. Толькі я, адзіная ўнучка, жывучы паблізу, наведвала іх кожныя святы, прыязджала і на вакацыі. Добра памятаю, колькі чуллівых слёз і радасці было ў старэчых бабуліных вачах, калі я з усмешкай на вуснах бегла ад аўтобуснага прыпынку да хаты.

Але ж ездзіла я не толькі таму, каб суцешыць старых, а хутчэй за ўсё таму, што сама нарадзілася ў вёсцы і да сямі гадоў пражыла тут — сярод палёў і лясоў, сярод свежага і чыстага паветра.

Наша вёска старажытная, бо, як казаў мне мой дзед, а яму — яго дзед, прыкладна ў 1590 годзе на тым месцы, дзе потым з'явілася яна, пасяліўся ксёндз, які ўцякаў ад інквізіцыі, таму і трапіў у гэтыя мясціны. Жыў ён спачатку адзін, гандляваў драбінамі, іншымі прыладамі гаспадаркі, якія сам і вырабляў. Прыкладна ў 1612 годзе ён пабудаваў касцёл. Пасля яго смерці касцёл перабудавалі ў праваслаўную царкву. Яе наведвалі людзі з трыццаці вёсак, бо паблізу ніякай іншай царквы не было.

Ішоў час, мянялася жыццё, і ў 1937 годзе царква была зруйнавана. А ці не гэта вытокі нашай агульнай бяды?..

Не ведаю, якім цудам, але ў нас захавалася ікона з гэтай царквы: старая, з невялічкімі расколінкамі, з адбіткам няўмольных гадоў, учарнелая, але з праніклівым абліччам і з нязгасным святлом мудрых вачэй Міколы Цудатворца.

Назва нашай вёскі была таксама невыпадковая. Паводле слоў дзеда, яна стаяла на невялічкім пагорку і абмывалася рэчкай Неімёнкай, рэчышча якой падзялілася, і атрымалася так, нібыта вёска знаходзіцца на востраве і абмываецца не адной, а дзвюма рэчкамі. Здавалася, быццам сама прырода зрабіла вакол вёскі гэта выратавальнае кола. Аднак новае жыццё зноў-такі ўнесла свае карэктывы. Прыйшлі меліяратары — немагчыма было ўратаваць рэчку, захаваць яе непаўторную прыгажосць, яе чысціню.

...Так, не аднойчы чыніўся здзек над гэтай зямлёю.

Шмат цікавага можна распавядаць пра нашу вёску. Быў у ёй панскі маёнтак, двухпавярховы, з высокімі калонамі. Урачыста ўзносіўся над паселішчам. Людзі казалі, што пакалісьці жыў у ім пан Бачок. Быў ён багаты, шмат дзе паездзіў, пабываў нават у Францыі. Там закахаўся ў адну красуню, запрасіў да сябе, але ж яна не захацела ехаць, сказала, што паедзе толькі тады, калі ён пабудуе незвычайнай прыгажосці палац. Пан пабудаваў яго, красуня прыехала, аднак не да спадобы прыйшоўся ён ёй — пакінула яна пана, а той, не вытрымаўшы гора, звар'яцеў...

І зноў жыццё перавярнулася: гэты прыгожы маёнтак, які аздабляў наваколле сваёй строгай веліччу, стаў непатрэбным новай уладзе, таму з яго зрабілі вінакурню. Цывілізаваным грамадствам гэта павінна ўспрымацца як дзікунства.

Мабыць, і сапраўды Бог пакараў людзей за тое, што яны не берагуць свае карані, сваю Бацькаўшчыну, а, наадварот, здзекуюцца з усяго гэтага.

З дакорам глядзяць на мяне вочы святога Міколы...

Памятаю, што якраз у той дзень, калі ўзарваўся гэты рэактар, была я на сенавале. Гляджу, па небе хмара плыве, фіялетавая такая, і косы ад яе на зямлю апускаюцца, — відаць, дождж. Ніколі ў жыцці я не бачыла такой хмары. Потым уранні мне сказаў наш сусед, што ўзарваўся рэактар...



*Мал. Паўла ШЧОГАЛЕВА, г. Мінск*

Калі ж людзям абвясцілі аб Чарнобылі, размовы пра гэта былі розныя. Не ведалі, а можа, проста не разумелі тады людзі, што бяда яшчэ пакажа сябе. Хоць і казалі па радыё і тэлевізары, што нельга ўжываць багата якія прадукты, ды хіба хто слухаў? Елі ўсё!

Толькі праз пэўны час сталі заўважаць, што памірае шмат людзей. Амаль кожны тыдзень каго-небудзь везлі на могілкі.

І ўсхамянулася, загула, быццам патрывожаны вулей, вёска: "А можа, і праўда нельга есці агуркі ды яйкі, можа, і сапраўды ў іх сядзяць тыя чортавы нукліды?"

Маці ўжо не так часта дазваляла мне наведваць бабулю з дзедам, але ж назусім не забараняла.

Недалёка ад вёскі была крынічка — сцюдзёная-сцюдзёная, з празрыстай, чысцюткай, нібы крышталь, вадою. Часам возьмеш невялічкі кавалачак хлеба, падыдзеш да яе, зачарпнеш рукою — ад холаду аж рука зоймецца — і пач-

неш есці гэты хлеб з вадою. Здавалася тады, што няма ў свеце нічога найсмачнейшага, чым гэты хлебчык ды сцюдзёная крынічная вада.

Хоць і далёка было, але ж я марыла схадзіць разам з дзедам да легендарнага цар-дуба. Ды дзе там!.. Не паспелі.

У 1990 годзе выйшла пастанова аб высяленні з забруджанай зоны той вёскі, дзе жылі мае дзед і бабуля. За хату, за сад выплацілі трынаццаць тысяч.

Добра памятаю, што перад тым, як назаўжды пакінуць хату, бабуля бавілася ў ёй адна. Калі яна выйшла, на вачах былі слёзы. Але не адной ёй хацелася плакаць, а ўсім.

Восенню 1991 года дзед з бабуляй і мы пераехалі ў новую трохпакаёвую кватэру. Перш чым пераступіць яе парог, па звычаю, бабуля спачатку ўпусціла ката Максіма. У мітусні забыліся на яго, і ён незаўважна выбег. Потым бабуля з горыччу зазначыла, што гэта кепскі знак, знак будучай бяды. Маці заспакойвала яе, казала, што ў нас усё будзе добра.

Мая мудрая, разважлівая бабуля, на жаль, як у ваду глядзела. Бяда падкралася да нашай сям'і. Памерла бабуля, і пасля таго шмат што змянілася ў нас: маці не знаходзіла сабе месца, была як не свая, а дзед, здавалася, састарэў яшчэ больш, страціў прагу да жыцця.

Неяк восенню маці зайшла да мяне ў пакой і сказала: "А я табе яблыкі прынесла, не якія-небудзь, а нашы, рэчкаўскія! Паглядзі, якія цудоўныя!" І сапраўды, яблыкі былі такія хрусткія, салодкія, духмяныя, што на вочы набеглі слёзы радасці і суму адначасова — страчаны такі сад! Страчана вёска...

Ну што ж, калі людзі забудуць пра нашы Рэчкі, калі ніхто і ніколі не ўспомніць аб прыгажосці тых мясцін, — няхай застанецца памяць вось у гэтым сшытку, і, мабыць, мае ўнукі, праўнукі будуць разгортваць яго, чытаць і задумвацца над лёсам сваёй зямлі і свайго народа, над сваёй будучыняй.

*Уладзімір БРАНФІЛАЎ,*
*вучань 7-га класа*
*СШ N10 г. Гомеля*

# Ці беражэ беражонага Бог?



*К Богу праб'юся праз*
*кардоны ўсіх сакратарак.*
*І на каленях скрываўленых*
*буду ў Бога прасіць:*
*Хойнікі, Брагін, Нароўлю*
*вярні безадкладна,*
*чыстымі, чыстымі,*
*чыстымі мне*
*і народу вярні.*

*Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК*

І сапраўды, як жыць чалавеку без радзімы. Гэта самая страшэнная кара для яго. А колькі ў нашай Беларусі такіх людзей, якія страцілі свой родны кут?! І адбылося гэта не па іх волі, а з-за Чарнобыля.

Упершыню гэтае слова з'явілася на нашых вуснах восем гадоў назад. Я быў яшчэ маленькім, але добра памятаю той дзень, той клуб пылу, які ўздымаўся да чацвёртага паверха, памятаю перапалоханыя вочы маёй маці, калі яна вымывала з маёй галавы пясок. А потым забараняла мне выходзіць на вуліцу.

Памятаю, як спрачаліся бацькі, куды вывезці нас на гэты час. Але ехаць нам не было куды. Калі ж нас запрасіла да сябе цётка ў Магілёўскую вобласць, мы з радасцю паехалі, бо думалі, што радыяцыя там нас не дастане. А як высветлілася, там радыяцыя яшчэ большая, чым у Гомелі. Прынялі нас вельмі ветліва не толькі блізкія, але і жыхары

пасёлка. Толькі вось медыкі, мабыць, па прычыне сваёй недасведчанасці, параілі нам піць ёд, але не вызначылі дозы. Якія брыдкія былі гэтыя лекі. Я і цяпер успамінаю гэта з жахам, хоць мне было толькі шэсць год. Маці казала, калі я не буду піць, са мной здарыцца нешта страшэннае, і я піў.

Такое прафілактычнае лячэнне працягвалася чатыры месяцы. А потым бацька зноў забраў нас у Гомель. Нягледзячы на тое, што на вуліцы было добрае надвор'е, маці забараняла мне аднаму выходзіць на вуліцу. А калі ж выходзілі разам, толькі і чулася: "Там забаронена, там нельга, на сонцы не стой, у пясочніцу не ідзі". І заўсёды падкрэслівала: "Беражонага Бог беражэ".

Але нягледзячы на тое, што я бярогся, Бог мне не ўважыў. У мяне, так, як і ў многіх дзяцей Чарнобыля, часта баліць галава, пастаянна адчуваецца стомленасць. Нарэшце, сталася самае страшнае: дактары сказалі, што ў мяне павышаная ломкасць касці. Я паспеў ужо зламаць рукі, ключыцу, нагу. Зараз трохі кульгаю. Пры змене надвор'я баліць у месцы зломy.

Мяне хвалюе пытанне, ці возьмуць служыць у армію? Я ж — заступнік сваёй Бацькаўшчыны.

Не ўсё добра і ў майго малодшага брата, якому ў той чорны дзень было толькі чатыры месяцы. У яго з носа часта ідзе кроў, нешта з сэрцам, хлопчык хутка стамляецца. Баліць у мяне душа і за яго.

Што ж гэта за патомства будзе ў нас на Беларусі, браткі. Страшна мне. Страшна за людзей...

Колькі няшчасцяў прынёс Чарнобыль народу: трывожным ценем увайшоў і ў маю хату, атрутай дыхнуў на жыхароў найпрыгажэйшага кутка свету.

Яшчэ доўга ён будзе нагадваць пра сябе нашаму роду, прыносіць хваробы.

На вялікі жаль, мы не зможам пакінуць нашчадкам празрыстыя азёры, чыстыя рэкі, шумлівыя бары. Ім застанецца толькі суровыя, чорныя трубы і сцены АЭС, якія скалечылі чалавечыя душы.

*Ирина ПРОКОПЕНКО,*
*ученица 9-го класса*
*СШ N2 г. Городка*



# Тогда я училась в нулевом классе

Авария на Чернобыльской АЭС жестоко напомнила, что люди еще не освоили ту могучую энергию, которую сами вызвали к жизни.

На границе Украины и Беларуси, вдоль Днепра, раскинулся небольшой поселок городского типа, утопающий в зелени, весь в вишнях и яблонях. Это Комарин, моя родина.

Летом здесь любили отдыхать многие киевляне, черниговцы, приезжали гомельчане и ленинградцы. Селились часто на все лето с детьми, снимали "дачи" — комнаты в деревянных домах — у старушек-пенсионерок; приезжали к близким и дальним родственникам, просто к друзьям и знакомым. Жили даже в палатках. Заготавливали на зиму соленья и варенья, собирали грибы, ловили рыбу: щуку, судака, леща, плотву, загорали на песчаных берегах Днепра.

А совсем недалеко, в 30-ти километрах, находилась АЭС. Казалось, удивительно гармонично и неразрывно ужились здесь красота полесской природы и упрятанные в бетон четыре блока атомной станции.

7 Зак. 391

Когда произошла авария, мне было семь лет, училась в нулевом классе Комаринской школы. Я плохо помню тот день. Жители поселка были сильно возбуждены, кто-то куда-то уезжал, кто-то звонил. Все чаще мы с сестрой слышали слова: "Авария! Это опасно?". Ни мама, ни папа еще не придавали серьезного значения этому. Детвора играла на улице, многие жители поселка отправились в деревню сажать картофель. Было очень тепло. Потом прошел небольшой дождик, и хотелось побегать по лужам. Неожиданно отменили первомайскую демонстрацию. Тогда мы все испугались. Я часто видела, как плачет мама, а отец и дедушка стали говорить о какой-то эвакуации.

И вдруг из уст в уста поползло страшное слово "радиация". Началась паника. Все стремились поскорее уехать подальше от Комарина, даже из Беларуси. Это очень напоминало войну. Время сразу раскололось на две неравные части — до 26 апреля и после. Я вспоминала фильмы о войне: люди бегут, переполненные вагоны поездов, кишат людьми вокзалы, всюду слезы, крики, плач. А потом показывали фашистов. Здесь то же самое. Но врага... нет? Есть ... какой-то невидимый враг. Тогда я еще всего не понимала.

Наконец эвакуация коснулась и комаринцев. В мае всех матерей с детьми, кто еще не уехал, организованно стали вывозить. Я смутно помню площадь в Брагине, много народу — женщин, детей. Стояла сильная жара. И женщины поскорее хотели занять места в автобусах. Вначале нас вывезли под Гомель, в санаторий Чонки. А затем — в Минскую область.

Все лето мы находились на оздоровлении в детском санатории "Случь". Персонал санатория окружил нас заботой и вниманием: обследовали, проверяли дозиметрами радиацию, хорошо кормили. Мы были счастливы и беззаботны и мало вспоминали дом. Не знали, когда вернемся домой и вернемся ли, собственно, в Комарин. Никакой информации

не поступало. Это теперь я уже понимаю и знаю, что и сведения об аварии, и о степени радиоактивности были засекречены. Мы не знали всей правды. Приезжали какие-то дяди и тети, успокаивали плачущих матерей, обещали вернуть скоро домой. Долго решали: выселять или не выселять Комарин. Наконец решили: после дезактивации жить можно.

К новому учебному году мы вернулись в Комарин. 1 сентября я пошла в первый класс. Невеселый это был день. Весь школьный двор усыпан желтым речным песком. Дети какие-то грустные и все без цветов. "В цветах много радиации", — говорили нам.

И потянулись однообразные, серые дни. С утра до вечера в школе (все классы работали с продленным днем). На улице мало играли. А потом я стала болеть. Вначале заболело сердце, были плохие анализы крови. Все время болела голова. Мама возила меня к врачам. Несколько раз я ездила в санаторий. А весной 1988 года родителям прямо сказали: "Хотите сохранить здоровье дочери — уезжайте". В августе 1988 года мы уехали из Комарина. Теперь живем в городе Городке Витебской области. Мне уже 15 лет, я заканчиваю 9-й класс.

Какую же роль сыграл Чернобыль в моей судьбе? Во-первых, я лишилась родины, точнее, того места, где родилась и была так счастлива. Там мы жили в четырехкомнатной квартире со всеми удобствами, а здесь вчетвером ютимся в маленькой, на 24 кв.м. И выхода из этого положения нет. Во-вторых, такой чудесный уголок моей республики, не уступающий настоящему курорту, загрязнен. Те, кто проживает до сих пор в Брагинском районе и в Комарине, вынуждены ограничивать себя в употреблении грибов и ягод, овощей и фруктов, молока и мяса. Они должны подвергать радиационному контролю все продукты из личных подсобных хозяйств. А всегда ли это возможно? Хватит ли терпения? В-третьих, чернобыльская авария унесла много жизней. И

первыми погибли пожарники. Это В.Правик, В.Кибенок, Н.Ващук, В.Игнатенко, Н.Титенок, В.Тишура. Они защитили нас от большой беды, а сами ушли в бессмертие. Шесть портретов в черных рамках, шестеро молодых парней смотрят на нас. Кажется, что взоры их скорбны, что застыли в них и горечь, и укоризна, и немой вопрос: как могло такое случиться? Но в ту апрельскую ночь они работали, они спасали атомную станцию, спасали Припять, город Чернобыль, спасали всех нас.



***Мал. Волі ХМЕЛЬ, г.Мінск***

Уже восемь лет отделяют нас от того рокового дня. А люди продолжают умирать. Умирают взрослые и дети, и часто причина одна: "Последствия чернобыльской аварии".

В 1989 году умер мой дедушка. Ему было 56 лет. Половину своей жизни он прожил в Комарине. Умер скоропостижно. Он не был ликвидатором аварии, он просто жил и честно трудился там, в Комарине, и летом 1986 года, и последующие годы. Возможно, и его жизнь укоротил Чернобыль.

Громом среди ясного дня свалилась на нас беда. Мы были просто загипнотизированы "успехами" ученых-ядерщиков. Мы не ждали беды.

Уроки Чернобыля должны быть осмыслены и поняты. Только тогда можно будет надеяться, что подобное никогда не повторится.

Когда говорят, что где-то будут строить атомную электростанцию, а моя семья слышит это, становится страшно. И опять в душе неспокойно, опять мы под "знаком беды".

*Анна ЦЫБУЛЬКО,*
*ученица 9-го класса*
*СШ N7 г.Витебска*

# Ветер, глупый, безрассудный

Я представляю, как серое облако поднимается над городом. Весенний ветер, глупый и безрассудный, несет с собой тысячи смертей в далекие края — ведь путь для него везде и всегда открыт. Птицы, оказавшиеся поблизости, не постигли всю горечь создавшейся ситуации и последовали примеру ветра: подхватив, понесли на своих крыльях радиоактивную пыль на сотни километров. И маленькие детишки приняли на себя страшный "вирус" радиации. Они передадут свои ущербные гены детям, внукам, и большинство из них родятся с врожденными пороками, болезнями.

В 1986 году я жила у бабушки в Корме (райцентр в Гомельской области). День, когда объявили об аварии на Чернобыльской АЭС, запомнился мне совсем по другому поводу. 1 мая 1986 года моей бабушке исполнилось 60 лет, и поэтому в Корму приехали мои родители и два брата. Мне тогда было семь лет, я была очень рада встрече с родителями. 1 мая мы ходили на демонстрацию, ели вкусный торт, и я, как обычно, смешила всех своих домашних. Мы обменивались впечатлениями о событиях, которые произошли в последнее время, и на сообщение о том, что взорвалась Чернобыльская АЭС, не обратили должного внимания. Мы тогда еще не знали, где находится Чернобыль и что такое радиация.

Вскоре мои родители и братья уехали. Я осталась у бабушки. В то время этот небольшой городок, Корма, еще не относился к опасной зоне. Его жители даже не догадывались о том, что получили большую дозу радиации. Через год я уехала домой — в Витебск. Дома я начала часто и долго болеть. Сначала у меня были сильные головные боли. В раннем детстве я была очень крепким и здоровым ребенком и к врачу мы обращались редко. Болеть я совсем не привыкла, и мне досаждали мои новые болезни, которых с каждым днем становилось все больше и больше. Первое время мы сами и никто из врачей не связывал мои болезни с тем, что я жила у бабушки. Но уже в третьем классе болезни горла, носа и щитовидной железы перешли в хронические. В это же время у меня начало резко ухудшаться зрение, и к шестому классу я надела очки на -5. Так чернобыльская беда коснулась и моей судьбы.

Я очень переживаю разлуку с родными местами и с бабушкой. Ведь путь туда для меня навсегда закрыт. Я с грустью и восхищением вспоминаю о том прекрасном уголке, о незабываемых днях, проведенных в Корме с ее неповторимой красотой. Даже когда моросил дождик, мне было приятно прогуляться по улице. Воздух становился чище, свежее. Небо окрашивалось в нежно-голубой цвет. Листья на деревьях умывались от пыли и грязи. Природа оживала.

Но воспоминания об этом теперь больно отзываются в моем сердце. Только сейчас я по-настоящему поняла, какая страшная беда коснулась нашей земли, нашей жизни и моей судьбы!



*Мікола НЕСЦЯРЭНКА,*
*вучань 11-га класа*
*Вежскай СШ Слуцкага раёна*

# Будзем чакаць адраджэння

Неабсяжная сінь высокага неба. Цёплыя, пяшчотныя хвалі Сожа лагодна падкатваюць да берага. Мы, хлапчукі, збіраемся і гуртам з крыкам і гаманой бяжым да ракі. Паветра такое чыстае, здаецца, ніколі яго не нап'ешся ўдосталь. А вось і белакрылай птушкай праплывае па Сожы цеплаход. Мы нешта крычым яму ўслед — і я прачынаюся...

Так, на жаль, гэта быў сон. Такія сны-ўспаміны мне сняцца часта, бо я зараз далёка і ад Сожа, і ад сваёй маленькай радзімы — пасёлка Карма на Гомельшчыне, дзе былі пражыты светлыя, радасныя хвіліны дзяцінства, яднання з прыродай. На жаль, прырода маёй радзімы выклікае зараз не светлыя і радасныя пачуцці, а горыч і боль. Крылом чарнобыльскай бяды накрыла маю Бацькаўшчыну і прымусіла многіх маіх землякоў ратавацца ад гэтай навалы. І мая сям'я вымушана была пакінуць родны дом і шукаць новае месца жыхарства.

Мы ў Вежах. Гэта пасёлак на Случчыне. Ля новых, спецыяльна для нас пабудаваных катэджаў падрастаюць маладзенькія яблынькі. Яны ўквечана сустракаюць кожную вясну. Прыйдзе час, і яблыкі з іхніх галін бязбоязна сарвуць чалавечыя рукі. А на маёй Кармяншчыне яблыкі горкія, бо здзічэла прастора, на якую ўпала "зорка Палын".

Тады, у красавіку 86-га, мне было дзевяць гадоў. І наўрад ці мог я ў такім узросце нешта сур'ёзна ўспрымаць. Але я памятаю трывогу і няўцямнасць, што навіслі над людзьмі.

Я памятаю твар мамы, па якім было відаць, што здарылася нешта небяспечнае. Але дзяцей гэта нават радавала, бо нас неўзабаве павезлі на аздараўленне ў Барысаў, а потым — у Крым. І тыя бананы, апельсіны і розныя прысмакі перахапілі і выціснулі з душы ўвесь той страх. Толькі цяпер у свае 17 гадоў я магу ўжо нешта ацэньваць і аналізаваць, бачыць боль і адчуваць рэха тых страшных дзён у кожнай просьбе ў газету: "Людзі добрыя, дапамажыце ў лячэнні адзінага сына...", "Дапамажыце нашай матулі!"

І не толькі з газет даведваемся пра людскі боль, які прынесла чарнобыльская катастрофа. Гэты боль тут, побач.

Разам з намі ў пасёлак Вежы пераехала шмат кармянцаў. Сярод іх і Зяньковы — суседзі ў Карме і тут. Гэта сям'я страціла год назад самага дарагога чалавека — маму. Шкада, што не стала такой добрай, жартаўлівай жанчыны. Заўсёды, калі заходзілі да іх, Таццяна Іванаўна пагаворыць, пажартуе з намі. І як горка сёння бачыць засмучаныя вочы майго сябра Сашы Зянькова, і як патрэбна мама Аленцы Зяньковай, якая ходзіць толькі ў шосты клас! Як гром з яснага неба прыйшла вестка, што памёр мой школьны сябар, мой аднафамілец Іван Несцярэнка.

Я думаю, ніякая экзатычная садавіна і гуманітарная дапамога не перакрыюць той боль і тыя слёзы, якія прынёс нам Чарнобыль:

У мутных дэбатах парламент
Топіць запал маладых:
Прамоў разліваецца мора,
Ды мала і дзей, і надзей.
І чорнага каменю гора
Не можам спіхнуць мы з грудзей.

*Хведар ЖЫЧКА*

Дарэчы, мне пашанцавала разам з іншымі дзецьмі-чарнобыльцамі пабываць за мяжой, у Германіі. Жылі мы недалёка ад Магдэбурга ў нямецкіх сем'ях. Нічога дрэннага, акрамя добразычлівых, цёплых адносін да нас, я ўспомніць не



*Мал. Андрэя ШУМАНСКАГА, г. Слуцк*

магу ў параўнанні з калючым словам "перасяленцы", якое чуеш тут, у Вежах. Удумаешся ў сэнс слова "перасяленец". Выгнаннік?

Калі нам, маладым, неяк лягчэй прывыкаць да новых мясцін, умоў жыцця, то, гледзячы на сваіх бацькоў і асабліва на бабулю, якая таксама пераехала з намі, я бачу, што жыццё іх як бы разламана на дзве палавіны. Адна — большая, каштоўнейшая — там, у зоне, а другая — тут, дзеля нас, дзяцей. І перад смерцю старыя просяць, каб іх завезлі і пахавалі ў родную зямельку.

Не, не... Часам мне таксама хочацца паехаць у Карму. Там засталіся яшчэ некаторыя сябры, там засталіся ўсе найлепшыя ўспаміны дзяцінства. Я наведваў секцыю па валейболу, любіў свайго трэнера Сяргея Валянцінавіча Малевіча, які зараз з сям'ёй жыве ў Гродне.

Што ж, мы будзем чакаць свайго адраджэння, свайго прасвятлення, бо калі я гляджу на радыяцыйную карту Беларусі, тое месца, дзе стаіць Карма, — чорнае-чорнае, як апёк. А ці пройдзе?

І хочацца верыць, што настане час, калі можна будзе смела працягнуць руку да яблыка, прабегчы па роснай траве, назбіраць спелых суніц.

*Виктор ТОРОПОВ,*
*ПТУ-30 речфлота,*
*г. Гомель*

# Мина замедленного действия

Я читал книгу В.П. Антонова "Уроки Чернобыля". В ней автор прямо говорит, что эта трагедия не столько экономического, сколько нравственного плана. В обществе до Чернобыля усилились эгоизм, равнодушие, безответственность, безынициативность, появилась порочная психология: "Наверху все знают, мы только выполняем". Чернобыль — расплата за все.

А разве сейчас все это исчезло? Коль нет, то где гарантия, что Чернобыль не повторится?

Мне кажется, что о нем стали говорить все меньше, свыклись. Может быть, я ошибаюсь, но трагедия показала мне, что люди, как в старой притче, разделились на три группы: есть такие, которые взойдут на костер, есть другие, которые подложат дрова в него, [redacted] есть и такие, которые обогреют руки возле этого костра. Около чернобыльского костра греть руки в высшей степени безнравственно.

Старшее поколение благодарило Сталина за счастливое детство, а я не могу [redacted] не хочу говорить спасибо Чернобылю за то, что перед нами открылся мир. Было бы абсурдно благодарить Чернобыль за то, что некоторые ребята смогли побывать за границей, познакомиться со своими зарубежными сверстниками, увидели красоту других стран и доброту чужих людей. Неужели для этого нужна была трагедия?

Прямо на моей судьбе Чернобыль не отразился. Здоровье у меня хорошее, но кто знает, как чернобыльская

трагедия скажется на нашем здоровье через 5 лет, как она аукнется на моих будущих детях? Поэтому Чернобыль в моей судьбе является миной замедленного действия, о которой лишний раз просто страшно задумываться.



*Мал. Наташы КАЛАМЕЙЦАВАЙ, г. Мінск*

Это далеко не детская проблема.

Эту тему сочинения я бы предложил каждому члену правительства, каждому депутату, ученому, но при этом ее изменил, чтобы она звучала так: "Чернобыль в моей судьбе, в судьбе моих детей, и что я сделал для того, чтобы этой проблемы не существовало?"

*Людмила ЧУБЧИК,*
*ученица 7-го класса*
*Глушковичской СШ Лельчицкого района*



# Я буду жить

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*

*Якуб КОЛАС*

Здравствуй, незнакомый мой друг. Я давно собиралась поделиться с тобой мыслями, мечтами, рассказать, как в свои четырнадцать лет я воспринимаю жизнь, что меня мучит и тревожит, чем обеспокоена... Почему же мне захотелось поделиться сокровенным именно с тобой, незнакомец? Да потому, что именно ты, наверное, в наше суетное время не бросишь мне равнодушно: "Отстань!" и сумеешь выслушать меня. Вначале расскажу о себе.

Я — Люда Чубчик, учусь в 7 классе. Родилась среди полесских болот и лугов в ничем не примечательной, но милой деревушке Глушковичи. Название деревни, по преданиям старожилов, от слова "глушь", где обитали когда-то большие глухариные семьи и где, возможно, был ранен в схватке с туром великий князь Владимир Мономах...

А если бы ты знал, незнакомец, какие славные соседи у нас справа — жители Житомирской, а слева — Ровенской областей соседней Украины. Мы встречаемся с ними в поле и на речке, в магазине и в школе, на лугу и в лесу.

*Святлана ШАЎЧУК,*
*вучаніца 11-га класа*
*СШ N5 г.Мазыра*

# Ціха шуміць стары вяз

Колькі дзён мінула з тае чорнае ночы, а гэты боль, што пасяліўся ў сэрцы, не адпускае. Магчыма, ён стаў не такім вострым і пранізлівым, але ў душы ўсё роўна няма спакою.

Ідуць гады за гадамі. Ды няма ўжо таго зацятага маўчання. І не чуваць трывожных гукаў набатаў, што панесліся ў свет толькі праз чатыры гады пасля аварыі. Успомняць пра яе хіба толькі ў сувязі з набліжэннем сумнай гадавіны: хутка дзесяць гадоў з дня выбуху на ЧАЭС.

Мільгаюць за вокнамі аўтобуса дрэвы ў пышным зялёным убранні. Я пад'язджаю да бабулінай вёскі. Самотна шапацяць ясакары. Паволі ступаю па бязлюднай вуліцы. А перад вачыма — зусім іншае.

...Звычайны летні вечар. Сонца ўжо напалову схавалася за небакрай. Паступова насоўваецца змрок. Каля плота на лаўках сядзяць старыя, побач гуляюць дзеці. Чуецца рознагалосая гаворка, звонкі смех. Аднекуль здалёк далятаюць прыглушаныя гукі песень...

Не. Гэта ніколі не паўторыцца. Ніколі. Хаця так хочацца, каб гэта было! Але многія пераехалі ў "чыстыя" раёны, дзе няма радыяцыі. І некаторыя з маіх сваякоў таксама падаліся з насежаных гнёздаў у свет, у чужыя мясціны. Як ім там будзе?!

Некалькі гадоў таму я ўбачыла карціны Міхаіла Савіцкага. Я не мастацкі крытык і таму не буду разбіраць іх вартасці ці недахопы, але хацела б выказаць свае пачуцці, навеяныя гэтымі палотнамі. Асабліва мяне ўразіў "Рэквіем".

...Апусцелая вёска. Цемра ахутала ўсё навакол. А высока ў небе сем анёлаў спяваюць рэквіем над вясковымі хатамі. Ча-

му, чаму мне здаецца, што гэта не вёска, а ўся наша Беларусь?.. Ціха і ўрачыста гучыць над зямлёй жалобная песня. Гэта пахаванне надзеі, мары, шчасця; гэта — пахаванне жыцця...

А недзе далёка-далёка, ля расчыненага акна, стаіць чалавек (гэта ўжо другое палатно — "Настальгія"). І перад яго вачыма — барвовае сонца, промні якога не маюць сіл змагацца са змрокам, калючы дрот, а за ім — яго родная вёска. Ён стаіць, бездапаможна апусціўшы рукі, і ўжо не ля акна, а цалкам там — на радзіме. А ў цёмным небе лунае анёл, раскінуўшы рукі, нібы забараняе ісці сюды. Ды толькі адна дэталь: анёл, святы, бязгрэшны, не можа глядзець чалавеку ў вочы, ён апусціў іх. І мне нібыта чуецца:

— Забудзься пра гэта... Сюды ты не вернешся.

— Але гэта мая радзіма!

— Гэта каралеўства Смерці! Тут няма месца чалавеку!

— Там мая родная хата, той куточак, дзе я нарадзіўся.

— Сюды нельга! Для людзей не існуе больш гэтай зямлі!

— Там магілы маіх продкаў!

— Забудзься.

— Там — мая радзіма...

Радзіма — самае дарагое, што ёсць у чалавека, якой бы беднай, занядбанай ні здавалася яна староннямy воку. Нездарма ж існуе такое выслоўе: "На чужыне і мёд горкі, а на радзіме смачная і балотная вада з-пад лапця". Чалавеку ніколі не пазбавіцца ад настальгіі, калі ён далёка ад дарагога кутка. І таму некаторыя з чарнобыльскіх перасяленцаў не вытрымліваюць і вяртаюцца. Часцей за ўсё гэта людзі сталага ўзросту. Іх можна зразумець.

Ціха шуміць стары вяз над бабулінай хатай. З гэтым шумам знікаюць трывогі і нараджаюцца надзеі. Надзеі, што калі-небудзь здарыцца цуд і вучоныя знойдуць спосаб знішчыць радыяцыю, каб зямля мая зноў стала чыстай, каб людзі без агляддкі жылі тут, не баючыся нічога. Так хочацца думаць, што гэта будзе. Бо я веру ў сілы свайго народа, нязломнага, моцнага духам, які не раз выходзіў з многіх выпрабаванняў пераможцам. Пераможа ён і цяпер.

*Елена КУЛАЖЕНКО,*
*ученица 10-го класса*
*Глиницкой СШ Мозырского района*



# Звонок на последний урок

Чернобыль... Маленькая точка на земном шаре. А в апреле месяце 1986 года о ней узнала вся планета.

Деревня моего детства — Белобережская Рудня — находится в 30 километрах от Чернобыльской атомной электростанции. И моей семье пришлось испытать горе, которое принесла людям авария. Не по рассказам очевидцев, а собственными глазами я увидела, как люди с тоской бросали свои дома.

И мне пришлось оставить родной дом и уехать в чистую зону. Многие односельчане после этого попали в больницу с различными заболеваниями. Некоторые уже умерли.

Есть у моих земляков, бывших жителей Белобережской Рудни, хороший обычай: где бы они ни находились, но если кто-то из них умирает, собираются, чтобы отдать ему дань уважения и почести, проводят в последний путь. И по-прежнему едут в Белобережскую Рудню на погост, опускают в землю-матушку то, что она когда-то дала, а затем возвращаются в деревню и разбредаются по бывшим своим усадьбам... На чьих-то усадьбах — пустые места (дома "похоронены"), но и оставшиеся дома не радуют сердце: окна

в домах выбиты или вынуты, сняты двери, все разбито, разграблено. Палисадники заросли сорняками... И непривычно слышать здесь разговор людей, смех, даже... слезы...

Чернобыльская трагедия разбросала-разметала людей по всей нашей республике. Все мои одноклассники оказались далеко друг от друга, учатся в разных школах, живут в разных селах и городах, некоторых из них уже нет в живых.

Уже семь лет я живу в другой деревне с красивым названием Глиница. И природа здесь красивая, но другая. И дома нам дали со всеми удобствами, но мне хочется домой, на свою печку. Мимо домов нашего поселка пролегла асфальтированная дорога, а я во сне вижу себя на своей заросшей белобережско-руднянской улице с аистом возле школы.

Я учусь в десятом классе. Учусь с другими учениками и с каждым годом все больше привыкаю к своей новой родине... Но Чернобыль и здесь не оставляет нас. Год назад умерла моя новая одноклассница, подруга Майя Кашаед. Всей школой мы хоронили ее в наряде невесты, остановились возле школы, и Алла Михайловна, директор школы, дала для Майи звонок на последний в ее недолгой жизни урок. Прошел год после ее смерти, но Майя остается с нами, в классе есть ее место. На Радуницу и день рождения Майи наш класс делает венок, и мы идем проведать ее.

Чернобыль продолжает прочно жить в нас. Об этом говорят данные обследований, сделанных врачами, где мы оздоравливались. Геленджик, Молдавия, Владимирская и Кировская, Минская и Гродненская области, Анапа... Вот далеко не полный перечень мест, где мы побывали за это время. Из одиннадцати моих одноклассников только двое практически здоровы. Таков диагноз врачей. У нас обнаружились хронические заболевания практически всех органов.

Хочется верить, однако, что мое поколение выживет и устранит последствия чернобыльской катастрофы, предупредит грядущие.

*Галина ЛЕВАНОВИЧ,*
*ученица 10-го класса*
*Скрыгаловской СШ Мозырского района*

# Что ответить подруге?

Тот учебный год закончился раньше, чем положено. Детей вывозили на оздоровление. "В чистую зону". — слышали мы от взрослых. А какая у нас зона?.. Из нашей школы все дети тоже уехали. Мы, младшие, поехали отдыхать под Минск, в пионерский лагерь "Березка".

Сосновый бор. Стройные смолистые сосны уходят верхушками в небо. О чем они шумели тогда? Может, радостно приветствовали нас? Или сочувствовали и жалели? Эти вопросы я задаю себе уже теперь, а тогда... Тогда мы были просто дети, ничего не понимающие, не придающие ничему значения. Мы любили кормить из рук белок, доверчиво спускавшихся к нам; любили бегать по ровным асфальтовым дорожкам между ярко цветущими клумбами; любили делать из сосновой коры кораблики и пускать их по чистой глади озера. Заботливые воспитатели водили нас в лес собирать грибы и ягоды. Они, наверное, понимали, что в своих лесах мы не сможем вот так запросто и беспечно, как раньше; насобирать кувшин душистой земляники или корзину крепких боровиков. Страшное слово "радиация" как бы отделило нас от прежней жизни.

Дни летели незаметно. Подошел к концу первый месяц, а за ним и второй. "Почему мы так долго в лагере?" — спрашивали мы. Но взрослые отводили в сторону глаза и неопределенно отвечали: "Так нужно". Мы не понимали этой неопределенности взрослых. Мамы не забирали нас домой, уговаривали побыть еще.

Но вот, наконец, и долгожданное возвращение. С какой радостью навещали мы родных и близких! Как приятно было пробежать по знакомым тропинкам! Цепкий детский глаз отмечал малейшие изменения вокруг. И, конечно, нельзя было не заметить большую новостройку, что раскинулась возле деревни. Скоро мы узнали, что это строится поселок для переселенцев из зараженной зоны. А у нас разве чистая?..

Дома росли очень быстро. И вот стали прибывать первые переселенцы. Каждый день мы ходили к сельскому Совету смотреть, как туда подъезжают машины с людьми, с их вещами. С любопытством и даже с завистью наблюдали, как вселяются эти люди в новые красивые дома, сверкающие чистыми стеклами, обнесенные ровными заборчиками. Но почему-то не замечали ни той радости на лицах, ни веселой суеты, обычно присущих в таких случаях. Все были очень сдержанны, а некоторые даже плакали. "Странные они, эти переселенцы", — думали мы. Потом, когда познакомились и даже подружились с детьми переселенцев, когда наслышались их рассказов об оставленных родных местах, школах, навсегда покинутых домах, мы многое поняли. Поняли, почему были грустны лица ребят, почему плакали женщины, почему хмурились старики.

Шло время. Все стало как бы на свои места. Привычно шли занятия в школе. За партами рядом с местными детьми сидели ребята переселенцев. Они быстро свыклись с новой обстановкой. Хотя часто можно было услышать: "А вот у нас..." И тогда мелькала в их глазах затаенная грусть. Мы, замечая эту грусть, сочувствовали им, своим друзьям по несчастью.

Когда я была в шестом классе, нас повезли на оздоровление в Россию, в пионерский лагерь "Юность". Там мы отдыхали вместе с детьми рабочих Кирово-Чепецкого химического завода. Мы не сразу сдружились.

На второй день приезда, когда мы шли в столовую на

обед, они обступили нас и стали кричать: "Смотрите, чернобыльцы, они светятся, от них можно заразиться радиацией!", "А правда, что у них все болит?". Издевательские вопросы сыпались со всех сторон. На нас смотрели как на прокаженных. И первое время мы чуть не плакали, но, когда рассказали ребятам о радиации, о себе, они все поняли. В последний вечер, сидя у прощального костра, мы даже обменивались с ними подарками и сувенирами.

Уехали мы, обретя новых друзей. Завязалась переписка. Вот и недавно я получила письмо. "Как здоровье, какая у вас радиационная обстановка?" — спрашивает подруга. Что ей ответить? Я смотрю в окно. Опять, как и восемь лет назад, на дворе весна. Опять пробуждается жизнь. Над деревней кружат аисты. Говорят, они селятся там, где чисто. А так ли это? Вот и переселенцев к нам привезли в "чистую" зону... Значит, все хорошо? Нет никакой опасности? Но почему же вновь и вновь пишут и говорят о все возрастающем количестве больных, почему не разрешают нам собирать грибы и ягоды, почему нельзя сжигать сухую траву? Почему, почему?.. Значит, все в мире относительно? Что ей ответить?..



*Мал. Вольгі ФРАЛОВАЙ, г. Пінск*

*Юля БАШМАКОВА,*
*вучаніца 8-га класа*
*СШ N12 г.Мазыра*

# Не забуду Брыгіту, Бэці і Пію

На дзень аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі мы з маці і маленькай сястрычкай былі ў Рэчыцы Гомельскай вобласці. Наслухаўшыся пра аварыю, адразу ж пачалі збірацца да дзядулі ў горад Івацэвічы на Брэстчыну. Але не маглі купіць білетаў. Неўзабаве нам пашанцавала, купілі... І вось мы ў Івацэвічах. Толькі праз год вярнуліся дамоў у Мазыр.

Здавалася, усё добра, але раптам я захварэла: павялічылася шчытападобная залоза, і мне зрабілі аперацыю. Ніколі не забуду белы аперацыйны пакой, а на сцяне вялікі электронны гадзіннік з зялёнымі лічбамі. Аперацыя працягвалася тры гадзіны. Прачнулася ў рэанімацыі. Два месяцы праляжала ў ложку, але ж лячэнне ў бальніцы было недастатковым, і мяне з татам паслалі ў Германію ў Брандэнбургскую клініку. Тут ёсць усё для добрага лячэння і адпачынку: спартыўныя трэнажоры, плавальны басейн, дзіцячы пакой, кінатэатр. Клініка знаходзіцца ў лесе, і ў любы час можна прагуляцца, падыхаць свежым паветрам. Ніколі не забуду добрых медсясцёр Брыгіту і Бэці, нашу перакладчыцу Пію.

Калі я туды прыехала, першае, што кінулася ў вочы, — гэта чыстыя вуліцы і дамы. Нідзе ніводнай паперкі. Мне было так добра, што не хацелася ехаць адтуль. Чаму ж у нашых дзяцей пасля бальніцы застаюцца ўспаміны пра балючыя ўколы, горкія таблеткі, пра злосных санітарак, пра тужлівыя вечары калі хочацца хутчэй дадому, да маці і таты, да сяброў.

Цяпер я — інвалід. Раней рэдка сустракалася гэта слова, зараз чую яго кожны дзень. Карыстаюся многімі льготамі: маю права на бясплатны праезд у аўтобусах, кожны месяц атрымліваю грашовую дапамогу. Але што гэта мне дае? Я ўсё жыццё буду піць таблеткі, мне нельга ездзіць на мора, трэба часта наведвацца ў бальніцу.



*Мал. Сяргея ФІЛІСТОВІЧА, г.Мінск*

Колькі ў нас хворых дзяцей, якім не дапамогуць нават замежныя ўрачы... І гэта няшчасце з-за вялікай памылкі дарослых. Пякучым болем будзе жыць чарнобыльская бяда ў людскіх сэрцах яшчэ не адзін дзесятак гадоў, бо цяжкія хваробы і разбураныя лёсы — напамінак усяму.

Як бы хацелася, каб гэты жудасны ўрок быў апошнім у гісторыі чалавецтва, каб нідзе і ніколі не магло паўтарыцца штосьці падобнае.

*Ольга ДЕТЮК,*
*ученица 11-го класса*
*гимназии N1 г.Минска*



# В воздухе пахло мятой

...Когда мама пришла от врача и рассказала все, мне, наверное, логично было бы заплакать: "Мамочка! Почему я? За что?". Но поскольку мама сделала это за меня: расплакалась, по-детски вытирая глаза ладонями, и все спрашивала: "Оленька! Ну почему ты? Почему ты должна умереть?" — мне осталось только, сжав губы, растерянно промолчать. Я не знала, что мне делать: я еще никогда не умирала.

Что-то болезненно саднило в груди, и я никак не могла понять, осмыслить страшной новости и, словно не веря, повторяла в зыбкой тишине рассудка: "Это ошибка. Это невозможно. Я не умру. Такими молодыми не умирают! — И мысль вдруг сорвалась в отчаянном крике: — Мне ведь всего девятнадцать лет!".

Но как глухим молотом били в мозг тяжелые нелепые слова: "Это рак... Года два... Или месяц... Осталось..." Никогда в жизни я еще не считала, сколько мне "осталось".

Я многое помню из детства. По утрам мама водила меня в детский сад, и всегда было очень холодно, и мама, я видела, дрожала в своем стареньком осеннем пальто, поэтому я всегда шла так, чтобы заслонить ее от ветра. Потому

что, кроме нее, у меня никого не было: отца можно не считать — он приходил только в праздники и приносил мне всегда по три конфетки: во всем любил точность и постоянство, любил число "три" — сейчас у него три сына, и конфет он мне уже не носит. Вот как!

В детском саду я была очень резвой и веселой девчушкой и, играя, целовалась со всеми мальчишками нашей группы без исключения. Эта "пагубная страсть" до добра, конечно, не довела. Однажды мама пришла за мной пораньше. Я уже одевалась, и тут вижу — несутся толпой наши девчонки и кричат: "Олька, беги, тебя Костик целовать идет!". От стыда я готова была провалиться сквозь землю. "Что это значит, Оля?" — тихо спросила побледневшая мама. Я молчала.

,Смешное у меня было детство. Странная юность. Я любила брата моей подруги Артура, худющего и высоченного парня, который казался мне самым красивым мужчиной на Земле. Боже, как я его любила! В звездах ночного неба видела сотни его улыбающихся лиц. Если б он только позвал, я бы пошла куда угодно, не раздумывая... Но он не позвал, он и не знал ничего, слепец, и наконец пришла новость: Артур женится на невероятно красивой, роскошной девушке, манекенщице. Он так счастлив, сказали мне. А в это время я, маленькая, незаметная и некрасивая, плакала навзрыд, упираясь лбом в холодное стекло окна, пытаясь разглядеть в ночном небе звезды, но оно было затянуто тучами.

Глупенькая школьница сохнет по взрослому мужчине. Смешно, да? Я справилась с собой, я все забыла, пережила в душе жгучую боль потери, онемев, утонула в обыденности жизни, ушла в учебу в школе. Я ведь не очень умная, мне приходится долбить уроки целыми днями.

На каникулах мы с мамой ездили к бабушке в Гомель. Там и началась моя трагедия. В тот день в воздухе пахло мятой. От слепящих солнечных лучей кружилась голова.

птицы пели, как обезумевшие. И от неожиданного счастья мне вдруг почему-то захотелось плакать. Я целый день сидела во дворе и дышала солнцем. И только через неделю узнала, что взорвалась атомная станция.

Дальше были страх, паника, беготня и слезы. Мы не могли достать билетов, чтобы выехать из Гомеля, бросались от железнодорожных касс к автобусным, плакали, просили, но нас никто не брал. Я не знала, что происходило в моем организме: что в костях откладывался цезий, что облучалась плоть. Я узнала об этом лишь много лет спустя, когда мама, придя от врачей, сказала, что у меня последняя стадия рака.

Что мне делать? Я ведь не очень умная, правда. Я не могу придумать какой-нибудь красивой философии, доказывающей, что смерть — это хорошо. А еще — я ведь не верю в Бога.

...Бледная, как привидение, девушка со страшными кругами под глазами, одетая в серый больничный халат, сжала мою руку тонкими пальцами и, криво улыбнувшись, сказала: "Смешно, да?". Она часто так повторяла, пока рассказывала свою историю, но мне почему-то не хотелось смеяться... и что-то жгло глаза. У Оли рак крови, она умрет через месяц, и это уже не смешно. От ее улыбки болезненно саднит в груди и хочется закричать: "Чего ты смеешься, глупая? Смерть — это же навсегда!". И словно отвечая на мои мысли, она перестала улыбаться и, глядя в окно, медленно сказала: "Умирать — это все-таки очень страшно. Ты напиши об этом. Пожалуйста. Папа прочтет — узнает. А то он еще не приезжал ни разу". И провела ладонью по сухим глазам.

Когда мне говорят о Чернобыле, я почему-то не представляю себе грандиозную АЭС, саркофаг и кучи графитовых стержней. Мне не приходят в голову и картины зараженных областей: заколоченные дома, заброшенные лысеющие собаки, всюду запах смерти и тления. Я вижу только

умирающую Олю. Она как будто все время извинялась. Просила прощения за то, что умирает, за то, что жила...

Оля любила маму, Оля любила жизнь.

Глупенькая, как можно любить жизнь в мире, наполненном радионуклидами, в мире, от которого отрекся даже Бог?

Будь проклята глупость людей, будь проклят Чернобыль!



*Мал. Тані ЧЭЛАЛА, г. Мінск*

*Елена ЖИГУНОВА,*
*учащаяся ПТУ-179,*
*г. Гомель*

# Я пишу за всех детей...

*"Третий ангел затрубил в свою трубу, и огромная звезда упала с неба, пылая, словно факел, упала на треть рек и источников. Имя звезды было Полынь, и треть всех вод стала горькой. И многие умерли от этой воды, ибо стала она горькой".*

*Откровение Иоанна.*

Чернобыль... Черная быль... Сотни жизней положены на алтарь человечества. Восемь лет я слышу: "Чернобыль — трагедия XX века". Трагедия, которая коснулась моей родной Беларуси.

Сотни беларусских деревень осиротели. Их покинули люди. Никто не слушает на заре пение птиц. Никто не встречает весной аистов. Стоит жуткая тишина. Иногда ветер нарушает ее. Заросли бурьяном тропинки от дома к дому. По ним когда-то ходили люди, поддерживая свои дружеские, родственные и просто человеческие отношения.

В реках и озерах плещется рыба, в лесу растут грибы и ягоды, но в них уже вселилась эта зараза — радионуклиды.

Стонет, тяжело дышит израненная беларусская земля. Много ее дочерей и сыновей осталось на полях последней войны...

Каждый четвертый...

А как назвать то, что случилось 26 апреля 1986 года?

В этот день грозные, страшные тучи радиоактивной пыли, гонимые ветром, начали свой смертоносный путь по

планете. Станция отправления — Чернобыль. Место назначения — тысячи городов и деревень, реки, озера, леса.

Я смутно помню тот жаркий и пыльный апрельский день. Я еще мало знала и понимала. Для меня он был обычным днем. Вместе с другими ребятишками я беззаботно бегала со скакалкой, гонялась за мячом. Мне было хорошо от яркого апрельского солнца, от молодой зелени и голубого неба.

Я только начинала познавать мир. Мне было восемь лет. В школе у меня была любимая учительница, много друзей. Я читала свои первые книжки. Меня любили родители, бабушка, дедушка. Ничто не омрачало моего детства.

И вот я услышала слова: "радиация", "Чернобыль", "взрыв"...

Будучи ребенком, я не очень-то вдавалась в смысл этих странных слов. Мне было непонятно категоричное заявление родителей, решивших не выпускать меня некоторое время на улицу. Но откуда мне было знать, что на ярко-зеленую траву, на весеннюю землю осела радиоактивная пыль.

А еще я помню вокзал... Собралось много детей и взрослых. Мамы плакали. А мы не могли понять, почему они плачут, если мы все вместе уезжаем с нашей учительницей в другой город и через месяц опять будем дома.

Первые два-три года нас вывозили в "чистые" зоны, так как в Беларуси было обнаружено много загрязненных радиацией районов. Мы, дети, чувствовали заботу и были благодарны тем, кто спасал нас.

Время шло. Только через четыре года мы узнали страшную правду. Начались заболевания. Что может быть трагичнее, чем услышать от врача: "Ваш ребенок тяжело болен, нужны медикаменты". А дальше — поиски необходимых лекарств, "выбивание" путевок. В газетах, по телевидению появились объявления. Родители просили и до сих пор просят помощи, чтобы спасти от смерти сына или дочь.

Чем измерить материнское горе? Мы каждый день слышим слова "сострадание" и "человечность". Так есть ли они



*Мал. Андрэя НЯМЦОВА, г.Мінск*

у тех, кто на рынках, на улицах продает необходимые лекарства во много раз дороже? Какая же должна быть зарплата у наших родителей, чтобы лечить детей и покупать им овощи, фрукты?

Говорят, дети — будущее нации. Что же будет с Беларусью, если сегодня ее дети не могут есть экологически чистые продукты, носить вещи по доступным ценам?

На экранах телевизоров бесконечные рекламы: "Как спасти попугая от болезни щитовидной железы? Какие витамины нужны котятам и собакам?" Очень обидно, что забы-

11 Зак. 391

ли о невинных жертвах Чернобыля, о детях. Страшно думать, что я и мои сверстники сможем прожить меньше, чем могли бы.

Я часто думаю о будущем. Мне 16 лет. Может быть, я когда-нибудь буду любимой и сама буду любить. Хочется быть счастливой. Но будут ли у меня здоровые дети? Что им уготовила судьба? Ведь я живу в зоне радиоактивного загрязнения. Я не вижу радиации, не слышу ее запаха, но она рядом со мной. Я дышу ею, ем продукты, в которых больше радионуклидов, чем витаминов. А покупать соки, привезенные из-за границы, нет средств.

Беларусь осталась со своей бедой одна — как на вулканическом острове. И еще такая беда пришла в мою республику — глубокий экономический кризис, который ведет к обнищанию народа. Люди в отчаянии. У всех одна забота — выжить.

Чувствуется, что чернобыльские проблемы полузабыты.

Тема сочинения: "Чернобыль в моей судьбе", а я пишу за всех детей и взрослых моей республики. Мы — невинные жертвы чьей-то халатности. А сегодня мы еще столкнулись и с душевной черствостью.

За восемь лет мы потеряли многих близких и родных людей. Когда я смотрю передачи о детях чернобыльской зоны, находящихся в онкологических центрах, сердце мое сжимается от боли. Беда, которая обрушилась на нашу землю, сделала их взрослыми. В глазах ребятишек немой вопрос: что с нами?

Я была бы намного счастливее, если бы не Чернобыль. Он ворвался в мою судьбу страшным вихрем. Он никогда не даст мне спокойно жить. А мечтать о будущем, кажется, нет смысла. Я всегда буду в тревоге за своих родных, за своих ровесников, за тех, кто еще не появился на свет.

Если бы меня спросили о моем самом заветном желании, я бы ответила: "Пусть на моей маленькой голубой планете по имени Земля никогда не повторится 26 апреля 1986 года!"

*Ларыса ЖУК,*
*вучаніца 10-га класа*
*СШ N9 г.Мазыра*

# Пажар душы

Пра становішча ў краіне
Вам казаць не трэба.
Усіх клапоціць толькі гэта:
Што набыць да хлеба?

Як дзяцей абуць, адзець,
Кожнага хвалюе,
А Чарнобыль восем год
На людзей палюе.

Адбылася ў ліхі дзень
На ЧАЭС аварыя,
Адгукнулася на сэрцы
І ў душы — пажарамі.

Паляцела ва ўсе бокі
Ды куткі атрута,
Нібы нейкі дух злавесны,
Горды і магутны.

Немагчыма стала жыць
Так на белым свеце:
Колькі жыццяў паламана
І старым, і дзецям.

*Наталля ПРАКАПЕНКА,*
*вучаніца 10-га класа*
*СШ №6 г.Калінкавічы*

# Падрасцём — зразумеем

Сваім дзіцячым розумам я не магла ўсвядоміць трагедыі Чарнобыля. Была нават радасць ад таго, што можам усёй школай некуды паехаць і пабыць пэўны час без строгага бацькоўскага нагляду.

А як прыемна было, калі бацькі са слязамі на вачах сустракалі на вакзале. Для нас, дзяцей, гэта былі проста слёзы радасці. А для бацькоў?.. Мабыць, не толькі радасці. Бо калі аднойчы я запытала ў матулі, чаму яна плача, яна, глытаючы слёзы, адказала: "Падрасцеш — зразумееш".

Як змянілася маё разуменне чарнобыльскай трагедыі цяпер. Я ўжо добра ўсвядоміла, што значаць выразы "чарнобыльскі палын" і "чарнобыльскі дождж", і ведаю, чаму месцы абавязковага адсялення называюць мёртвымі зонамі, мясцовасці, забруджаныя радыенуклідамі, — зонамі выжывання, а матэрыяльную дапамогу — невялікія грошы, якія дае дзяржава ў забруджаных зонах, — "трунавымі".

Два гады назад памёр ад лімфасаркомы дзевяцігадовы пляменнік маёй маці. Дзесяцігадовым памёр хлапчук, з якім я вучылася ў першым класе, ад злаякаснай пухліны. Памерла ад рака ў 37-гадовым узросце маці маёй аднакласніцы. Ужо восем месяцаў адсутнічае наша настаўніца матэматыкі, якая знаходзіцца з хворым пятнаццацігадовым сынам у Мінскім анкалагічным цэнтры.

У Пімена Панчанкі ёсць верш "Учора сэрца сціснула мне жалем", у якім паэт іранізуе над смерцю:

Бяры старых распусніц, цісні грудай,
Хапай бандзюг, бязносая карга.
А ты бярэш і маладых, і мудрых,
Ці, можа, пераблытана чарга?

Смерць усё часцей і часцей пачала забіраць маладых ды дзяцей, дзяцей...

Усё часцей з трывожнымі думкамі выходзяць маці са сваімі дзецьмі з кабінетаў урачоў. У кожнага другога з праверанных дзяцей нашай школы павялічана шчытападобная залоза.

Усё часцей дзеці ні з таго ні з сяго трацяць прытомнасць.

Узроставы перыяд, кажуць урачы... А чаму раней працэс фарміравання арганізма дзяцей ішоў без такіх адхіленняў?

Ці не рэха гэта Чарнобыля? Ці не таму, што арганізм дзяцей аслаблены, кволы? Ці не таму, што замест вітамінаў нам даводзіцца спажываць нічым не замененыя радыенукліды?

У кнізе У.Караткевіча "Зямля пад белымі крыламі" прыводзіцца легенда, складзеная ў 30-я гады XIX стагоддзя, як Бог дзяліў землі. У ёй гаворыцца, што беларусам дастаўся рай: рэкі — поўныя, пушчы — нямераныя, азёры — нялічаныя, а яшчэ звяры і дзічына ў пушчах чародамі, рыба ў рэках — касякамі, пчолы ў борцях — мільёнамі.

Цяпер, напрыканцы XX стагоддзя, нам, беларусам, застаўся Чарнобыль, горкі, знішчальны, няўмольны. І рай спакваля ператвараецца ў пекла.

У адным з вершаў той жа Пімен Панчанка даводзіць, што няма на зямлі такога гора, якое б нельга было перажыць, не хочуць толькі матулі сівыя з горам сваім расстацца, сыноў ім не вернеш, не дапаможаш.

Хто скажа, каго ці што яшчэ забярэ ў нашых матуль Чарнобыль, які выбраў нас? Хто скажа, як яго перажыць?

***Наталля ДЗЯТКОЎСКАЯ,***
*вучаніца 7-га класа,*
*вёска Сяменча Жыткавіцкага раёна*

# Як пуста ў гэтым доме...

О, краіна шчасця, родная матулька,
О, краіна ясных, незабыўных дзён!
На шырокім свеце не знайду прытулку,
Не прывыкну сэрцам да чужых старон!

І сапраўды, наша краіна спрадвеку была родным кутком беларусаў. Кожны жыў на сваім месцы, марыў пра шчасце. Але ў 1986 годзе адбылася сусветная катастрофа. І назва непрыкметнага гарадка Чарнобыль стала для ўсіх страшным словам, якое нясе боль і слёзы ў нашы сэрцы.

Усіх людзей з бліжэйшых да АЭС вёсак пачалі высяляць. З жалем у вачах пакідалі яны свае хаты і мусілі ехаць у чужыя мясціны. Яшчэ ніхто не ведаў, што можа нарабіць радыяцыя, але тут яны не маглі ўжыцца: не хапала ім чагосьці свайго, роднага. І толькі пасля таго, як пачалі хварэць на цяжкія, невылечныя хваробы, людзі зразумелі ўсю бяду, што напаткала іх радзіму. Многія не маглі змірыцца са стратай свайго мілага сэрцу краю.

...Як пуста ў гэтым доме,
Маркотна-безгалосым!..
Праходзяць міма людзі,
З іх клопатам, з іх лёсам.

Ідуць сяльчане міма,
Але ніхто не зверне
У гэты двор, да дома.

Дом не такі стары ўжо
І не такі ўжо новы.
Ды б"е па ім самота,
Як дождж цяжкі свінцовы.

Яна ж, самота, сее
Маркотныя сняжынкі:
Хто ў гэты дом пратопча
Па цаліку сцяжынку?

У часы маленства нашых бацькоў любімай іх гульнёй была "ў вайну". Ёй захапляліся і хлопчыкі, і дзяўчынкі. Пасля аварыі на АЭС у дзяцей з"явілася новая гульня "ў бэры". Яны з захапленнем іграюць свае ролі. Дарослыя не забараняюць ім гэтага: што скажаш, калі сцэнарый і правілы спісаны з жыцця? Хоць знешне тут нічога не змянілася, усё ж вельмі востра адчуваецца тая нябачная мяжа, што падзяліла жыццё ў забруджаных мясцінах на два вымярэнні — "да" і "пасля" 26 красавіка 1986 года.

...Усе выехалі. "Мёртвая зона" абнесена калючым дротам. Непрыгодныя, забруджаныя землі. А раней кожны год яны давалі высокі ўраджай.

Пуста. Ды не... Вунь віецца шызы дымок з хат старых бабуляў і дзядуляў, якія засталіся на сваёй зямлі і не хочуць, не могуць ехаць з яе. Усё жыццё пражылі тут, а на старасць выязджай. Не, яны лепш дажывуць тут да сваёй апошняй гадзіны. І жывуць.

Пасля хімічнае праполкі
Не стала ў полі перапёлкі.
І песні "пець-палоць" яе
Цяпер нам гэтак нестае!

І сад загублены, і пчолка,
І плача вёсачка ў прыпол,
Што на спатканне перапёлку
Не кліча шэры перапёл.

Наша краіна выдзяляе шмат сродкаў на дапамогу людзям, што пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. Ды сродкаў гэтых не хапае. Прысылаюць нам з-за мяжы гуманітарную дапамогу. У першую чаргу — лекі, медыцынскае абсталяванне. Ездзяць дзеці і за мяжу на адпачынак. Але гэта ўсё роўна не зробіць людзей шчаслівымі. Яны мараць вярнуцца назад у сваю старонку, у сваю хату.



*Мал. Паўла КАВАЛЕВІЧА, г. Мінск*

*Евгений ПЕТРАШЕВИЧ,*
*ученик 10-го класса*
*Михновичской СШ Калинковичского района*

# Заветное желание

Все было: и луг манил к себе, где часто я проводил свое время с друзьями, и лес зазывал в грибное царство. Но все это осталось в прошлом.

В нашей деревне Михновичи радиация достигла 5 кюри. Если сравнить, как было раньше и что стало теперь, можно сказать: Чернобыль забрал у нас покой, надежду на будущее, веру в счастье. Настоящее похоже на страшный бред.

Я учусь. Учусь хорошо. Как и мои сверстники, мечтаю о будущем и хочу, чтобы оно было без запретов, о которых я постоянно читаю в газетах, слышу по радио, вижу по телевидению.

Большие испытания выпали на долю моего народа в годы Великой Отечественной войны. Погиб каждый четвертый. Кровожадный Чернобыль уже унес сотни тысяч людей, сотни тысяч детей заполнили больницы, клиники. Тяжело слышать, как в отчаянии родители обращаются по телевидению ко всем людям, чтобы их сыну или дочери помогли уехать за границу на операцию по пересадке костного мозга.

Рак крови — это болезнь нашего многострадального уходящего века. К сожалению, и меня коснулся зловещий Чернобыль — у меня обнаружили заболевание щитовидной железы. Какие будут последствия, трудно предсказать.

Недавно я прочел книжку Алеся Криги "Чарнобыльскі лабірынт". Он пишет, что его включили в комиссию по проверке Брагинской райбольницы. Мне запомнилась та страница, которую нельзя читать без боли, — данные медицинских карт диспансерного учета:

Елена Д. — 1985 г., доза — 396 бэр.

Андрей Г. — 1985 г., доза — 788 бэр...

Названо более ста фамилий девочек и мальчиков. Вычисление сделано на щитовидной железе.

Конечно, это ужасно. Нет войны, не летят бомбы, не рвутся снаряды, но гибнут дети, умирают взрослые. Это разве не война? Страшно, что беда подкрадывается незаметно, по-предательски.

И что за жизнь у нас теперь? В лес — нельзя, играть на траве — нельзя, ловить рыбу — нельзя... А жить — можно! Жизнь человека дороже всего. Но почему опускают глаза, когда сельский подросток захлебывается своей кровью, когда наровлянский мальчик падает в обморок на уроке, когда девочке из Брагина учительница не может остановить кровь?

Что же сделать, чтобы помочь этим несчастным?

Боль Чернобыля — это тема, которая теперь стала вечной. Мы все меченые Чернобылем, его безвинные заложники. Нас, таких школьников, в Беларуси более полмиллиона. Мы едим яблоки со стронцием, пьем молоко с цезием, ходим и играем на земле, в которой полно смертоносных частиц.

Чернобыльская трагедия продолжает калечить наше здоровье, души и судьбы. Я не хочу, чтобы это продолжалось. Мы все хотим жить, играть, веселиться, надеясь на лучшее.

Читал "Беларускую думку", N7 за 1992 год, и так тревожно стало на душе. "Жизнь в условиях радиации накладывает безрадостный отпечаток на личность подрастающего человека".

Там пишется, что в школах проводили анкету, и на вопрос: "Какое твое заветное желание", многие ребята ответили так: "Хочу, чтобы никогда не болела моя мама", "Хочу жить", "Хочу, чтобы люди были здоровыми", а один мальчик написал: "Хочу скорее умереть".

Эти строки звучат как обвинительный акт взрослым, которые оставили детей без должной поддержки и помощи.

Неужели может такое случиться, что "будет зелено, но не будет весело", "будет все, но не будет никого?"

*Аляксей ХАНЦЭВІЧ,*
*вучань 7-га класа*
*Азарыцкай СШ Калінкавіцкага раёна*

# У гасцях добра, а дома лепей

*Жыццё пражыць —*
*не поле перайсці.*

**Народная прыказка**

Жыццё! Як радуецца кожная маці, калі дорыць жыццё свайму дзіцяці. І пакуль мы, дзеці, вельмі слабыя, яна абараняе нас ад любой нягоды. А сёння? Хіба можа маці абараніць нас адна ад бяды, якая прыйшла да ўсіх беларусаў?

Роўнымі радамі разбягаюцца хвалі пасля парахода, што плыве па рацэ. Зялёным покрывам рассцілаецца трава па берагах. Едзеш і любуешся вёскамі, гарадамі, якія раскінуліся на ўзбярэжжы ракі Прыпяць.

Вось і Чарнобыль...

Калі здарылася аварыя, мне не было і шасці гадоў. Але я добра памятаю, як аб гэтым паведамілі па радыё і тэлевізары. Памятаю, як занепакоіліся мае бацькі. Маці кожны дзень прасіла мяне менш бегаць па вуліцы. Але ці можна было ўседзець у хаце, калі на дварэ вясна. Сонца так і клікала на вуліцу. Тады я не разумеў, што гэта за бяда, ад якой мы павінны былі хавацца ў хаце, не піць цёплае малако з-пад каровы, не ісці ў лес. Праз наш пасёлак ехалі аўтобусы з дзецьмі — іх везлі далей ад бяды. Я бачыў заплаканых жанчын.

Праз месяц і я разам з сястрой і бабуляй паехаў на ўсё лета ў Разанскую вобласць да бабулінай сястры, як тады казалі, — далей ад бяды. Там было добра, але мы сумавалі

па бацьках, бо ніколі не разлучаліся з імі надоўга. Мы сумавалі па сваіх родных мясцінах, па сваім двары, дзе расло шмат дрэў і кустоў. Нам карцела адчуць водар бярозавага соку, ягад, якіх так многа ў нашых лясах.

Лета праляцела хутка, і мы вярнуліся дадому. Але радасці не было. Бо толькі і гаварылі аб радыяцыі. У гэтым жа годзе памёр ад лейкеміі мой сябар Слава. Памёр на руках у свайго бацькі. А як хацелася яму жыць! Гэта вядома толькі яго бацьку, які разам з ім быў у бальніцы да апошняй хвілінкі ягонага жыцця.

Мы кожнае лета ездзім куды-небудзь, каб паправіць сваё здароўе. Але я чамусьці думаю: ніхто сёння не дасць гарантыі, што я або мае родныя не можам цяжка і непапраўна захварэць. Гэтага н вельмі баюся.

Аб Чарнобылі нельга забываць, ён усё часцей і часцей нагадвае аб сабе. З'явілася шмат людзей з рознымі хваробамі, пра якія ў гэтых мясцінах раней ніхто не чуў. Гэтую цяжкую ношу Беларусь нясе ў адзіноце, бо няма больш былога СССР.

Далёкае замежжа дапамагае нам лекамі, запрашае да сябе на адпачынак нашых дзяцей. Але хіба можна даць прытулак усім хворым? Здаецца мне, што выйсця няма і нашай шматпакутнай Беларусі давядзецца адной перанесці гэтую навалу. Ці справімся мы з ёю? Каго я ні слухаў, колькі ні чытаў кніжак, газет, часопісаў, ніхто не можа адказаць на гэтае пытанне.



*Павел ЧЕКМАРЕВ,*
*ученик 8-го класса*
*СШ N1 г.Добруша*



# Где ты, мой аист?

*Летят перелетные птицы*
*В осенней дали голубой.*

Эту песню Михаила Исаковского я всегда вспоминаю, когда надо мной пролетают птицы, оглашая небо прощальными криками. И мне становится грустно.

Но когда они весной летят обратно к своим гнездовьям, мне хочется поцеловать каждую крылатую гостью.

У околицы деревни на вершине кирпичной трубы, оставшейся от когда-то сгоревшей хаты, сколько я помню, с первых лет моего детства, в виде шляпы большого гриба было гнездо аиста. Я видел, как он степенно шагал по лугу или молча стоял у дороги, словно думал о чем-то. "Философская птица", — говорил наш учитель.

Мой отец любил ловить рыбу. С вечера он готовил удочки и на рассвете отправлялся на озеро. А мне больше всего на свете хотелось быть с ним, и я готов был не спать всю ночь, только чтобы он взял меня с собой. Проезжая на мотоцикле возле гнездовья аиста, я видел, как он на своих красных ногах уже выхаживал по лугу.

Как приятно на озере, когда над ним курится пар! Камыши и молодые ракиты словно заснули, не шелохнется ни один листочек.

Возвращаясь с рыбалки, я гордо держал на низке золотистых карасей. Непривычная жара заставила меня взглянуть на солнце. Огромное и по-летнему жаркое, оно сияло почти на все небо, и что-то зловещее было в этом сиянии.

Я никогда не видел ничего подобного, и это солнце, и эта последняя рыбалка запомнились мне на всю жизнь.

Странно: я люблю солнце, когда холодно и сыро, я всегда его жду. Но сейчас, когда оно, большое, яркое, сияет в небе, мне становится жутко и я чувствую неприятный озноб.

Осиротевший аист. Все перевернулось. Уже он провожал людей; покидавших свои жилища. Молча глядя на последнюю машину, груженную узлами, он, верно, думал: "Люди, как же это?.." А деревня с забитыми крест-накрест окнами — словно большое кладбище. Много кирпичных труб над разобранными хатами и теперь возвышаются жуткими памятниками. Но ни одного гнездовья не появилось на них.

Мы больше не ездим на озеро. Зато нередко я совершаю иные поездки — в незнакомые места, как говорят, в "чистую" зону. Наверно, это хорошо — повидать другие земли, других людей. У меня появились новые друзья, я привык к дороге. Но почему-то меня это не радует.

В числе немногих сверстников посчастливилось мне побывать в Германии. Жил я в живописной деревне, в доме у доброй фрау Бригитты. Любила она меня, как сына, старалась вкусно и сытно кормить. Мне дороги ее милые подарки. Фрау Бригитта знала русский язык и охотно беседовала со мной. Она рассказывала веселые истории, шутила. Фрау Бригитта, смеясь, теребила мои непослушные вихри, совсем как моя бабушка Катя. Я запомнил ее женщиной веселой и до сих пор не знаю, почему она, молча глядя на меня, когда я играл с ее собачкой, утирала слезы.

Да... Я видел теплое море, горы со снежными вершинами, экзотические деревья, широкие реки с нарядными кораблями. Я побывал во многих городах, встречал разных людей. Но почему-то все время перед глазами у меня стояло тихое



*Мал. Сашы КІЗІЛАВА, г.Мінск*

озеро с зеркально чистой водой, с зелеными ракитами, а у дороги на длинных ногах — "философская птица".

В очередной раз скорый поезд уносит меня в иные места, где есть и чистое небо, и чистый воздух, но нет родины. Я стою у окна вагона, а в небе мне навстречу летят журавли. Знают ли они об аварии? Люди, что же мы наделали? Дай, Боже, силы выжить и прости нас, грешных!

*Кацярына* ***ШАЎЧЭНКА,***
*вёска Ігаўка*
*Добрушскага раёна*

# Мае другія бацькі

Першага мая мае бацькі перабіралі недалёка ад дома насенную бульбу. Было спякотна, і я часта насіла ім піць ваду.

А вечарам на захадзе з'явілася пыльная хмара. Яна хутка набліжалася. Мы ледзь паспелі забегчы ў калідор нашага дома. І тут такое пачалося! Шквальны вецер, пясок, салома, папера, галінкі дрэў праносіліся з вялікай хуткасцю. Так было хвілін дзесяць. Потым сціхла.

Праз некалькі дзён прайшоў дождж. Лужыны былі пакрыты жоўтай пенай. Нам тлумачылі, што гэта пылок з дрэў, хоць яны і не цвілі. Неўзабаве прыйшло ўказанне паслаць машыны ў Хойніцкі раён вывозіць жывёлу. Вадзіцелі і прывезлі адтуль страшную вестку аб тым, што на Чарнобыльскай АЭС, якая знаходзіцца ад нас за 100 кіламетраў, здарылася аварыя, што людзей вывозяць і скаціну таксама. Вось тут і стала зразумела, што пыльная бура і жоўтая пена на вадзе — вынікі трагедыі. Цяпер мы жывём у зоне забруджвання ад 5 да 15 кюры.

Першае, што прапанавалі ўрачы, — гэта развесці 15—25 кропель ёду ў вадзе, піць для прафілактыкі і як мага менш знаходзіцца на вуліцы. Але было гэта ў сярэдзіне мая.

Праз месяц дзяцей старэйшага ўзросту вывезлі ў Ліпецкую вобласць на 60 дзён, а мы, дзеці-дашкаляты, былі дома. І толькі ў 1989 годзе мне пашчасціла выехаць на аздараўленне ў Віцебскую вобласць,у піянерскі лагер на 24

дні. У 1990—92 гадах я пабывала ў Азербайджане, Малдове і ў Крыме. Усюды было вельмі добра, але мне хочацца расказаць, як я два разы ездзіла ў Бельгію.

Бельгійскі дабрачынны фонд "Дапамога дзецям у бядзе" на чале з прэзідэнтам Х'юга Івенам арганізаваў вываз дзяцей раённага цэнтра Кармы і 12 дзяцей Ігаўскай сярэдняй школы.

І вось мы ў Гінгеломе, пункце нашага прызначэння. Як там прыгожа! Гэта цяжка перадаць словамі, гэта трэба бачыць. Больш за ўсё мяне здзівіла, што ўсюды ідэальная чысціня, каля дамоў абрэзаныя кусцікі, падмеценыя дарожкі, абавязкова невялікі сад і многа-многа кветак.

Нас размеркавалі па сем'ях. Мне пашанцавала: гаспадары трапіліся вельмі добрыя, размаўлялі на англійскай мове, якую я вывучаю ў школе. Гаспадар Ламбэрт, гаспадыня Югет і дачка Анэліз. Усе такога ж узросту, як мае бацькі і я сама.

А сёлета яны прыязджалі да нас у Ігаўку. Былі толькі тыдзень. Ім вельмі спадабалася ў нас, дый пабачылі сапраўдную зіму (былі яны ў лютым, калі маразы даходзілі да 20—25 градусаў).

Я вельмі шчаслівая, што пазнаёмілася з гэтай дзіўнай краінай, што ў мяне ёсць там другія бацькі (яны так і сказалі: "Мы твае бельгійскія бацькі на ўсё жыццё"). Яны, можна сказаць, падстрахоўваюць і ахоўваюць мяне. Дай, Бог, ім здароўя і шчасця!



*Наталля ЗЯЦІКАВА,*
*вучаніца 9-га класа*
*Вілейскай гімназіі*



# Развітанне з Дзям'янкамі

Лепшыя гады свайго жыцця я правяла ў Дзям'янках. Гэтая вёска ў квецені яблынь, груш, сліў, вішань мроіцца мне і цяпер.

Я праходжу на агарод, абапал засаджаны кустамі маліны. Тут, у Дзям'янках, чамусьці любяць асабліва гэту ягаду, і летам вясковыя вуліцы нібы не маюць агароджаў: суцэльныя кусты маліны, у зялёнай лістоце якіхззяюць-зіхацяць пунсова-чырвоныя спелыя ягады. І я не стрымліваюся ад спакусы, зрываю буйную маліну і кладу ў рот. Салодкі смак ягады вяртае мяне ў маленства. Маленькай чатырохгадовай дзяўчынкай забралася я ў агарод, каб, нягледзячы на маміны забароны, наесціся, наталіць душу малінай. І раптам голас: "Наташа! Ізноў у маліне сядзіш! Ну як жа я вылечу твой дыятэз?" Спужаўшыся мамы, я бягу праз агарод, адчыняю веснічкі і перада мною — луг. Нібы чарадзейны дыван рассцілаецца пад нагамі: жоўтым россыпам дзьмухаўцы і люцікі, на іх фоне — ружовыя гваздзікі, сінія васількі, белыя купкі рамонкаў, блакітных незабудак. І я кідаюся ў гэта мора кветак, з галавой акунаюся ў яго, мне хочацца спяваць ад радасці і шчасця. А луг адказвае мне сакатаннем konікаў, гудзеннем пчол.

Луг знаходзіцца на ўзгорку, адкуль мне адкрываюцца цудоўныя краявіды. Справа залатое жытнёвае поле, — здаецца, сонца з неба апусцілася на зямлю і калышацца пад лёгкімі парывамі ветру. Далей волатам паўстае лес, нязменны вартавы і жытнёвага поля, і лугу, і вёскі, і ракі Іпуць, што бліскучай стужкай агінае вёску.

Я бягу на зерняток да дзядулі. Я люблю глядзець, як разгружаюць машыны са збожжам, як вырастаюць горы самага сапраўднага золата. Потым спяшаюся да жанчын на зерненесушылку. З разбегу ныраю ў збожжа і зарываюся ў яго па самыя вушы. Хапаю зярняткі ротам і ем, ем, аж вочы заплюшчваю ў асалодзе...

Поезд раптам прыпыняецца, і я прачынаюся. "Ужо Гомель?" — пытаюся ў матулі. "Не, спі яшчэ! Гэта Жлобін. Разбуджу, калі будзем у Гомелі," — ласкава адказвае мама і нацягвае на мяне коўдру.

Я заплюшчваю вочы. Думкі мітусяцца ў маёй галаве і не даюць мне заснуць. На двары глыбокая ноч.

Колькі разоў [redacted] ехала сюды са шчаслівым прадчуваннем радасці ад сустрэчы з бабуляй і дзядулем, сябрамі і сваякамі. Не адно лета я правяла ў Дзям'янках. Гэты прыгожы шчаслівы край стаў маёй радзімай. А зараз?..

Памятаю, як хвалявалася і плакала мама, даведаўшыся аб здарэнні ў Чарнобылі. Яна ўрач і добра ўяўляе, што пагражае роднай вёсцы і яе жыхарам. А я не разумела яе слёз і турбот, бо лічыла чарнобыльскую аварыю звычайным пажарам, якія здараюцца амаль кожны дзень.

Помню свой першы прыезд у вёску пасля трагедыі. Нідзе не відаць ніводнага чалавека, людзі нібы хаваліся ад радыяцыі, лічачы самай надзейнай абаронай родную хату. Шмат дамоў было пазабівана.

З кожным крокам сэрца маё ледзянела ад жаху — я не пазнавала блізкіх сэрцу мясцін. Калі мы ўжо амаль падышлі да роднай хаты, раптам пачулі жалобнае скуголенне сабакі. Мабыць, гаспадары паехалі з родных мясцін, ратую-

чыся ад радыяцыі, а сабака вярнуўся на былое месца жыхарства. Яго скуголенне было падобнае на чалавечы плач.

Матуля ласкава пагладзіла мяне па галаве: "Не плач, дачушка! Супакойся!". Я падняла галаву і ўбачыла слёзы ў яе вачах.

Так і застала нас бабуля: абедзвюх у слязах, і кожная моцна трымае ў абдымках другую, нібы не адпускае, не дае зваліцца ў гэту магілу, трапіць у пастку радыяцыі.

Калі мы прыехалі дамоў у Вілейку, на нас звалілася новае няшчасце: бацьку адпраўлялі на будаўніцтва домікаў для бежанцаў. Амаль два месяцы правёў ён у радыяцыйнай стыхіі. Я памятаю матуліны слёзы і бацькавы просьбы, каб нічога не гаварылі яго маці. Яна б і па сённяшні дзень нічога не ведала пра гэта, каб я не прагаварылася. Ніколі не забыць мне бабуліны слёзы. А мне тады добра дасталося ад мамы. У час чарнобыльскай камандзіроўкі бацька атрымаў апрамяненне шчытападобнай залозы.

У душы я радуюся, што праязджаю па Палессі ноччу, бо ўдзень здаецца, што праязджаеш могілкі, могілкі вёсак, хат, чалавечых душ. Пачынае світаць. Прачынаюцца бацькі, малодшы брат і маленькая сястрычка.

Пасля трагічнага выбуху я неаднаразова прыязджала на радзіму. Вёска адмірае. І зараз я еду ў Дзям'янкі ў апошні раз, таму мы і выбраліся ў дарогу ўсёй сям'ёй. Бабуля з дзядулем атрымалі кватэру ў больш чыстай ад радыяцыі зоне (хаця таксама ў Добрушскім раёне). Але я б аддала ўсё, каб яны засталіся ў Дзям'янках, каб радасць і шчасце ізноў вярнуліся сюды, каб ліхадзейская радыяцыя як з'явілася ў адзін момант, так і знікла.

У летуценнях час праходзіць хутка. І я не заўважыла, як мы апынуліся ў Добрушы.

"Наташа! Ну што ты там стаіш? Пра што думаеш усю дарогу? Бяжы сюды хутчэй. Аўтобус прыйшоў!" — раптам чую матулін голас. Я саджуся ў аўтобус ля акна. Апошні раз еду дарогай, што вядзе ў маё маленства, хачу назаўсёды пакінуць яе ў сэрцы, запомніць да дробязей.

Выпадкова чую размову бацькі з шафёрам.

— Не, не пойдзе аўтобус у Дзям'янкі! — катэгарычна адмаўляе шафёр.

— Чаму? Ён жа заўсёды ішоў на Марозаўку праз Дзям'янкі...

— Заўсёды ішоў, а цяпер не-е. Зона там, разумееце, зона! — кажа шафёр па складах, а ў мяне слёзы нагортваюцца на вочы. От што значаць пакінутыя вёскі...

Падыходзіць бацька. "Ну што? — пытаецца ў яго мама. "Аўтобус не пойдзе праз Дзям'янкі, — разгублена адказвае тата. — Пяць кіламетраў давядзецца ісці пеша".

Зона! Божухна, няўжо мае родныя Дзям'янкі — небяспечная зона, забароненая, не прыгодная для жыцця людзей. Не, не можа быць!

За акном праплываюць шэрыя пакінутыя хаты. На слупах некаторых веснічак завязаны ручнікі. З даўніх часоў ручнік — неад'емная частка ўсіх беларускіх народных абрадаў і звычаяў. На ручнікі прымалі нованароджаных, ручніком звязваюць маладых на вяселлі, на ручніках апускаюць у магілу труну з нябожчыкам, ручнік завязваюць на магільных крыжах. І вось ручнікі на веснічках. Як знак таго, што чалавечая душа навечна застанецца тут, у гэтай хаце.

Аўтобус раптам прыпыняецца. "Хто да Дзям'янак — вылазь! Далей аўтобус ідзе ў абход!" — чую голас шафёра і спяшаюся на выхад. На дварэ спякотнае лета, але мяне чамусьці кідае ў дрыжыкі. "Апошні раз, — стукае ў галаве, — усё ў апошні раз!"

Наперадзе бачу нейкае збудаванне. Падышоўшы бліжэй, разумею, што гэта кантрольны пункт. Мы прыпыняемся перад шлагбаумам. Да нас выходзіць салдат.

— Куды? — грозна пытаецца ён.

— У Дзям'янкі.

— Прозвішча?

Мы называем сябе.

Салдат доўга корпаецца ў спісках.

— Леанід Паўлавіч? — раптам пытаецца ён.

— Так.

— Праходзьце.

Салдат падымае шлагбаум, і мы — у зоне.

Насустрач едзе аўтобус, ён прыпыняецца, і да нас выходзіць шафёр: "Люда, вы ў Дзям'янкі? Сядайце, падвязу!". Мама здзіўлена глядзіць на шафёра і раптам пазнае свайго аднакласніка. Мы сядаем у аўтобус і хутка пад'язджаем да Дзям'янкаў, дзе нас ужо чакаюць.

Іду па вуліцы. З пяцідзесяці хат жыццё цепліцца толькі ў трох: у адной жывуць матуліны бацькі, а дзве іншыя заняты бежанцамі з Украіны.

Заходжу ў двор і плачу: усё, як заўсёды, але мае сумны выгляд. Няма ў садзе кветак, акрамя некалькіх кустоў братак, якія, як успамін аб былым харастве, на зло ўсім бедам, прабіліся праз густы дзёран. Заходжу ў агарод: няма на дрэвах ні яблыкаў, ні груш, дзе-нідзе на пажоўклых лістах маліны можна ўбачыць рэдкія ягады. На лузе за агародам усё так жа шмат кветак, але над імі не кружацца пчолы, не сакочуць конікі. Я плачу ад жалю і бяссілля.

Нячутна падыходзіць бабуля: "Лесам будуць засаджваць нашы Дзям'янкі, — з горыччу кажа бабуля..." От як. "Гэта канец, — прамаўляю я, — разумееш, бабуля, канец! Ніколі ўжо, ніколі не вернецца тое, што было шчасцем нашага роду, сям'і".

"Хадзем, унучачка, хадзем, трэба з хатай развітвацца," — кліча бабуля. Як у сне выходжу за ёй за вароты. Падымаю галаву: вокны і дзверы забіты, дзядуля вешае замок на веснічкі. У мяне вырываецца крык, здаецца, сэрца зараз выскачыць з грудзей. "Пакланіся, дачушка!" — шэпча мама. Азіраюся: мама, бабуля і цётка нізка кланяюцца хаце. Дзядуля з татам і дзядзькам стаяць, зняўшы шапкі і апусціўшы галовы. Я здымаю з шыі белую хустку і завязваю яе на слуп варот. Не ў сілах больш стрымліваць слёзы, я падаю на калені.

Не памятаю, як ішла да прыпынку. Наперадзе бегла малая сястрычка. Ёй толькі два гады, яна не разумее турбот дарослых. Божухна! Калі ласка, не засмучай яе радаснага маленства. Няхай ёй ніколі не давядзецца назаўсёды пакідаць сваю радзіму, сваю хату. Божухна! Дай ёй шчаслівую долю.

*P.S. Паважанае журы!*

*З даўніх часоў жылі мае продкі ў вёсцы Дзям'янкі Добрушскага раёна. Амаль паўвёскі жыхароў былі маімі сваякамі. У Дзям'янках выраслі мая мама і яе сястра, мая бабуля і дзядуля, прабабуля. Тут пахавана шмат маіх родных. І маё маленства прайшло ў гэтым цудоўным кутку. Я думаю, што словы Янкі Купалы "Божа! Гэткі свет тут моц стварыла твая!" прысвечаны менавіта маёй роднай старонцы. Я нарадзілася і вырасла ў Вілейцы, але радзімай сваёй лічу Дзям'янкі. Праўду кажуць: "Дзе прайшло маленства, там пачынаецца Радзіма". У Дзям'янках пачыналася маё жыццё, усё было ўпершыню: першыя словы, першыя крокі, першыя прабабуліны калыханкі і казкі, першыя сябры і першыя непрыяцелі.*

*Чарнобыльская аварыя перавярнула ўсё. Яна подлай вірлівай плынню ўварвалася ў мірны быт сялян. Людзі пакідалі абжытыя месцы, назаўсёды развітваліся са шчаслівымі часінамі, праведзенымі ў родным кутку. Замест вясёлых і шчырых аднавяскоўцаў на вуліцах з'яўляліся салдаты, усе на адзін твар. Часта яны здаваліся мне робатамі, якія былі накіраваны на працу ў раён, не прыстасаваны для жыцця чалавека. Тады і ўсе жыхары вёскі здаваліся мне ўжо не людзьмі, а робатамі.*

*Чарнобыль — самая горкая старонка майго жыцця. Таму, даведаўшыся аб вашым конкурсе, я адразу вырашыла прыняць у ім удзел. Думаю, калі падзялюся сваімі перажываннямі, мне стане крыху лягчэй.*

*З павагай, Наташа.*

*Людміла АБРАМЕНКА,*
*вучаніца 10-га класа*
*СШ N11 г. Жлобіна*

# Нехта нешта недагледзеў

Калі здарылася непапраўнае, тыя жыхары, якія аказаліся ў забруджанай радыяцыяй зоне, былі адселены ў менш забруджаныя раёны, дзе жыццё іх было ў большай бяспецы.

Аднак гэта не пазбавіла нас ад праблем.

Радыенукліды, назапашваючыся, дрэнна дзейнічаюць на здароўе чалавека. Шмат дзяцей, якім было да сямі год, больш чым дарослыя пацярпелі ад радыяцыі таму, што яны былі бліжэй да зямлі, да пылу.

Нас таксама гэта не абмінула. Было мне ў той час сем год, і радыяцыя дрэнна адбілася на маім здароўі. У мяне з'явіліся хваробы падстраўнікавай залозы і страўніка. Мая маці ўжо анкалагічна хворая. А два гады назад памерла ад захворвання ракам крыві мая найлепшая цётка, якой было дваццаць тры гады. У яе застаўся трохгадовы сын і невядома, як на ім адаб'ецца радыяцыя.

Мясцовыя ўлады раз-пораз арганізоўваюць вываз дзяцей на адпачынак у чыстыя зоны. Але ўсё гэта чамусьці не для мяне. У некаторых ёсць магчымасць з'ездзіць за мяжу, толькі для гэтага, напэўна, патрэбны вялікія грошы, якіх у мяне няма. І круглы год я знаходжуся ў забруджанай зоне Гомельскай вобласці. Падчас летніх канікулаў езджу адпачываць у вёску ў Буда-Кашалёўскі раён, але і там не менш радыяцыі, чым у маім горадзе Жлобіне.

Усё насунулася на Беларусь з-за памылак нейкіх людзей. Нехта недзе нешта недагледзеў, а ні ў чым не вінаватыя людзі вымушаны плаціць за гэта сваім здароўем, нават

жыццём. І хоць мінула ўжо восем гадоў, жыццё не палепшылася. Мы дыхаем забруджаным радыенуклідамі паветрам, таму што не можам не дыхаць. Мы ядзім беларускую бульбу, якая, нягледзячы на ўсё, расце на нашай дарагой і роднай зямлі; беларус без бульбы — не беларус. У сувязі з радыяцыяй у наш час нараджаюцца дзеці з фізічнымі і іншымі адхіленнямі. Але ніхто і ніколі не зможа забараніць жанчынам рабіцца матулямі, бо кожная хоча пачуць ад свайго роднага і кроўнага дзіцяці слова "маці". І яшчэ з той прычыны, што беларускі народ павінен мець свой працяг, сваю будучыню.

З кожным годам будзе аднаўляцца колькасць жыхароў у горадзе, вёсцы, і гэты народ будзе змагацца за сваё жыццё. А калі нехта робіць памылкі, то сам павінен і адказваць за іх па ўсёй строгасці закону, бо несправядліва, калі беларуская нацыя церпіць з-за чужога нядбайства.

Яшчэ я вельмі ўдзячна тым замежным людзям, якія шлюць нам сваю дапамогу, у тым ліку і медыкаменты. Калі ж нашы ўлады ўжо склалі рукі і заплюшчылі на праблему вочы, то няхай яны не думаюць, што праблема тым часам вырашана. Аб гэтым ім будзе напамінаць вялікая смяротнасць насельніцтва, якое жыве ў забруджанай зоне і якому своечасова не будзе аказана медыцынская і іншая дапамога.

Але ж хочацца яшчэ сказаць за ўсіх, што беларус жыў, жыве і будзе жыць, а розныя начальнікі і іх падхалімы, якія так рана здрадзілі інтарэсам народа, будуць пракляты ў вяках.



***Валентина КРАВЦОВА,***
*ученица 11-го класса*
*Старосельской СШ Рогачевского района*

# Игра в "Арам-сим-сим"

Видеть слезы матери всегда тяжело. А особенно восьмилетнему ребенку...

— Мамочка, не плачь. Что случилось?

— Деточки, милые, ой, горе, горе!..

Тогда, конечно, трудно было понять, что такое Чернобыльская АЭС, какое отношение к нам имеет тот пожар. Ведь это так далеко. Правда, настораживали наставления классного руководителя:

— Поменьше гуляйте на солнце. Почаще чистите одежду, обувь, убирайте в доме...

Время шло своим чередом. События, происшедшие в тот апрельский день (а была я тогда во втором классе), понемногу забывались в шумных играх и стычках с друзьями. Только донимала ставшая уже частым явлением кровь из носа. И зрение ухудшилось — уже с третьего класса не снимаю очки. Пошли больницы, обследования. В результате — справка примерно такого содержания: "Два раза в год курсы лечения. Ограничить зрительные и физические нагрузки". И мамино заботливое: "Доченька, поменьше работай в огороде, лучше в доме что-нибудь сделай".

В пятом классе на уроке географии был задан вопрос, не относящийся к теме:

— А что такое озоновая дыра?

После недолгих объяснений последовал новый вопрос:

— А если озоновый слой вообще исчезнет с Земли, что будет?

— Все погибнет. Но и не только от этого.

— А если, к примеру, взорвалась бы водородная бомба или Чернобыльская АЭС полностью сгорела?..

— Не дай, Бог!

...В оздоровительном лагере "Зубренок" утро. Чтобы скоротать время до завтрака, ребята из тринадцатого "Лазурного" играют в "Арам-сим-сим". Игра довольно простая: если в кругу мальчик, то он выбирает девочку, если девочка — наоборот. Ребята становятся спиной друг к другу и на счет "раз, два, три" поворачивают головы в стороны. Если повернули в разные стороны, жмут друг другу руки, если в одну сторону, мальчик целует девочку в щеку.

Красавица Леночка выбрала вожатого из десятого "Лазурного", он тоже играл вместе с нами. "Раз, два, три!" — головы повернулись в разные стороны. Ну, а вожатому и закон не писан: "Ох, Леночка, красавица моя!" — и целует прямо в уста. Леночка краснеет и... из носа яркой бусинкой на блузку скатилась капля крови...

В последнее время в газетах стали прокидаться заметки, будоражащие сознание: "...появилось необычное существо со свиным пятачком, мордой собаки, с шестью лапами, которое по ночам воет по-волчьи..."

Бр-р-р! И попробуй успокой младшего брата, который, в довершение всего, боится спать один в темноте.

Недавно, примерно год назад, мама принесла в дом горькую весть. Произошел пожар на той же АЭС. Но все вроде бы закончилось благополучно. Мама уже не плакала. Устремив в окно взгляд, от которого сердце не на месте, она устало промолвила:

— И когда это все кончится?..

Люди! Жестокие и безумные! Что же вы делаете теперь? Мало вам одного Чернобыля?

Господи, отведи от нас такую напасть!

*Наталья КОЖЕМЯКИНА,*
*ученица 11-го класса*
*СШ N3 г.Светлогорска*

# Я слышу в небе гулкие раскаты...

Слава Богу, наша семья, близкие мне люди не принимали участия в ликвидации аварии. Мы жили, по словам чиновников, в местности с допустимыми дозами радиации. Но может ли радиация быть допустимой? А болезни, внезапно пришедшие в семью? Могут ли они быть допустимыми?

Когда на Чернобыльской атомной электростанции произошла авария, вряд ли кто-нибудь понимал, что случилось и что рядом со словом "Чернобыль" будут стоять слова "катастрофа", "трагедия", "беда", "боль", "слезы"...

Осмысление пришло к нам не сразу. Не сразу мы поняли, что несет эта невидимая, без цвета и запаха, радиация, которая сначала вспыхнула пламенем в далеком ночном небе, а потом растеклась невидимыми ручьям. по наполненной весенними запахами земле.

Осмысление пришло позже, когда авария была ликвидирована и домой к семьям, матерям и женам возвратились ликвидаторы, постаревшие, со страшными болезнями мужья и сыновья; они ушли молодыми, здоровыми, мечтавшими о прекрасной жизни...

Ну ладно бы бесплодный суховей.
Но мы вдохнем, а выдохнут калеки, —
Их ни больницы наши, ни аптеки
Спасти не смогут мудростью своей.

Ощутили мы беду и тогда, когда за колючую проволоку попали десятки и сотни селений и огромная обжитая чело-



Мал. Аліны БАРКУН, г.Мінск

веком территория стала называться "зоной". Земля родная получила название "загрязненной местности". Люди в страхе бросали все, чем жили до этого, и уезжали в неизвестность, с надеждой на лучшее. А где лучше?

В наш Светлогорский район тоже прибыли люди из зоны. Много людей. Они, поверившие в искренность обещаний руководства, надеялись на человеческие условия жизни, на доброту людскую и, наконец, на то, что в конце концов смогут побороть ностальгию по родным пределам. Но не тут-то было. Сырые дома, маленькие сарайчики, отсутствие добротной материальной поддержки и помощи, чиновничья волокита — вот что встретили эти люди.

Мария Филипповна Мирончик, уроженка Брагинского района, говорит: "Хорошие люди живут в Красновке, но для меня тут все не свое, не родное. Лучше уж дома, хоть и на больной земле". И потекли вереницы семей в обратном направлении, в зону, к родным опустевшим деревушкам.

Тысячи людей живут, накрытые этим невидимым покрывалом смерти. И тысячи матерей со слезами на глазах смотрят в глаза своим детям, как бы ежеминутно прося прощения за свою и не свою беду:

Я слышу в небе гулкие раскаты,
Предсказаны чернобыльские даты.
Мы сами губим собственных детей.

И невольно возникают вопросы: как жить? Как запретить ребенку играть во дворе, ходить в лес, купаться в реке, собирать ягоды? Ведь, запрещая все это, мы лишаем их детства, и дети невольно оказываются в положении птиц, запертых в клетке.

Один из самых загрязненных участков в нашем районе — деревня Королева Слобода. А эпицентром чернобыльской "грязи" в ней является территория школьного двора. Ни один дозиметр, имевшийся в распоряжении радиологических служб, не мог точно определить уровень радиационной зараженности: все приборы зашкаливало. Но, несмотря ни на что, ребята продолжали в школе учиться, на переменах бегали по школьному двору, малышня копошилась в песочницах. Да не только учились там раньше. И сегодня учатся. И никого не волнует, какими вырастут эти ребята, какое потомство оставят они после себя.

Лес всегда был для человека лучшим местом отдыха, но теперь на лес наложена печать со словами: "Строго запрещается..." А запрещается самое обычное, что привык делать человек в жизни: ходить на охоту, собирать грибы и ягоды. Теперь это опасно: земля и лес, трава и цветы, птицы и звери — все словно мины, живые и неживые, наполненные радиацией, готовые взорваться в человеческом организме смертельными болезнями:

Уже, казалось, животворные навеки
И луг, и заоконный сад
Плутония таят полураспад,
Уже стволы работают, как шнеки,

И груши, сливы, новые побеги
Угрюмо перекачивают яд.

Прошли годы, и сегодня правительство нашей республики что-то делает, чтобы улучшить положение людей, разработаны льготы для взрослого населения. Однако кто ответит, каковы же будут льготы для тех, кто еще не родился или только что родился? Почему хотя бы детей нельзя оградить от грядущих проблем, забот, почему на их лицах все реже появляются улыбки? Да и какие льготы могут покрыть тот моральный ущерб? Какими мерками можно измерить боль о погибших, боль от расставания с родной, теперь уже мертвой, землей, с могилами предков. Болезни угрожают молодым и здоровым людям, чьи тела и души требуют жизни, счастья, любви.

Хочется верить, что наши "властители и судьи", наконец-то, лицом повернутся к опасности, что вспомнят они о простом человеке, о том, кто не позарился на чужое и не построил на награбленные деньги дачных особняков, кто вынужден изо дня в день думать, как хотя бы немного продлить жизнь своих детей, хотя бы чуть-чуть скрасить их безрадостное детство. Таковы реалии сегодняшнего дня... Не верите — посетите гематологическое отделение Гомельской областной больницы. Вы увидите безучастные ко всему глазенки малышей и поседевших от горя молодых мам, потерявших всякую надежду на спасение своего ребенка. Глядя на это, так и хочется спросить у всех и каждого:

— Люди! До каких пор будет продолжаться это издевательство? Кто ответит за материнское горе, за безвременную гибель детей, нашего генофонда, за уничтожение нации?

Неужели мы никогда не получим ответа на этот и другие вопросы?!

*Александр ЕРОФЕЕВ,*
*ученик 11-го класса*
*СШ N19 г.Гомеля*



# Пусть атом-убийца не думает, что победил

Я никогда не забуду той черной, наводящей первобытный, животный страх тучи. Она появилась в солнечный светлый день, и этот контраст подсказывал: пришла беда. Так в мою жизнь ворвался Чернобыль.

Прошло восемь лет, и во многих беларусских домах уже побывала чернобыльская смерть. Но как не хочется думать о безысходности, когда тебе только шестнадцать.

Пусть атом-убийца не думает, что он уже победил. Человек, пока жив, будет надеяться на лучшее.

Выезжая на оздоровление, мы видели другую жизнь, где не было страха облучения, и наш страх тоже уходил. Ребята наслаждались морем, солнцем, фруктами, радовались новым знакомствам. За эти годы, наверное, у каждого гомельского школьника появилась своя география поездок на отдых. Есть она и у меня: Павлоград, Калининград, Ялта, Черкассы, Москва, Туапсе, Алушта, Мисхор, Анапа, Одесса. Но особое место занимает поездка на футбольный фестиваль в шотландский город Абердин.

Началась она не совсем удачно: в Германии сломался автобус, на котором мы ехали, и после его ремонта команда должна была, скорее всего, вернуться в Гомель. Какова же была наша радость, когда хозяева турнира прислали свой транспорт, чтобы мы могли попасть вовремя на открытие соревнований.

Сказка продолжалась... Впереди нас ждали Бельгия, паром через Ла-Манш и поездка через всю Англию в Шотландию. Но это было не все. Такого приема, какой нам устроили, никто не ожидал. Нас поселили в небольшие уютные комнатки, отлично кормили, подарили много сувениров, связанных с этим городом и фестивалем.

Неизгладимое впечатление оставил банкет в одном из лучших ресторанов города. Везде было непривычно чисто, уютно, играла музыка, на стенах висели флаги стран — участниц соревнований: шведский, мексиканский, американский, норвежский, английский и среди них — родной, беларусский. И это было особенно приятно. Нам подали много удивительных и аппетитных блюд, некоторые из них мы пробовали первый раз. Нас обслуживали как самых дорогих гостей. И от сознания нашей значимости радость переполняла душу, сердце рвалось из груди.

Кроме этого, была организована обширная культурная программа: нас возили в старинные замки, поместья королей, курортные города. И везде, где бы мы ни были, — уважение к нам и радушие. Все это как бы обязывало и нас, и мы стали более культурно себя вести, больше общаться с местными жителями, на наших лицах всегда были непринужденные улыбки. Мы забывали о беде, которая нас постигла, отказывались от мысли о своей неполноценности. Нам хотелось, чтобы и у нас в Гомеле были такие же аккуратные газоны, чистота на тротуарах, приветливые прохожие, вежливые пассажиры в транспорте. Я понял, что для достижения этого надо начать с самого себя. Если каждый увидит, как можно жить, и решит, что это зависит от каждо-

го в отдельности, у нас тоже будет так же красиво и хорошо, как в городе Абердине, побратиме нашего Гомеля.

Ничего не поделаешь, чернобыльская трагедия уже произошла, и теперь надо сделать все возможное, чтобы она не повторилась.

В этом году я заканчиваю школу и буду продолжать образование в университете транспорта. Надеюсь, я получу знания, как сделать нашу жизнь достойной уважения, приложу свои усилия к тому.

В будущем я сам хотел бы оказывать гуманитарную помощь людям, попавшим в беду, а не только получать ее.



*Светлана ПТАШИНСКАЯ,*
*ученица 9-го класса*
*СШ N5 г.Светлогорска*

# Мы видели самого Папу Римского

Радиация не оставляет в покое ни взрослых, ни детей. Очень многие страдают лучевой болезнью, жители некоторых районов Беларуси и Украины переселены. Люди оставляют все, что нажили за многие годы. Это ли не трагедия?!

Но правду говорят: "Не было бы счастья, да несчастье помогло". Такое счастье выпало мне лично и моим подругам по танцевальному кружку. Однажды нам сообщили, что весь наш коллектив поедет в Италию. Конечно, мы очень волновались: ехали в чужую страну, не зная ни языка, ни культуры, ни как нас там примут. Но все переживания были напрасны. Как только мы приехали в Рим, нас посадили в автобус, раздали вкусные пайки и всю дорогу занимали нас рассказами, показывали мультфильмы.

И вот мы приехали в город, где должны жить. Он называется Альба Адриатика и находится в центре Италии. Это очень красивый город, расположенный на берегу Средиземного моря. В нем много гостиниц для туристов, великолепные пляжи и главное — очень добрый народ.

Нас распределили по семьям. Сначала было скучно, вокруг все чужое. Но по мере того, как жила там, я все больше и больше привязывалась к итальянской семье. Хозяева внимательно относились ко мне: покупали одежду, кормили разными фруктами, везде возили, показывали город.

Кроме этого, нас обследовал врач и прописал лекарства, необходимые для лечения. Нам устраивали встречи, концерты, экскурсии, возили и в Рим. Это было незабываемо. Такого не описать — это надо увидеть. Были мы и в соборе Св.Петра, видели самого Папу Римского, правда, из машины. Посетили также Колизей, известный еще со времен античности. А рядом — фонтан. Говорят, если бросить в него монетку, то обязательно снова приедешь сюда. И мы все бросили туда монеты — нам очень хотелось сюда вернуться.

Но не только нам все показывали, а и мы дали несколько концертов. Нашим друзьям очень понравилось выступление, и они дважды снимали нас, а затем показывали по телевизору.

Мы часто ходили гулять по городу или на море, которое было метрах в тридцати от дома. Так незаметно пролетел месяц. И вот наступила пора возвращаться домой. Сколько было пролито слез во время расставания! Плакали не только мы, но и наши новые друзья. Ведь они так хотели, чтобы мы уехали здоровыми. Они очень привязались к нам!

За месяц пребывания в Италии я стала больше понимать этих людей и ценить доброту, благородство их горячих сердец.

В семье, где я жила, трое детей, недалеко живут бабушка с дедушкой. И всех нужно накормить, одеть, детям дать образование. Правда, сын и старшая дочь уже взрослые. Казалось бы, тут и речи не должно быть о том, чтобы взять на месяц чужого ребенка. Но они взяли на себя эти заботы, потому что близко к сердцу приняли нашу беду — аварию на Чернобыльской АЭС.

Я узнала, что итальянцы очень любят детей. С раннего возраста дети окружены лаской и заботой родителей, у них целые комнаты игрушек. Но несмотря на любовь, родители, особенно отцы, бывают строги к своим чадам.

Второе их "хобби" — это пища. Все итальянцы любят вкусно поесть. Например, мне почти каждый день давали в

обед макароны-спагетти, и каждый раз разной формы: то спиральные, то кольцами, то как лапша. Вообще они первое почти не едят, лишь иногда по вечерам. А их национальное блюдо — пицца.

Итальянцы любят петь. Им очень нравятся наши песни "Катюша" и "Казачок". Часто пели мы их все вместе вечерами. И тогда я забывала, что нахожусь в Италии, что здесь — не Родина.

Итальянский язык очень красивый. Он легко запоминается, и я, прожив всего месяц, пообщавшись, разговаривала почти без словаря. Мы прекрасно понимали друг друга, когда они звонили мне после моего возвращения домой. Каждый звонок [redacted] ждала с нетерпением. И за эти несколько минут телефонного разговора переносилась к ним, услышав знакомый и ставший таким дорогим мне голос хозяина, хозяйки или Нади.

И вот через год неожиданная весть: я снова еду в Италию. Целый день ходила, не веря этому. Итальянские друзья не забыли и о моем дне рождения. Их поздравление было очень теплым. До отъезда оставалось месяца два, но я не могла дождаться, считала каждый день.

Наконец, я поехала. Трудно понять мое счастье человеку, который этого не испытал. Какая радость — поехать в уже знакомый и дорогой для тебя город, [redacted] ставшим уже родными людям. Мы приехали в половине первого ночи, но меня встречали все, даже Надя. Столько было рассказов, впечатлений, восторга. На следующий день мы пошли на море, потом гуляли по городу. Я прекрасно провела там время. Я могла пойти гулять одна, потому что уже хорошо знала город, были знакомые улицы и переулки, были друзья. Но пришло время уезжать. Как трудно прощаться! И опять оставалась надежда вернуться туда.

Каждый день я жду, что раздастся звонок по телефону и я снова услышу знакомые, дорогие сердцу голоса из солнечной страны.

*Дзяніс РАФЕЕНКА,*
*вучань 8-га класа*
*СШ N4 г.Маладзечна*

# Дзве бяды, адно жыццё

Беларускі народ пакутуе цяпер больш за іншых. Павялічылася смяротнасць насельніцтва, многія людзі цяжка хварэюць. Прывяду сумны прыклад з жыцця маёй сям'і. Праз год пасля чарнобыльскай аварыі раптоўна памерлі адзін за другім мае дзядуля і бабуля. Гэта было вялікім горам для мяне і маёй маці. Я вельмі любіў іх. Дзядуля і бабуля гадавалі мяне з таго моманту, калі мне споўніўся год, і да самай школы. Больш за трыццаць гадоў яны працавалі настаўнікамі ў Мядзельскім раёне. З самага ранняга дзяцінства прывілі мне любоў да кніг, павагу да людзей, любоў да роднага краю. Асабліва шмат вольнага часу бавіў са мною дзядуля: чытаў казкі, майстраваў цацкі, вадзіў у лес і поле, дзе мы захапляліся прыгажосцю беларускай прыроды. Дзядуля расказваў мне пра сваё дзяцінства, як ён у трынаццацігадовым узросце трапіў у 1941 годзе адзін з Маладзечанскай вобласці ў піянерскі лагер "Артэк". У хуткім часе пачалася Вялікая Айчынная вайна. Не змог вярнуцца дзядуля ў акупіраваную фашысцкімі захопнікамі Беларусь. Ён пабываў з артэкаўцамі і іхняй важатай і пад Масквой, і ў Сталінградзе, і ў Алтайскім краі.

У гэты час без вестак прапаў на вайне дзядулеў бацька, а яго старэйшы брат Павел загінуў на фронце дзевятнаццацігадовым юнаком. Маці майго дзядулі выплакала вочы па сваім мужу і двух сынах, пра лёс якіх не ведала ўсю вайну. І якой жа радасцю было для яе вяртанне малодшага сына з "Артэка"!



*Мал. Тані КУХТО, г. Мінск*

Дзядуля расказваў мне, як ужо ў сталым узросце сустракаліся артэкаўцы ваенных гадоў у Мінску, Маскве, Таліне, у Белакурысе Алтайскага краю і ў самім "Артэку".

Дзядуля памёр раптоўна. А праз пяцьдзесят дзён памерла бабуля. Ім не было і шасцідзесяці гадоў.

Мы перакананы, што чарнобыльская аварыя і радыяцыя паскорылі смерць дарагіх нам людзей. Калі б не было Чарнобыля, не было б і гэтай бяды ў нашай сям'і. І не толькі ў нашай.

Чарнобыль у лёсе маёй Радзімы — гэта Чарнобыль у маім лёсе. Калі беларускі народ пераадолее ўсе чарнобыльскія цяжкасці, ён стане на шлях адраджэння.

Я веру ў светлую будучыню нашай рэспублікі.

*Наталля КАСЯК,*
*вучаніца 10-га класа Карпавіцкай СШ Вілейскага раёна*

# Мы радаваліся вясноваму дожджыку...

Быў час, калі пра Чарнобыль мала хто ведаў. Цяпер мы ўспамінаем пра атамную трагедыю кожны дзень з болем у сэрцы.

Красавік 86-га... Якраз у гэты час наша сям'я пераязджала з хутара Беражок у вёску Карпавічы. Я больш за ўсіх радавалася пераезду, бо там, дзе мы жылі раней, у мяне не было сяброў, і гэта перамена прываблівала. Я марыла і чакала, што жыццё цяпер будзе шчаслівейшым і цікавейшым. Памятаю таксама ўстрывожаны мамін твар. Яна гучна размаўляла з суседкай пра нейкую "радыяцыю". Потым супакойвала сябе тым, што мы далёка ад Чарнобыля. Для нас, малых (я збіралася тады ў другі клас), гэта было незразумела, ды і цяпер далёка не ўсе сур'ёзна ўспрымаюць небяспеку Чарнобыля.

А мы радаваліся цёпламу надвор'ю, вясноваму дожджыку, пасля якога пануе такі цудоўны водар свежасці і бадзёрасці. Нам так падабалася гойсаць па лужынах, весела смяяцца, калі кроплі ахіналі цябе мяккім вільготным веерам, пералічваць колеры вясёлкі. Мы зусім не ведалі, што адбываецца ў дарослым жыцці. Потым з'явіліся людзі з дазіметрамі /мы любілі сачыць за іх работай/. У вёсцы сталі асфальтаваць дарогі, засыпаць смецце грунтам, вывозіць зямлю са школьнай тэрыторыі. Было радасна, што ў магазін пачалі завозіць разнастайныя прадукты харчавання. Цяпер мы гэтаму не надаём асаблівай увагі, бо ведаем, што радыяцыі не паменее. Ды ўжо і прадуктаў "спецыяльных" даўно не завозяць.

У Карпавічах амаль няма здаровых дзяцей. Кажуць, што цяпер нашу вёску зрабілі "чыстай", хаця сем год яна была на карце як радыеактыўная. Лягчэй ад гэтага не стала, а, наадварот, крыўдна. У большасці людзей павялічана шчытападобная залоза. "Антыструмін" і іншыя медпрэпараты мала дапамаглі. А колькі дзяцей з малакроўем! Дактары гавораць, што пад уплывам радыяцыі арганізм страчвае імунітэт. Вось і мая сястрычка Алёнка часта хварэе. Вельмі дапамагаюць нам паездкі на аздараўленне ў Ялту, у Сочы, у санаторый "Саюз", што за Радашковічамі ў Беларусі. Адчуваеш сябе бадзёрым, лёгкім, не баліць галава, няма ламоты ў целе, не хварэеш часта. З'яўляецца шмат новых сяброў. А колькі цікавых сустрэч! Уражваюць краявіды, гістарычныя мясціны. Душа багацее!

За мяжой мне пабываць не давялося. Хацелася б, але ведаю, што ёсць дзеці больш хворыя, чым я. Здзіўляюць іншы раз незразумелыя адносіны да дзяцей настаўнікаў. За мяжу — нельга, у санаторый — у апошнюю чаргу. Хаця гэтыя дзеці ў школе нясуць значна большую нагрузку, ды і здароўе не пытае сваяцтва. Таму мы вельмі рады і ўдзячны за кароткія хвіліны шчасця, што сустракаюцца ў жыцці, бо яны ўмацоўваюць душу.

Цяпер я перастала ездзіць да дзядулі на Палессе. Бацькі гавораць, што нам хопіць і сваёй радыяцыі. А як цудоўна было там! Колькі клубніц! А зараз... Мясціны пусцеюць, людзі пакідаюць свае гнёзды.

Вельмі непрыемна было, калі нас у Сочы называлі "чарнобыльскімі вожыкамі", цураліся. А ў нас жа фон значна ніжэйшы, чым, напрыклад, на Гомельшчыне. А як жыць перасяленцам? І мы, і яны невінаватыя ў тым, што здарылася. Чарнобыль стукае ў нашы сэрцы кожны дзень. Хто б змог павярнуць гадзіннікавую стрэлку ў той час, калі мы пераязджалі ў Карпавічы яшчэ да 26 красавіка? Дзе той добры чараўнік? Чаму ён не спяшаецца на дапамогу?..

Мы не губляем надзеі. Мы будзем жыць, бо ў нас ёсць запас трываласці, мы — беларусы!

*Аксана КУРЭЦ,*
*вучаніца 11-га класа*
*Карпавіцкай СШ Вілейскага раёна*

# Чарнобыльская аскома

Над полем узнялася рознакаляровая вясёлка, сонейка шчодра мые цёплым вясновым дожджыкам свае промні, а невялікі хлопчык, бегаючы басанож па цёплай зямлі і ўзнімаючы над галавой рукі, як бы ловячы крыштальныя кроплі дажджу, прыпявае: "Дожджык, дожджык, сыпані, я паеду на кані!". Амаль у той жа момант голас яго задрыжаў, захліпнуўся плачам. Наваколле пацямнела — на сонца чорным крылом насунулася хмара. Толькі бляклай плямай свяціўся твар хлопчыка. Сам ён неяк увачавідкі звяў, пачаў падаць. "Што з табою?" — паспела крыкнуць я і прачнулася. "Ой, які жудасны сон!"

Праз незавешанае акно ў спальню прабівалася святло. Панавала нейкая асабліва трывожная цішыня. Закідаўся неспакойна, застагнаў ува сне брат Руслан. Падышла, папраўліла на ім коўдру. Адганяючы цяжкі сон, прысела ля акна. Неба, усыпанае мірыядамі зорак, набыло злавесна чорны колер. Млечны шлях праразала яркая стужка. "Зорка ўпала, — падумалася. — Нехта памёр у гэтую хвіліну..." Зоркі навялі мяне, перасяленку, на роздум...

Безабароннымі робяцца людзі. Асабліва — дзеці. Не ўяўляюць яны сабе небяспечнага ворага пад назвай "радыяцыя", і пра гэта ўжо некаторыя песні:

...Хлопчык бегаў шчаслівы,
Ён дажджынкі збіраў,
Срэбра кропляў маўклівых
На далонях трымаў.



*Мал. Сашы ВАСІЛЕВІЧ, г. Мінск*

І за хмараю сіняй
Хлопцу мроіўся май.
Мама клікала сына:
"Пад дажджом не гуляй!".

Нешта замармытаў праз сон Руслан. Падхапіўся, сеў на ложку. Вочы заплюшчаны. Неўзабаве ён зноў апусціўся на падушку. Спіць. У апошні час сон яго вельмі трывожны. Ён у сёмым класе, але яму з аднакласнікамі не ўдалося выехаць на адпачынак. Пуцёўкі перакінулі ў іншае месца. Хлопчык стаў нервовы, часта хварэе...

Стала балюча за блізкіх, за аднакласнікаў, за сябе. Малакроўе, павышаная стамляльнасць, прыгнечаны настрой, частыя хваробы.

Глядзяць дзеці праз шыбы вокан удалячынь з надзеяй, што ў хуткім часе да іх прыйдзе добрая фея і падаруе радасныя дні і светлую будучыню. Але ж спазняецца добрая фея. А смерць няўмольная...

Пабудзеш у санаторыі і адразу адчуеш прыліў сіл, становішся бадзёрым, свежым. З'яўляецца жаданне жыць і рабіць добрае.

Усё менш і менш бачыш людзей з дазіметрамі, часцей сустракаеш грыбнікоў і ягаднікаў. Вядома, нельга ўжываць забруджаныя прадукты. І дарослыя гэта разумеюць. А як засцерагчы малых дзяцей? Як утрымаць ад сустрэчы з бядой? Яны ж дзеці. Не паспееш азірнуцца, як ужо частуюцца ў агародзе чырвонымі клубніцамі альбо салодкім яблыкам, які пад уплывам радыяцыі вырас такім вялікім. А што далей?

...Адвучыўся смяяцца.
"Мама, толькі не плач!.."
Ад цяжкой радыяцыі
Лечыць хлопчыка ўрач.

Дачакацца б хвілінкі
Маме, людзям усім,
Як зайграюць крывінкі
Ў гэтым целе малым!..

...На вуліцы зарыпелі колы — жывёлаводы спяшаюцца на ферму. Людзям трэба жыць, і яны жывуць па раней заведзеным раскладзе. А тое, што я думаю і як мне думаецца, можна назваць чарнобыльскай аскомай, па вызначэнні паэткі В.Аколавай, "Чарнобыльская аскома — на гады!".

На небасхіле чырванаватым святлом заміргала новая зорка. Зорка Надзеі... Няхай свеціць яна ўсім і заўсёды...

*Таццяна КАЖУРА,*
*вучаніца 10-га класа*
*Карпавіцкай СШ Вілейскага раёна*

# У чаканні шчасця

Чарнобыль... Быль, быль, быль...
Чарнобыль... Боль, боль, боль...
Збавенне дзе? Дзе? Дзе?..
А ў сэрцы золь... Золь, золь...

Гэта радкі маёй настаўніцы.

Так ужо было наканавана лёсам, што маю вёску і яе жыхароў не абмінула гэтая ліхая навала...

У санаторыі "Горны" Ялцінскага раёна (першая аздараўленчая паездка) у маім целе, у арганізмах сяброў прыборы выявілі вялікую колькасць радыеактыўных элементаў. Нам яшчэ па 15 гадоў, нам яшчэ жыць ды жыць. А цяпер вось думай-гадай, ці будзем мы радаснымі і шчаслівымі, ці, наадварот, яшчэ больш станем нікнуць, як вясновыя кветкі, якім не хапае вільгаці альбо яркага сонечнага святла. Было ў нас некалькі аздараўленчых паездак у Ялту, у Сочы. Вынікі медагляду паказвалі, што нашы дзеці вельмі хворыя. Так гаварылі ўрачы. Школа і дзяржава стараліся для нас зрабіць, што маглі.

Чарнобыль... Чорны пыл... Чорнае гора... Ды маё гора ў параўнанні з тым, якое я пабачыла нядаўна, зусім згладжваецца.

Узімку 1994 года наша школа атрымала пуцёўкі на аздараўленне ў санаторый "Саюз", непадалёк ад Мінска. Паехала і я.

У калідоры першага паверха мне кінулася ў вочы жанчына гадоў 25—28. Твар хударлявы, прыгожы. І... нейкая ста-

рэчая стомленасць. Я не магла адвесці вачэй. Жанчына азірнулася — мне стала няёмка. Я кінулася ў свой пакой, каб уладкаваць рэчы. Але жанчына ў вялікіх акулярах, як бы рассяваючы вакол сябе промні трывогі, стаяла перад вачыма.

Раніцай мы пайшлі ў сталовую, і ў чаканні яе адкрыцця я, прыхіліўшыся да калоны, назірала за малодшымі дзецьмі, якія вылівалі сваю энергію ў ляманце, беганіне і віску. Я адшукала позіркам свайго малодшага брата Юрку, кіўнула яму. І раптам заўважыла ўжо знаёмую жанчыну.

Яна ішла не адна: за адну яе руку ўчапілася чатырохгадовая дзяўчынка, а на другой яна несла хлопчыка. Ён быў старэйшы за сястрычку, і гэта мяне вельмі здзівіла. Чаму маці нясе яго? Жанчына акуратна пасадзіла хлопчыка на выступ у сцяне і стала лагодна з ім размаўляць. Я зразумела: хлопчык не мог хадзіць. Яго тонкія ножкі былі нерухомыя, віселі, як штосьці непатрэбнае. Маці час ад часу пазірала на свавольствы дзяцей, і яе вочы напаўняліся слязамі. Выхавацелі, як бы адчуўшы гэта, сталі супакойваць дзяцей. А жанчына думала пра сваё дзіця, якое не зведала дзіцячых радасцей, нарадзіўшыся ў страшны час.

Нашы сустрэчы сталі частымі: то ў сталоўцы, то на працэдурах, то ля тэлевізара. Я бачыла пакутлівы твар мацеры і змучаны тварык хлопчыка, на якім ніколі не было дзіцячай усмешкі. Неўзабаве даведалася, што гэта не хлопчык, а дзяўчынка. Гэта ж хвароба так змяніла абрысы твару.

Яе звалі Воляй, але мама (Вольга Андрэеўна) звала яе Волечка-зайка. Усімі сіламі мацярынскага сэрца жанчына падтрымлівала дачку. Як стараліся яна і ўрачы ўдыхнуць хоць кропельку надзеі ў гэтыя кволенькія ножкі! Дзяўчынка не вытрымлівала, плакала. А маці трымалася. Як і мая маці. Мне фізічнай дапамогі не трэба. Але я заўсёды чую пяшчотны мамін голас, адчуваю мяккія рукі, ласкавы пацалунак.

Мы нічым не маглі дапамагчы жанчыне, толькі спачуваннем. Яна была ўдзячна нам і за гэта, бо з кім ёй яшчэ па-

дзяліцца горам, каму паскардзіцца. Кажуць, такіх шмат. А вырасце дачка, спытае: "Хто вінаваты?". Што адкажаш? Як складзецца лёс Волі?

Цяпер я дома, але часта ўспамінаю Волю і яе маму. Як жывуць гэтыя перасяленцы з Нароўлі? Пакуль мы адпачывалі, нашу вёску зрабілі ўмоўна "чыстай". І здаецца, больш пуцёвак для аздараўлення не будзе. Крыўдна.

Так, у нас фон значна ніжэйшы, чым у зоне, але ж нас таксама вельмі непакоіць здароўе. Я вельмі часта стала думаць пра смерць... І ўсё гэта — Чарнобыль...

О, людзі, як мне балюча!
Прыдбаць бы вады гаючай,
Каб улагодзіць такую падзею...
Шчэ льецца з крыніцы надзея.



*Мал. Алены ЧАКАТОЎСКАЙ, г. Мінск*

*Ірына БУРТЫС,*
*вучаніца 9-га класа*
*Вілейскай гімназіі*

# Боль, які спальвае сэрцы

Сёння незвычайны дзень — дзень нараджэння маёй матулі. Пасля святочнага абеду будзем піць чай з тортам, які ўчора вечарам прыгатавала мама, упрыгожыўшы яго крэмавымі ружамі.

Пасля абеду ўзняўся моцны вецер. Пад яго парывамі нізка згіналіся высокія дрэвы. Нечакана пайшоў дождж, той самы, які нёс бяду.

Толькі праз тыдзень мы даведаліся пра выбух на Чарнобыльскай АЭС, пра гэту трагедыю на роднай зямлі.

У дзіцячым садзе мы больш не хадзілі на прагулкі. Калі я трапляла пад дождж, мама адразу мыла мяне і маё адзенне. Не дазвалялася дакранацца да пяску, дома не адчыняліся форткі. Людзі баяліся есці мяса, агародніну, піць малако.

Колькі гадоў дарослыя займаліся грамадзянскай абаронай, ды што: смяшылі людзей насілкамі, процівагазамі, будавалі бамбасховішчы, плацілі заработную плату штатным супрацоўнікам, расходавалі вялікія грошы для гэтага, а ў час трагедыі нідзе не аказалася нічога неабходнага, каб дапамагчы людзям.

У чэрвені мы з мамай паехалі ў Сочы на адпачынак. Жылі на прыватнай кватэры. Але ад радыяцыі нікуды не збяжыш — трэба ўсё роўна вяртацца дадому.

Увосень усіх працаўнікоў заводаў паслалі ў калгасы ўбіраць радыеактыўны ўраджай. Людзі адмаўляліся. Тады выступіў прадстаўнік гаркама партыі і сказаў, што гэта не пашкодзіць іх здароўю. А хто адмаўляўся, таму пагражалі

звальненнем з работы. Маладых дзяўчат і хлопцаў паслалі ў вёску Наваельня Краснапольскага раёна, у адзін з самых забруджаных радыяцыяй куткоў Магілёўскай вобласці. Чысцілі свірны, калгасны двор для будучага ўраджаю. Калгаснікі не хацелі рабіць гэта.

Мінула восем год з таго страшнага дня, а радыяцыі не паменела, наадварот, яна распаўсюджваецца на ўсёй тэрыторыі Беларусі з падземнымі водамі, прадуктамі харчавання, безадказнай дзейнасцю людзей.

У красавіку 1987 года маці вымушана была выклікаць "хуткую дапамогу", бо ў мяне не пераставала ісці носам кроў. Мяне завезлі ў Магілёўскую абласную бальніцу, дзе паставілі дыягназ: востры гаймарыт і хранічны танзіліт.

У 1988 годзе з'явілася магчымасць абмяняць нашу кватэру на кватэру ў горадзе Вілейцы, дзе нарадзіліся я і мая мама. Ды Вілейка — не самы чысты раён Беларусі.

У кастрычніку 1993 года я ляжала ў Вілейскай дзіцячай бальніцы з дыягназам: гастрыт з паніжанай кіслотнасцю, другі раз — у час зімовых канікулаў у студзені 1994 года — у Мінскай абласной бальніцы. Боль не сціхаў. Пасля лячэння быў пастаўлены дыягназ: эзафагіт, функцыянальнае захворванне страўніка, гіперплазія шчытападобнай залозы І-й ступені, павышаны артэрыяльны ціск.

Болі працягваліся. Тады мне прапанавалі з'ездзіць у санаторый "Беларусь", што ў Друскінінкаі. Там дактары забаранілі піць малако, бо ў крыві знайшлі шмат цукру. У санаторыі ў час лячэбнай фізкультуры зламала палец на левай руцэ. Амаль увесь час знаходжання ў санаторыі рука была ў гіпсе. На працягу трох гадоў у мяне павялічаны лімфатычныя вузлы на шыі.

Я вучуся ў фізіка-матэматычным класе ў гімназіі. З-за хваробы прапусціла шмат урокаў. Вельмі перажываю за вучобу, бо трэба здаваць экзамены.

Чарнобыльская трагедыя — трагедыя ўсёй нашай планеты, боль, які спальвае сэрца.

*Виктория ЛУГОВСКАЯ,*
*ученица 10-го класса*
*СШ N7 г.Слуцка*



# Ты мне, зеркальце, скажи...

*За шлагбаум текут облака!*
*Век двадцатый —*
*тупик человечества?*

*Игорь ШКЛЯРЕВСКИЙ*

Как давно это было, а я до сих пор помню тот день. Стоял конец апреля, было жарко, зеленела трава, дул суховатый ветерок. Это был обычный весенний день, и невозможно было представить, что где-то рядом с тобой уже парят в воздухе смертоносные частички, убивающие и отравляющие все живое. Я играла с друзьями на улице. В траве возле дома нашла маленькое круглое зеркальце — это была такая радость для восьмилетней девочки! А потом бабушка позвала меня есть пирожки с капустой, которые она только что испекла... Моей бабушки уже нет, а зеркальце я до сих пор ношу в сумочке, поправляю, глядя в него, прическу.

Солнце, яркая зелень травы, добрая, улыбающаяся бабушка, пирожки с капустой — все кануло в небытие, растворилось в прошлом, перечеркнуто только одним страшным словом "Чернобыль". Впервые я поняла, что Чернобыль — это действительно страшно, когда наша соседка, приехавшая с похорон племянницы, стараясь удержаться

от слез, рассказывала о том, как маленькая дочка ее сестры умирала в больнице от лейкемии. Разве знала эта девочка, что ее ждет смерть, разве думала она, что умрет, так и не познав мук и радостей первой любви, счастья быть матерью, счастья жить? Разве догадывалась она о том, что умирает?

— Мама, купи мне куклу, как у Верки! — просила она.

И мама, за время болезни единственного ребенка постаревшая сразу на несколько лет, отдававшая последние деньги на дорогие лекарства, при других обстоятельствах, наверное, сказала бы: "Дорого, дочка, покупать такую куклу, как у Верки!" — купила своей любимице куклу, втайне надеясь, что эта игрушка, так страстно желаемая, поможет ребенку выздороветь... Девочка, прижимая к себе маленькими ручонками куклу, так и умерла.

Моя мама долго утешала эту женщину, тетушку умершей, поила ее валерьянкой, просила меня уйти в другую комнату.

В тот день я поняла, что Чернобыль — это всеобъемлющая радиация, это — лейкемия и рак, от которых умирают дети. Они как прокаженные. В чем их вина и сколько их, таких детей? Моя знакомая, проходившая практику в Минске, в печально известных (нахождением там онкологического института) Боровлянах, рассказывала: "Дети бегают по больнице, как гуманоиды, — без волос, без ресниц, только глаза на лице. А был мальчик один, так тот вообще кожа да кости, серый весь. Я сначала шарахалась от него, а потом привыкла". Привыкла... А что же будет, если мы все к этому привыкнем? Если привыкнем к тому, что из-за чьей-то халатности взрываются атомные станции, загрязняются моря, реки, атмосфера, умирают люди?

17-й век — убито 3 миллиона и 300 тысяч.

18-й — убито 5 миллионов и 200 тысяч.

19-й — убито 5 миллионов 500...

20-й век — более сорока миллионов!

Только в одной Европе.

Поэт, уроженец Могилева Игорь Шкляревский, которому принадлежат эти строки, не знал еще (поэма "Слово о мире" была написана в 1984 году), сколько погубленных людских жизней добавит к этой страшной цифре — 40 миллионов — черная чернобыльская трагедия.

Столько-то человек умерло от раковых заболеваний, столько-то — от лейкемии... А что за этими сухими статистическими данными? Тысячи, миллионы несчастных, разбитых, искалеченных судеб. Когда нам в школе на уроке физики рассказывали о последствиях взрыва на ЧАЭС, я под впечатлением рассказа учительницы рисовала в тетрадке и восьминогих жеребят, и лисиц с двумя хвостами, и помидоры огромных размеров... Наверное, для меня тогда это было все-таки чем-то из области фантастики. Но вот совсем недавно, перелистывая старые "Огоньки", я вдруг замерла. Что это? На снимке — огромные страдальческие глаза на исхудавшем, бледном личике. Это фотография маленькой Ли с острова Кюсю, мать которой умерла от лучевой болезни. Ли родилась слепой, без рук... И теперь мне страшно: вдруг придется увидеть нечто подобное наяву. Неужели когда-нибудь со страниц журнала взглянут на меня такие же потусторонние, молящие глаза самой моей Беларуси?

Но еще страшней то, что кто-то сумел нажиться на чужом горе. Кто-то продавал помидоры из радиационной зоны на базаре, кто-то предлагал купить у него ведро неестественно красивых, наливных, крупных яблок. Люди бежали, спасались, оставляя свои дома вместе с нажитым добром, а кто-то подъезжал на грузовой машине, заходил в эти дома, грузил мебель, ковры, хрустальные вазы и потом все это продавал. Чернобыльский торг продолжается... В чем же причина подобной безнравственности и бездуховности? Ведь не голод, не нужда толкают этих людей на преступный путь!

"Совесть народа должна быть чистой!" Этот призыв поэта Вознесенского обращен и к нам. Совесть моего народа осталась незапятнанной даже в страшные дни войны, которая тогда востребовала и обножила как высочайшее чувство самопожертвования, так и бескорыстный стоицизм. Откуда же сейчас берутся эти нувориши, наживающиеся на чужом горе? Разве можно назвать этих паразитов людьми?

"Быть человеком — это чувствовать свою ответственность", — сказал когда-то французский писатель Сент-Экзюпери. И это действительно так. Безответственность и слабость людей перед лицом опасности несут бедствия, катастрофы, гибель всему человечеству. Пока не поздно, остановитесь те, кто действует по принципу тургеневского Базарова: "Природа не храм, а мастерская, и человек в ней работник". Сколько лет наш человек был вот таким "работником"? Вспомните, что сказал известный польский сатирик Станислав Ежи Лец: "Все в руках человечества, поэтому их следует чаще мыть".

Чернобыль... Реальность и мое воображение. Все слилось... Черное поле с обуглившимися колосьями, мрачное небо, застланное свинцовыми тучами, одиноко кружащее воронье, прорезающее тишину пронзительным криком. Чернобыль... Как давно это было... Давно ли? К сожалению, трагедия Чернобыля продолжается. Об этом мне все время напоминает маленькое круглое зеркальце, которое я нашла в тот страшный день 26 апреля 1986 года...



*Таццяна АКУЦЫЁНАК,*
*вучаніца 4-га класа*
*Радашковіцкай СШ*



# Няўжо гэта ўсё навек?

Родны дом, родная вёска, родны горад, Радзіма. Калі ў нашай душы пачало ўзнікаць замілаванне да ўсяго гэтага? Мабыць, з маленства, калі ў сэрца западуць нейкія вобразы, гукі, словы і нават пахі. І гэтыя ўспаміны цепляць, падтрымліваюць у цяжкую хвіліну. Дзе б ты ні быў, дзе б ні жыў, а ўспаміны пра дзіцячыя гады не пакідаюць чалавека нават у сне. Сняцца грыбныя паходы і пад дрэвамі баравікі: падразаеш іх і акуратна кладзеш у кош...

Калі цяпер ідзеш у свой родны лес — хочацца і не хочацца, таму што гэты лес ужо крануў цень Чарнобыля.

Чарнобыль — нібыта навала,
Што нашу старонку апанавала.
На радыяцыйнай карце
Бачу загублены лес.
Карта,
Як сшытак на парце,—
У чорных кляксах увесь.
Бачу сумныя рэкі,
Вёсачкі і гарады...
Няўжо гэта ўсё навекі?
І нам чакаць большай бяды?

Бяда заўсёды разам з намі. І сапраўды: адбылося штосьці жудаснае. І адбылося гэта з намі неяк неўпрыкметку, быццам і не з намі, а з нежывымі людзьмі. Нічога больш жахлівага за радыяцыю наўрад ці хто-небудзь вынайдзе.

Жах бярэ, калі пачынаеш думаць, што зямля, па якой ходзіш, паветра, якім дыхаеш, усё, што складае біясферу ў нашым краі, — з чарнобыльскай меткай. Кожны жыхар — жывая мішэнь для радыяцыі. Жыццё ў забруджанай зоне страціла ўвесь сэнс. Гэтыя зоны непрыгодныя для сельскай гаспадаркі. Іх чакае залясенне. На такіх землях нельга атрымаць чыстую прадукцыю. А калі няма чыстых кармоў, адкуль жа быць чыстаму малаку! Вось так адно чапляецца за другое. У калгасах гэтай зоны ніякіх перспектыў для развіцця няма, таму што ўсё перакрэслена радыяцыяй. Устаноўлена прамая сувязь радыяцыі з лейкеміяй, ракам шчытападобнай залозы, лёгкіх. Гэта пацвердзіла небяспечнасць пражывання чалавека на такіх тэрыторыях. Даследы з пацукамі дапамаглі выявіць факт разносу радыеактыўнага забруджвання па ўсёй тэрыторыі Беларусі, у першую чаргу з прадуктамі харчавання. Але жыхары рэспублікі, што вырабляюць на сваіх прадпрыемствах, тое і спажываюць. Многія заўважылі (апошнім часам гэта было пацверджана і па тэлебачанні ў праграме "Да і пасля поўначы"), што на этыкетках дакладныя адрасы прадпрыемстваў, якія вырабляюць прадукцыю, заменены на няпэўнае і расплывістае — "Аграпрам". Месца мае і фальсіфікацыя. Напрыклад, на слоіках маянэзу, выраблenага ў Гомелі, з'явіліся накрыўкі з маскоўскімі адрасамі. Гэта пазбавіла насельніцтва кантраляваць сваё харчаванне, што асабліва важна для таго, каб карміць дзяцей.

Балюча робіцца на душы, калі я чытаю дзе-небудзь звесткі аб Чарнобылі. Прыгадваючы апісанне вясны ў пачатку майго сачынення, мне цяжка ўявіць, што было ў садах увосень. Пунсавелі на дрэвах, ападалі і засцілалі зямлю дываном прыгожыя яблыкі, налітыя... стронцыем. Лёс па-

*Ліля КАВАЛЕВІЧ,*
*вучаніца 8-га класа*
*Кончыцкай школы Пінскага раёна*

# Нідзе, як у родным кутку

Кажуць, што лёс даецца Богам, калі чалавек толькі нараджаецца. Які ж лёс наканаваны мне, звычайнай палескай дзяўчынцы?

Я, як і ўсе мае аднагодкі, радавалася кожнаму сонечнаму праменьчыку, што зазіраў у мае вокны, каб раніцай разбудзіць мяне. Радавалася першаму дождж. Любіла ўпотай ад маці бегчы малапрыкметнай сцяжынкай у лес, дзе ведала амаль кожнае дрэўца, дзе марыла, раілася з дрэвамі, кустамі, якія прыемна ківалі галінкамі ў знак згоды або шумелі лісцем, калі не былі згодны. Тут я ласавалася ягадамі. А маці потым скардзілася бацьку, што нельга адмыць плямы ад ягад на маім адзенні.

Я вельмі хацела стаць лесніком, калі выраслу. Бо дрэвы, як людзі, але іх галасы трэба ўмець распазнаваць. Яны стогнуць перад бурай, нібы просячы літасці. Як лагодна шумяць іх вяршаліны, запрашаючы на першыя ягады і грыбы! Яны пакажуць, дзе шмат грыбоў, толькі трэба ўбачыць, куды хіляцца іхнія галінкі. Даверся лесу. Калі ён убачыць у табе сябра, то раскрые ўсе свае таямніцы.

Аднак груваасткае воблака плыло па небе, калі я спала ў ложку; на золку яно скінула сваю жудасную ношу якраз над маёй вёскай, над лесам, без якіх я не ўяўляю сабе паўнацэннага жыцця, над палямі, дзе сяляне паспелі пасадзіць бульбу, буракі, дзе ўжо зелянела збажына. Нельга бегаць басанож, нельга збіраць ягады... Я, як і дзеці маёй роднай вёскі, адчула сябе больш сталай, у свае няпоўныя

сем гадоў зрабілася задуменнай. Можа, нам перадаецца настрой дарослых, якія кідаюцца ва ўсе бакі, не ведаючы, як абараніць нас ад тых хвароб, што нясе за сабой нябачная і жудасная навала. Маці пасылае мяне далей ад родных мясцін на летні адпачынак, на канікулах. Але я нідзе так не адпачну душою, як у родным кутку, і не хачу нікуды ехаць.

Мае бацькі — хлебаробы, як і ўсе жыхары нашай вёскі. Але нельга ўжываць скарб, які яны здабываюць на палетках. Хоць рукі людзей па-ранейшаму дагладаюць кожны парастак на полі, яны, аднак, больш не адчуваюць радасці і захаплення ад сваёй працы.

Усё часцей гучыць слова "перасяленне". Зразумейце мяне! Не хачу пакідаць мясціны, дзе я нарадзілася, дзе зрабіла свой першы крок, дзе сказала першае слова. Тут мне ўсё блізка і дарага. Тут мой лес, з якім я вырашыла звязаць свой лёс. Ад самай аварыі я не бачыла радаснага дзяцінства, аб якім мару і зараз. Няўжо нельга сабраць гэты радыяцыйны бруд і знішчыць? Што робяць вучоныя?

Мы, дзеці, адно толькі — працяг будучыні дарослых. Мы яшчэ не пачалі самастойнага жыцця. Дык чаму ж тады мы больш за ўсіх пакутуем?

Нам хочацца быць здаровымі, а не з'яўляцца на свет з парокамі і захворваннямі, ад якіх рана паміраюць. Мы нікуды не хочам ехаць ад родных мясцін, бо там застаецца тое, чаго мы не бачылі і што адчуваем, — дух нашых продкаў. Мы — дзеці хлебаробаў, і зямля, палітая потам нашых дзядоў і прадзедаў, не адпускае нас ад сябе. Яна нам завешчана. Мы — нашчадкі ўсіх дзівосаў на гэтай зямлі, яе культуры.

Але ж ад лёсу не ўцячэш і не аб'едзеш яго на кані. Вось толькі куды б мяне ні закінула, я ніколі не забуду цябе, мой векавечны лес, цябе, мая хата, цябе, мая родная старонка. Я буду жыць з марай, што мае нашчадкі калі-небудзь вернуцца сюды і пройдуць па маіх сцяжынках. Іх, як і мяне, будзе цягнуць сюды нябачнае паяднанне з продкамі.

*Инга САДОВСКАЯ,*
*ученица 9-го класса*
*СШ N1 г. Дрогичина*

# Природа шуток не прощает

В Беларуси, наверное, нет ни одной семьи, которую бы не затронула чернобыльская трагедия.

Мне было тогда 8 лет, и я толком не понимала, что произошло. Мой мозг сильно напрягался, пытаясь понять, что такое радиация и атомная станция. Мой взгляд, полный интереса, не мог найти в разрушенной станции всего ужаса катастрофы. Ведь тогда, в 1986 году, было только начало, а конец, увы, еще далек.

Теперь я многое понимаю, имею свою точку зрения на события, происходящие в мире политики и экономики, ведь то, чему учат в школе, не проходит даром: книги, газеты, журналы тоже помогают разобраться и осмыслить. Именно сейчас я оценила то, что произошло весной 1986 года. И эта оценка ошеломила меня: заражение радионуклидами несет в себе пагубное воздействие на все живое в течение многих десятков, если не сотен, лет. Сожалея, мы должны отдавать себе отчет в этом.

Мое сердце рвется на части, когда я вижу расстроенные лица мамы и сестры, которой идти на прием к врачу. Такие приемы, впрочем, коснулись и меня, а таблетки, которые выписывают мне, не могут надолго остановить головную боль, вялость, усталость. Все это — губительное влияние треклятых цезия, плутония, стронция — просто радиации, которая осела на территории Беларуси.

Радиация... Она, как огромный спрут, охватила многие территории, принесла боль, страх, боязнь. Боязнь оказаться на операционном столе для удаления щитовидной железы. Если бы только щитовидка, но есть много других, не менее страшных болезней, для которых еще не придуманы эффективные способы лечения. Но все же медики стараются изо всех сил. Помогли старые народные средства: вспомнили йод, морскую капусту, грецкие орехи. Я, наверное, забыла бы про головную боль, увеличенную щитовидную железу, если бы не надо было принимать лекарства. Но и без них тоже нельзя. Большую пользу приносят поездки в различные санатории, оздоровительные лагеря, а также поездки за границу. Ведь именно они вселяют в нас надежду, помогают духовно обновиться и, конечно, поправить свое здоровье.

Да, авария на Чернобыльской АЭС принесла много бед. Кто виноват? Общество?.. Люди, которые работали на станции?.. Случай?.. Я не хочу, чтобы мои дети и внуки были больны, не хочу, чтобы это повторилось, не хочу! И потому прошу у людей: "Не допустите такого еще раз. Помните о трагедии. Ведь в ваших силах оценить и не допустить!".

С природой не шутят, она шуток не прощает, наоборот, сильно карает за них.



*Мал. Надзі ЗІМІРАВАЙ, г. Мінск*

*Марына МАСПАНАВА,*
*вучаніца 9-га класа*
*гімназіі N1 г.Баранавічы*

# Паразважаем з табою, мой дзённік

*Хацелася зваліцца і заснуць,*
*Ды так, каб болей гэты свет не бачыць,*
*Каб не замольваць страшную віну*
*За тое, што не можам перайначыць*
*Нічым, ніколі палыновы дзень*
*З сляпучым сонцам у смузе варожай,*
*Дзе і зямля, і тысячы людзей*
*Заложнікі,*
*і ты між іх — заложнік...*

*Сяргей ЗАКОННІКАЎ*

**26 сакавіка 1994 года**

Даўно ўжо я не звярталася да цябе, мой дзённік! Што ж, не крыўдуй: дзевяты клас — амаль выпускны, і пісаніны хапае без цябе. І ўсё ж паразважаць над адным пытаннем хацелася б менавіта з табою.

Дрэнна быць настаўніцкім дзіцём... А асабліва, калі твая маці яшчэ бясконца нешта піша, недзе друкуе, удзельнічае ў нейкіх конкурсах. І цябе дакарае, што ты ўдалася зусім не па ёй. Дык вось: можа, даказаць ёй, што і я нечага вартая, ды напісаць конкурснае сачыненне аб Чарнобылі, пра якое дыктар аб'явіла ўчора? Тэма, праўда, вельмі балючая для беларусаў, пісаць адказна... Але яшчэ ёсць час падумаць.

**27 сакавіка 94-га**

Сёння пра конкурс нам гаварыла і настаўніца беларускай мовы. Вядома, перш за ўсё яна мела на ўвазе тых вучняў, што пераехалі ў наш горад з Гомельшчыны. Але я на іх месцы наўрад ці ўзялася б за такое сачыненне. Гэта ж — сыпаць соль на раны... А з другога боку, аб чым напішу я? Здаецца (дзякуй Богу!), нашу сям'ю гэтая пошасць абмінула. Усе жывыя і, як пішуць у медыцынскіх картах, практычна здаровыя. Дык пісаць ці не пісаць?



*Мал. Ганны ХАДАСОК, г. Мінск*

**28 сакавіка 94-га**

Ніколі не думала, што буду так узрушана з гэтай прычыны. Стараюся згадаць усё, што звязана з бядою 86-га ў маім жыцці. Але мне было ўсяго сем год, таму ўзнікаюць асобныя згадкі, як рознакаляровыя кавалачкі шкла ў дзіцячым калейдаскопе.

...Мы едзем да бабулі на Магілёўшчыну сеяць (як там кажуць) бульбу напярэдадні 1 Мая. Па прыёмніку гучыць нейкая інфармацыя аб аварыі. Бацькі ўзрушаны, але ненадоўга. Цяпер я разумею: упэўненыя ў светлай будучыні "саўкі". У вёсцы — свой клопат, тым больш, што радыяцыя не бачна і не чутна.

Цеплыня... Усе параспраналіся, маці ў купальніку, па раллі ходзіць басанож, мы з Сяргейкам у маечках.

...Потым — маміны слёзы. Праз некалькі месяцаў у малога з носіка амаль штодзень ідзе кроў, асабліва ў час сну, нават ноччу. Маці прыслухоўваецца да яго дыхання, каб своечасова падхапіцца: не дай Божа, задыхнецца. Увосень у бальніцу трапляю я: млявасць, бяссілле нейкае, ціск, кажуць, нізкі. Абследуюць. Дыягназ не ставяць. Маці зноў плача. І я пакрысе ўсведамляю: радыяцыя — гэта слёзы.

...Мой бацька — ваенны. Ён кажа, што хутка паедзем у Венгрыю. Маці радуецца: далей ад бяды. І вось мы ўжо з ёй нават пачынаем пакаваць тое-сёе. Але праз месяц бацька ад'язджае ў самую калыску бяды: на яе ліквідацыю. Гэтае слова ў мяне па сённяшні дзень асацыіруецца з назвамі Брагін і Хойнікі, адкуль бацька зрэдку тэлефануе. І маці зноў плача. Цяпер я ведаю дакладна: яго штодзённая гарэлачная "прафілактыка" на працягу тых чатырох месяцаў зрабіла невыносным усё далейшае жыццё нашай сям'і.

...У малодшага мамінага брата нарадзіліся дачушкі-блізняты. Іх кормяць толькі дзіцячым харчаваннем са слоічкаў, а малака ад бабулінай каровы Ґалкі не даюць.

Аднак я моцна захапілася ўспамінамі, ужо глыбокая ноч. Матуля спіць і не падазрае аб маіх творчых пакутах.

**20 красавіка 94-га**

Праз шэсць дзён скончыцца конкурсны тэрмін, а [redacted] так і не прыняла рашэння. Праўда, згадала вось яшчэ што: увесь час маці імкнецца на сваю радзіму. Яе вёска — на мяжы Магілёўскай і Гомельскай абласцей. Але я ўпэўнена, што гэтая паездка не адбудзецца. Бо яна ж, мая маці, кажа, што людзі дзяцей сваіх вывозяць на захад, дзе чысцей крыху, [redacted] ёй хочацца ў зону... І дадае заўсёды: "Гэта для іншых Магілёўшчына — зона. А для мяне яна — радзіма". І зноў плача. Нарэшце, суцяшае сябе тым, што вернецца туды, калі мы з Сяргейкам станем дарослымі і прыжывёмся тут, а яна пойдзе на пенсію.

**21 красавіка 94-га**

Сёння мая сяброўка з 10-га класа, у якім беларускую мову выкладае мама, сказала, што яна раіла класу перачытаць паэму Сяргея Законнікава "Чорная быль". Я памятаю, мама некалі пісала водгук на гэты твор і пасылала ў "ЛіМ", а потым паказвала нам з Сяргейкам газету. Трэба і мне ўпотай перачытаць паэму, і, можа, я канчаткова вырашу пытанне пра свой удзел-няўдзел у конкурсе!

**22 красавіка 94-га**

Калі я скажу, што паэма мяне ўзрушыла, то нічога не скажу. Яна мне перавярнула ўсю душу. А мае "шкельцы"-успаміны набылі новы сэнс. Цяпер я разумею, што такое зона маўчання, хто такія марадзёры, бачу ўвачавідкі спакутаваных людзей і знясіленага чарнобыльскага воўка... А дзедавы аповеды пра канец свету ўвасобіліся ў канкрэтныя вобразы...

І ўсё ж я не пра гэта, а вось пра што: пра маё і будучыя пакаленні. "Вам і ў чорнай бязлітаснай скрусе трэба выжыць — чакаюць вякі," — сцвярджае паэт. А як, калі "сырадой бабуля зноўку цэдзіць у старыя гарлачы, і з малаком цячэ праз марлю цэзій?.." Калі "дзеці, нібы скошаныя краскі, вянуць, бо бяда — хварэе кроў?".

Маўчыць, нібы камень, зямля,
Палын невядомасцю свеціць...
Што будзе,
Што будзе пасля?..

Не, я не буду пісаць ніякае сачыненне і варушыць балючае яшчэ раз. Я не буду кідацца ў разважанні аб тым, чаго не перажыла, але хто ведае, што наканавана перажыць мне ці маім дзецям, маім унукам?.. "Глядзіць Беларусь на мяне, чарнеюць кругі пад вачыма..." А я, сярэднестатычны заложнік Чарнобыля, малю аб адным: няхай доўга-доўга жыве мая маці, няхай дачакаецца многа-многа ўнукаў і нават трошкі праўнукаў. І няхай ім, гэтым дзеткам, ніколі-ніколі больш не зададуць напісаць сачыненне пра Чарнобыль, бо ён бясследна знікне з лёсу беларусаў.

*Таццяна **КАХАНОЎСКАЯ**,*
*вучаніца 11-га класа*
*СШ N 10 г.Гомеля*



# Як хочацца жыць!

Блакітнае неба,
І сонейка ззяе!
Чаго яшчэ трэба —
Вясна наступае...

Іскрысты прамень
Датыкнуўся да глебы,
І сокі бруяцца
У рошчыне хлеба.

Як хочацца жыць,
Працаваць, прытуліцца
Да матчынай шчырай,
Ласкавай зямліцы!

Ці можна паверыць,
Што здрадзіла маці?
Ці можа мяне
Зямля ашукаці?

Чаму я размову
Такую вяду?
Бо нельга адвесці
Ад сада бяду.

І нельга напіцца
Крыштальнай вадзіцы.
І нельга умыцца
Бліскавай расіцай.

Чужая зямля,
Чужыя куты,
Калі я вярнуся
Дахаты сюды?

Не ведалі дзеці,
Што чорны Чарнобыль
Надоўга раскіне
Смяротныя промні...



*Мал. Калі САПРАНОВІЧА, г. Мінск*

*Виктор БЫСОВ,*
*ученик 8-го класса*
*н/п СШ N4 г.Кричева*

---



# Мох, наш мох,

## или Хиросима—Нагасаки—Чернобыль. Как это было...

*Из книги Всеволода*
*ОВЧИННИКОВА*
*"Горячий пепел":*

*Понедельник 6 августа 1945 года. Утром над Хиросимой появился один-единственный Б-29. Это был самолет майора Изерли. В сплошном покрывале облаков, как раз над Хиросимой оказался просвет диаметром в двадцать километров. В 8 часов 14 минут 15 секунд раскрылись створки бомбового люка. Еще 47 секунд над Хиросимой мирно светило солнце. Беззвучная вспышка атомной бомбы вдруг разом превратила Хиросиму в горячий пепел...*

*Самолеты метеоразведки сообщили о хорошей погоде как над Кокурой, так и над Нагасаки. Взяли курс на Кокуру, но в последний момент ветер над южной Японией изменил направление. Густая пелена дыма заволокла город. Экипаж майора Суинея пошел на запасную цель. Так решилась и трагическая участь Нагасаки. 9 августа 1945 года в 11 часов 02 минуты атомная бомба взорвалась над одной из многочисленных в Нагасаки церквей.*

*Американцы запрещали говорить об атомной бомбардировке и жертвах. Хибакуся стала запретной темой в Японии. Но время показало другое, и теперь весь мир знает об этом страшном времени.*

*Из книги "Чернобыльский репортаж".*
*Издательство "Планета", 1987:*

*Утром 26 апреля на Чернобыльской АЭС произошла авария. Разрушен блок атомного реактора. Вокруг разбросанные куски уран-графита и бетона. Реактор выделял смертельную опасность. И в первые часы аварии было много погибших и пострадавших от лучевой болезни. Погода стояла чудесная. Ни ветерка, абсолютный штиль, солнышко. Это было очень кстати. Если бы в этот день было ветрено, последствия аварии были бы страшнее и трагичнее... Каждую секунду мирный атом убивал радиацией людей.*

Я родился 16 декабря 1979 года, и мне тогда было чуть больше шести лет. Я вспоминаю отрывки своего детства.

Утро. Влажная дымка не дает пробиться солнцу. Мы с отцом вышли на огород: готовились к севу. Выглянуло солнце, и мы целый день радовались ему. Сначала работали, а после обеда всей семьей поехали на "Москвиче" в лес. Через день опять — за березовым соком. Там, в березнячке за Соколовкой, собирали сок рабочие. Мы разожгли костер, жарили сало, пили сок. Было интересно и радостно. Сок привезли домой, угощали знакомых и друзей. Поставили его в погреб и пили все лето.

Солнечный день был и 1 Мая. Вокруг красным-красно от флагов. Все улыбаются, радуются. Мы проходим мимо трибуны и кричим: "Ура! Слава КПСС!".

9 мая к нам в Кричев приехали ветераны-освободители. Им вручили цветы и подарки. На Кургане Славы много детей и взрослых. После митинга был концерт и ярмарка.

Целое лето мы с родителями ездили под Чериков, собирали возле Саланого озера чернику, землянику и грибы. Купались в Соже, загорали.

Осенью я пошел в первый класс. В нашей школе выступали ветераны войны и труда. Проходили уроки мира. Позже все готовились отмечать 850-летие Кричева. Снова в городе был праздник. И снова красные флаги, красные речи и песни.

О Чернобыле нам стало известно в 3—4 классах. Говорили, что реактор взорвался от нас далеко. И ни слова о том, что пострадали от взрыва и наши район, город. Об этом вскоре мы сами стали догадываться. Тема Чернобыля была также запретной, как для Японии хибакуся. Два-три года молчали о том, что нельзя было собирать в лесах ягоды и грибы. Мы пили чернобыльский березовый сок. Ели отравленные цезием, стронцием и плутонием грибы и ягоды. Загорали на радиоактивном солнце и купались в насыщенных радиацией реках и озерах.

Со мной училась Алеся Мельникова. Ее родители построили новый деревянный дом. Жили в нем года три, а потом Алеся заболела. Вызвали санстанцию. Когда измерили радиацию, она оказалась выше нормы. Как выяснилось, дом поставили на холоблинском мху — он был радиоактивный. Позже за счет Госкомчернобыля им построили новый дом, а Алесе дали путевку в санаторий. Но не одна Алеся болела и болеет.

За последние годы я и мои одноклассники отдыхали в Нальчике и Витебске. А в прошлом году вместе с ребятами из Ботвиновки, Осовца и Сычика, где большая радиация, побывали в Германии. За два с половиной часа самолет доставил нас в город Гютерсло (земля Северный Рейн). Поселили в немецких семьях, тоже имеющих детей. Мы хорошо понимали друг друга, да и переводчиков было много: ведь там жили беженцы — немцы из Казахстана и России.

Меня поселили в красивый деревянный дом Мехтхильды и Вильгельма Гроферов, у которых трое детей — мальчики Макс, Тило и Ян. Нас возили на концерты, в цирк и музей военной техники. Гуляли в парках, катались на каруселях. Самое яркое впечатление произвел бассейн с винтовой лестницей, по которой можно было скатиться сверху в воду. Купались сколько хотели. Знали, что дома такое нам и не приснится. Жили вместе с детьми в одной комнате, ели тоже вместе. Ездили на велосипедах на прогулки. Я с хозяйкой Мехтхильдой, кроме того, ездил часто в продовольственный магазин. Там изобилие! Такое можно увидеть только во сне.

Немецкие друзья подарили каждому из нас плейеры, кассеты, джинсы и куртки, красивые спортивные сумки, шоколадки и конфеты. Хоть там было хорошо, я немного соскучился по своему городу, друзьям и природе, какая у нас.

Возвращались на автобусе "Мерседес" через Германию, Польшу. Дома написали письма немецким друзьям. Осенью они прислали нам посылки и письма. Вот что написал отец Макса, Тило и Яна — Вильгельм:

"Посылаем посылку и фотографии. У нас все хорошо и вам этого желаем. Из печати мы узнали, что Чернобыльская АЭС еще полностью не заглушена и выделяет радиацию. Мы просим и молимся Богу за всех вас, чтобы Чернобыль снова не повторился. Молитесь Богу и вы за нас".

По решению Всемирного Совета Мира в августе месяце ежегодно проводится Неделя действий по запрещению ядерного оружия и солидарности с жертвами атомных бомбардировок. Не только осиротевшие хиросимцы и их соотечественники — все человечество повторяет в этот день клятву. Она высечена на каменном надгробье в хиросимском Парке мира: "Спите спокойно, это не повторится!".

Хочется, чтобы люди не забывали о Чернобыле, об этой трагедии. Чтобы помнили, как запрещали говорить правду! Как обманывали и выводили на солнечные кумачовые де-

монстрации. И назвали имена и фамилии тех, кто замалчивал преступление против беларусов, россиян и украинцев. Правду нельзя спрятать, нельзя закопать в землю.

В нашей школе в последние годы проводится "День Чернобыля". Горят свечи, мы вспоминаем учеников, учителей, всех знакомых, кто умер после аварии. Сейчас мы открыто говорим о Чернобыле, хоть кому-то это и не нравится. Я знаю это от взрослых.

Земля у американцев, японцев, немцев, беларусов одна, и мы должны дорожить ей. Она — наш дом. Беречь ее надо всем вместе.



*Аркадзь ПАЛОНСКІ,*
*вучань 6-га класа*
*СШ N5 г.Крычава*



# Які свет іх чакае?

На зямлі — вясна. Абуджэнне ўсяго жывога: травінак, лісцікаў, пяшчотных першацветаў-красак... Пара надзей. І дзень нацыянальнай жалобы...

Чарнобыль — нацыянальнае бедства, якое трагічна паўплывала на лёсы соцень тысяч людзей. Хіба не так?

Боль наш — Чарнобыль. І не суцешыць яго калейдаскопам чароўных уражанняў ад аздараўленчых вандраванняў па свеце дзяцей з зоны, не суняць абяцаннямі ўрада аб увядзенні дадатковых кампенсацый насельніцтву (на справе мы, наадварот, бачым уразанне іх), не заспакоіць прагнозамі медыцынскай навукі і практыкі.

Восем гадоў — неўтаймавана трывожных, поўных развяг, надзей і сумненняў — перажыта намі. І ўсе яны — наша гістарычная быль, што ляжа ў спадчыну.

Цяпер я хачу расказаць пра тое, што мяне вельмі ўразіла.

Пад Санкт-Пецярбургам ёсць прыгарад з сумнай назвай — Пясочная. Чаму, спытаеце, сумнай? Там знаходзіцца буйнейшая клініка Інстытута анкалогіі.

З сумным настроем заўжды едуць у Пясочную людзі, каб наведаць сваякоў і сяброў.

А я ўспамінаю сустрэчы ў дзіцячым аддзяленні гэтай медыцынскай установы. У фае і калідорах пануе цішыня такая, што адразу разумееш: тут пасялілася бяда. Толькі нягучна шоргаюць тапачкі.

Мамы носяць сваіх хворых немаўлят на аналізы, на працэдуры, на апрамяненне. Не шуміць і панылая малеча. Медсёстрам не даводзіцца заклікаць дзятву да парадку. Гуляюць тут ціха, седзячы на канапе ў фае ці прысеўшы на ложак суседа. Усе дзеці (а ляжаць тут да пятнаццацігадовага ўзросту) разумеюць, што лячэнне — працэс адказны. І слухаюцца ўрачоў, дакладна выконваючы ўсе іх прадпісанні.

У Інстытут анкалогіі прывозяць хворых з розных куткоў былой вялікай краіны. Марына — ленінградка, Таня — кіяўлянка, Дзіма — з Гомельшчыны... Сюды іх сабралі, каб лячыць у лепшых урачоў, спецыялістаў па дзіцячай анкалогіі.

Кагосьці чакае аперацыя, кагосьці — апрамяненне альбо хіміятэрапія, у залежнасці ад характару і асаблівасцей хваробы.

Тут урачы не любяць высокіх слоў, не вымаўляюць іх, хаця па праву маглі б ганарыцца тым, што кожны год выратоўваюць дзецям сотні жыццяў. Але, на жаль, медыкі не чараўнікі, і не заўсёды ім удаюцца цуды. Вялікі працэнт і "лятальнага зыходу" — так у медыцыне называецца смерць.

Гэта здаецца жудасным і немагчымым, неверагодным — дзеці і смерць... Яны ж нічога не зрабілі, не паспелі вырасці нават, знайсці сваё месца ў жыцці.

Чарнобыль... Дзверы туды, дзе няма нічога.

Што гэта? Старая фотахроніка ваенных часоў? Не, сучасная катастрофа.

І зямля за калючым дротам.
І вада, якую нельга піць.
І паветра, якім нельга дыхаць.

Бацькоўскі дом, урэшце, які трэба пакінуць назаўсёды.

Дзецям, якія нарадзіліся той страшнай вясной, споўнілася па восем гадоў. Які свет іх чакае?

*Юлия ГОЛЕНКО,*
*ученица 9-го класса*
*СШ N18 г.Могилева*

# Подумайте о детях

Когда я слышу о Чернобыле, мне вспоминается ужасный сон, не досмотрев который, я проснулась вся дрожа. Он потом еще долго пугал и преследовал меня.

Вот я иду по длинному коридору, открываю каждую дверь на моем пути. Там лежали физически недоразвитые младенцы и плачущие худые и бледные матери. Дети умирали у меня на глазах, проваливаясь в пустоту. Тогда я спросила: "Что это?". Мне ответили: "То, что навеки останется здесь, на этой земле". Открыв следующую дверь, я оказалась на краю пустыни и увидела вдали зеленый свет, единственное цветное пятно. Я побежала туда так быстро, как будто за мной кто-то гнался.

Когда рассказала этот сон родным, сходства с жизнью никто из них не обнаружил. Но теперь мне становится ясным, что снилась чернобыльская трагедия. Я помолилась за то, чтобы Бог помог людям справиться с этой бедой, чтобы не было того ни с чем не сравнимого горя, когда ни в чем не повинная мать видит своего неизлечимо больного ребенка.

Чтобы выжить, рыбам нужна чистая вода, птицам — чистый воздух, а человеку — и то и другое вместе. Всем вместе нужна чистая почва. Еще не поздно взяться за ум, объединить усилия и не допустить аварию, может быть, во много раз более опасную чернобыльской. Живя в городе "большой химии" с повышенной загрязненностью всякими



*Мал. Юлі МУРЫГІНАЙ, г. Мінск*

отравляющими веществами и радионуклидами, в атмосфере, вдвойне опасной для здоровья, я все же надеюсь на лучшее, верю в будущее, в спасение нас и всего рода людского благодаря прозрению.

Прошу вас, взрослые, не усугубляйте своим бездействием этой беды и не допустите второго Чернобыля, подумайте о детях, которым даете жизнь на этой земле, на земле, где похоронены наши предки, на священной беларусской земле.

*Наталья МИХАЛЬЧУК,*
*ученица 9-го класса*
*СШ N21 г. Могилева*



# Кто ответственный за детство?

Когда я была маленькой, часто ездила в деревню к бабушке. Помню ее натруженные руки, шершавые от ветра и пота, как кора, но такие нежные, когда ласкали меня. Помню дедушку, доброго и трудолюбивого. Он был садовником и пчеловодом. Золотой рой пчел кружился над вековой липой.

Как хорошо было в деревне раньше: молодежь танцевала до зари на вечеринках, старушки "воевали" со своими внуками, молодых парней провожали в армию, гремели свадьбы... Кричали петухи, мычали коровы. А теперь — зловещая тишина. Как на кладбище.

Чернобыль... Осиротела деревня. Умер дедушка. Осталось в ней доживать свой век всего несколько человек, у которых нет родных. Они по-прежнему ходят в лес собирать грибы и ягоды, пьют из колодцев радиационную воду. Жить-то надо. Вот с хлебом только туго:

Черная траектория —
Зараженная территория.
Трудись, народ, от зари до зари!
...У бабкиной печки — сорок кюри...

На тощие плечи —
Горя гора.
Березки, как свечки,
Горят у двора.
Ноги у бабки
В черной пыли.
Крыша в заплатках —
Реви не реви.
Стали явью слухи:
Люди мрут, как мухи.
Преступление без наказания!
Запоздалое покаяние.
Запоздалое отрезвление.
И во сне лишь — переселение.
Жгучая боль,
Черная быль —
Чернобыль.

Глубоко взволновала меня трагедия Чернобыля. Я написала несколько стихотворений, отрывки из которых и привожу в своем сочинении.

Мою бабушку перевезли в город. Но она очень скучает по родным местам:

А здесь — тоскливо без полей,
Нет под окошком груши.
И не услышишь журавлей,
Хоть целый вечер слушай.
И не хватает мудрых
Односельчан частенько.
Все снится ей под утро
Родная деревенька.

Переехало из деревни в Могилев несколько семей. Их дети часто болеют, и у взрослых здоровье совсем плохое.

Скоро летние каникулы. Раньше у меня не было проблем с отдыхом. Конечно же, к бабушке в деревню! А сейчас

путь туда закрыт. Вот и сидим мы с бабушкой, как две пленницы, в четырех стенах.

Я очень люблю свою старенькую бабулю, угощаю ее конфетами, разговариваю с ней по душам, помогаю, чем могу. Одета она, конечно, не по моде. Но я никогда не стеснялась этого, потому что не одежда главное в человеке. Очень хочется нам с ней опять съездить в деревню:

И где-то далеко
Растет до небес
И ждет не дождется
Стареющий лес.
И где-то блестит
Золотой чешуей
Речонка, что с детства
Манит за собой.



*Малюнак аўтара*

Бабушка очень любит слушать мой рассказ о том, как мне посчастливилось побывать во Франции. Ездила я туда от комитета "Дети Чернобыля".

Я рассказываю ей, у каких чудесных людей жила целый месяц, как подружилась с их детьми. О необозримом Северном море, о шумном Булоне, об удивительном Париже. Все это я видела своими глазами. Иногда мне кажется, что это был сон... Закрою глаза — и вижу добрых, улыбчивых моих хозяев Жана-Клода и Аниес, веселого выдумщика Жульена и светловолосую девочку Аннет.

Французы знают из газет и телевидения о нашей чернобыльской беде. Знают, что сильно болеют и умирают от белокровия и от других болезней беларусские дети. Осведомлены о том, что у наших детей ослаблен иммунитет из-за недостатка витаминов, чистых продуктов, чистого воздуха.

Знают и очень сочувствуют нам, помогают, чем могут, как и другие народы.

Мои хозяева хотели, чтобы мне было у них спокойно, весело. Они окружили меня теплом и вниманием.

Аниес очень старалась вкусно меня накормить. Приехала я туда бледная, усталая, а домой вернулась отдохнувшая, загорелая, окрепшая.

Никогда не забуду детских праздников, которые французские друзья устраивали для нас, выставок, фейерверков, концертов.

Но как ни было хорошо за границей, я бы не осталась там жить. Скучала по родине, по Могилеву, по своим близким; да и природа там хоть и красивая, но не родная. Смотришь на редкие карликовые деревца — и вспоминаешь наши леса, березки, клены, елочки. И так становится тепло на душе оттого, что где-то есть на земле твоя родная сторонушка.

Я пела французам беларусские и русские песни, играла на фортепиано.

Там же, во Франции, написала строчки, посвященные городу Могилеву, в котором по-новому для себя осмыслила чернобыльскую трагедию:

Мой Могилев, родной, любимый город,
Суровый воин с трудною судьбою.
Ты для меня всегда красив и молод,
Хоть стала голова твоя седою.
Нависла грозно туча над тобой,
Чернобыльская, черная и злая.
Пришла она к тебе с большой бедой,
Которая до сих пор не отпускает.
Ну где, когда, скажи, такое было,
Чтоб дети солнца, речки опасались,
И дождика, и ветра легкокрылого,
И рвать цветы и ягоды боялись?
Дышать бы полной грудью
Разнотравьем всех полей, лугов.
Нельзя! И мы вас умоляем: люди
Защитите нас от недугов!
От природы остались нам в наследство
Лишь химикаты и выхлопные газы.
Скажите, кто ответственный за детство?
Что, нам ходить в противогазах?
Мы, как былинки на ветру жестоком,
И очень скоро, скоро повзрослеем.
Чем встретит нас "прекрасное далеко"?
И выжить ли в сумятице сумеем?
Родной мой город, труженик суровый,
Над ним пусть вечно флаг Отчизны реет,
И дело посвящу ему, и слово.
И он меня, надеюсь, обогреет!



*Валерый БАРАВІК,*
*вучань 10-га класа*
*СШ N1 г.п. Лагойска*

# Я зведаў гэты боль

Цяжка апісаць той стан душы, які не пакідае мяне ўжо некалькі гадоў. А з таго чорнага дня іх прайшло восем. Ды ўвесь гэты час нікуды не схавацца, нікуды не збегчы ад роспачнага болю, ад горкай самоты. Нават у снах... Ноч за ноччу наплываюць яны, будзяць успамін аб роднай Чэрыкаўшчыне, вярэдзяць душу і сэрца. Цяжка мне далося ўсведамленне таго, што я страціў самае дарагое і каштоўнае ў жыцці — радзіму. Цяпер, на чужыне, я ўспамінаю родныя мясціны і на памяць прыходзяць радкі з верша Кастуся Кірэенкі:

Лепей за ўсё мне на свеце мясціна
Тая, дзе я нарадзіўся і ўзрос.
Бэз пад акном і на полі каліна,
Ціхае сонца блакітных нябёс...

Мінула тры гады з таго дня, як я выехаў з Чэрыкаўшчыны. І вось зноў імчыць мяне машына туды, дзе засталася часцінка майго сэрца. Думкі, успаміны пераплятаюцца, блытаюцца. На душы неспакойна. Перад вачыма паўстаюць малюнкі апошняга шчаслівага года ў гэтай палескай глыбінцы...

Залатыя палі збажыны з сінімі вочкамі васількоў, распавіты Сож, светлыя ад бяроз гаі — усё гэта маё дзяцінства, мая маленькая радзіма.

Да восемдзесят шостага года мой бацька працаваў у лесапрамгасе і ведаў самыя таемныя куточкі ў лясах Чэры-

каўшчыны. Колькі тут было неспазнанага, дзіўнага, зварушлівага! Колькі дробязей, амаль непрыкметных тады, але вельмі значных і важных для мяне зараз, успамінаю цяпер. Вось мы з бацькамі збіраем крэпенькія маладыя баравічкі, а вось ярка-чырвоныя суніцы. Блукаючы, раптам выходзім на старыя партызанскія акопы. Успамінаю любімае месца адпачынку нашай сям'і, дзе векавыя дубы падступаюць да самага берага Сожа і амаль побач б'юць жывыя вясёлыя крынічкі, а на другім беразе — бязмежная прастора заліўных лугоў.

Прыгажосцю вылучаецца гэты куточак у Магілёўскай вобласці. Лясы і лугі шчодра адорвалі людзей ягадамі, грыбамі і духмянымі зёлкамі. Без добрай здабычы не ад'язджалі адсюль ні рыбакі, ні паляўнічыя...

Сож! Мой імклівы і знаны Сож са стромкімі берагамі і разлеглымі сенажацямі. Як яго не любіць, калі ўсё дзяцінства я хадзіў па ўзбярэжжы гэтай ракі, услухоўваўся ў плёскат хваль — то бурлівых, пагрозлівых у вясновае разводдзе, то ціхіх, мілагучных у пагодныя летнія вечары.

Світае... На хаду паснедаўшы, як дарослы, крочу з бацькам да ракі. У паветры ніводнай пылінкі. Яно проста ап'яняе сваёй чысцінёй і свежасцю. Нам трэба паспець, не ўпусціць тых дарагіх хвілін на світанку, калі рыба пакідае глыбіні і пачынае ход за спажываю...

А вечарам стомленыя, ледзь-ледзь перасоўваючы ногі, але задаволеныя, радасныя крочым дадому.

І што нам цяпер засталося ад усяго гэтага?! Прыглушаны стогн. Неспазнаны дагэтуль боль страты. Боль, якому няма роўных у свеце. Апусцелыя вёскі, апусцелыя душы былых жыхароў. Безліч хвароб...

...Вось мы з бацькам пасля пяці гадзін дарогі ўязджаем у Гронава. Так называецца мая вёска. Я нарэшце пакідаю свае цяжкія ўспаміны і прагна ўглядаюся ў наваколле. Ды не, няма таго звыклага дзіцячага гоману ў дворыках. Няма шчаслівых або проста радасных твараў былых аднавя-

скоўцаў. Няма буслоў на старой вялізнай сасне, якая невядома як апынулася на межах некалькіх сядзіб. Няма звыклага, паўнацэннага жыцця. Але ёсць людзі. Нейк недарэчна забытыя Богам і ўсімі астатнімі людзьмі. Інакш як растлумачыць тое, што ў вёсцы жывуць на сённяшні час больш за палову жыхароў? А Гронава ж знаходзіцца зусім побач з вёскамі Веприн, Малінаўка, Халмы, Чудзяны, дзе радыяцыя ў тры разы большая, чым у 30-кіламетровай зоне Чарнобыля. Толькі людзі жывуць, як нідзе і ніколі. Жывуць, набліжаючы свой апошні дзень. А куды ехаць? Дзе шукаць шчасця? Ніхто на чужыне цябе не чакае, нікому ты там не патрэбен так, як на радзіме, і нават бываюць моманты, калі і паскардзіцца няма каму, акрамя сваіх блізкіх. І таму многія сем'і праз некалькі месяцаў зноў вяртаюцца дадому, сюды, дзе нябачная, д'ябальская сіла крышыць і знявечвае ўсё жывое на клетачным узроўні, — у гэты край самоты і тугі.

Вось і здаецца, што жыхары гэтай вёскі не жывуць, а дажываюць свой век. Па гэтай прычыне душу зноў напаўняе пякучы боль за гэтых людзей, асабліва за маленькіх дзяцей, якія яшчэ не разумеюць значэння такога страшнага слова "радыяцыя".

...Бацька спыняе машыну каля нашай старой хаты. Мы, седзячы ў машыне, моўчкі глядзім на яе. Цяпер там жыве іншая сям'я. А мы тут ніхто. І зноў успамін... Ён — адно з самых цяжкіх пачуццяў у маім жыцці. Успамінаецца апошняя ноч у роднай хаце.

Апусцелая хата. Вокны без фіранак. Нямая, прыгнятаючая цішыня. Ноч. Бясконцая, падобная на мае думкі. Сэрца не ўспрымае або не хоча ўспрымаць, што яна — апошняя ў гэтай непрывабнай з выгляду, але такой мілай і дарагой для мяне хаце. Я чакаю світання як збавення ад пачуцця безнадзейнасці, ад горкіх, цяжкіх думак. Але час застыў, і яно ніяк не надыходзіць. Са спакутаваным сэрцам, задрамаўшы на некалькі хвілін, нарэшце, устаю. Праз гадзіну ўся

сям'я, моўчкі апусціўшы вочы долу, сядае ў машыну. Апошні позірк на родную, мілую хату, дзе прайшло маё дзяцінства, маладосць маіх бацькоў. Аднак што гэта?.. Быццам бы смуга заслала вочы і, здаецца, захлынуўся ў нясцерпным болі... Толькі цяпер я знайшоў сугучны гэтаму моманту верш Міколы Лешчуна, які глыбока запаў мне ў душу:

Ля родных падворкаў схіляем галовы,
Нібы на пагостах ля даўніх крыжоў.
І коцяцца слёзы — балючыя словы:
Ці ўдасца калісьці прыехаць ізноў?

Прабыўшы ў Гронаве два дні, мы развітваемся з вёскай яшчэ раз. Пасля ўсяго ўбачанага і пачутага ад'езд здаецца мне збаўленнем ад жудаснага сну. Ды не. Чамусьці толькі пасля развітання з роднай вёскай мы звяртаем увагу на прыроду. Яна пацвярджае, што гэта не сон, а як бы ягоны працяг...

Здзічэлыя, зажураныя палеткі, счарнелыя даўнія стагі. Бацька не вытрымлівае і спыняе машыну каля лесу. Уваходзім у яго. У вачах мружыцца. Паліваем слязьмі сцяжынку, зарослую быльнягом. Бярозкі. Якія стройныя, маладыя, прыгожыя. І, мабыць, ужо невылечна хворыя... Я ўспамінаю невялічкую красавіцкую казку пра бярозку, якая ліла салодкія слёзы, а ў мяне — пякучыя цяжкія слёзы ростані, слёзы за растаптаную красу і, напэўна, жыццё.

Прывычнае вуха не ўлавіла шматгалосага спеву. Так, чуваць толькі самотна-тужлівы шолах лісця і шапаценне высокага быльнягу. Як хаўтурны пошум... Потым, больш прыгледзеўшыся і прыслухаўшыся, я зразумеў, што лес жыве, але маўчыць. Маўчыць, быццам усё адчувае, усё разумее і маўчыць.

Зноў сядаем у машыну, каб ужо без перапынкаў хутчэй даехаць туды, дзе цяпер наша хата. Трывожныя, горкія думкі. Цяжка апісаць уражанне, навеянае асірацелым лесам.

На чужыне я часта ўспамінаю сваю радзіму. У такія

хвіліны са мною заўсёды сябар майго дзяцінства — маленькі плюшавы мядзведзь. Колькі з ім разам мы пераэкылі! Шчаслівае жыццё ў Гронаве, Чарнобыль, пераезд, першыя гады на чужыне... І таму для мяне ён не толькі цацка, ён — сімвал. Сімвал роднай зямлі, сімвал шчасця, таксама сімвал болю, смутку і настальгіі па Бацькаўшчыне...

Няма слоў, такіх патрэбных, якія б, трапіўшы ў вушы, зажывілі душэўныя раны многіх тысяч і мільёнаў беларусаў, якіх напаткала бяда.

А боль не затухае. Людзям, якія не зведалі яго, трэба дапамагчы справай: міласэрнасцю, дабрынёй, павагай.



*Мал. Ані ШОСТАК, в. МОРАЧ, Клецкі раён*

*Максим ПАСИКОВ,*
*ученик 7-го класса*
*СШ N2 г.Осиповичи*



# Мечтаю вернуться домой

Ура! У меня родился братик! Это произошло 27 апреля 1986 года.

Яркий солнечный день. Жара. Мне 5 лет. Я очень долго ждал этого события. Мы с мамой и папой считали деньки, придумывали имена. Все почему-то точно знали, что будет у меня братик.

Целую неделю мама была в больнице. Я бегал туда каждый день и под окном прыгал на одной ножке от радости и переживания. Уж очень хотелось увидеть братишку. Помню, все боялся, чтобы его не подменили, — эти малыши были все одинаковые. Ужасно хотел, чтобы братика назвали Будулаем — как раз показывали по телевидению фильм "Цыган". И почему это мама с папой не хотели Будулая?..

И вот, наконец, маму с Артюшей (так назвали малыша) привезли домой. Сколько было радости! А потом вдруг стало страшно...

Я никак не мог понять взрослых. Лица их стали грустными. Все без конца говорили об одном и том же. Часто я слышал красивое, певучее слово (так мне тогда казалось) "радиация". Все ее боялись, хотя никто не мог мне ее показать. Позже еще одно слово врезалось мне в память: "эва-

куация". Это слово мне не понравилось сразу. Во-первых, оно напоминало кваканье лягушки, а во-вторых, мне объяснили, что это, когда все уезжают куда-нибудь. А мне никуда уезжать не хотелось. Но эти самые эвакуация с радиацией и впрямь были страшные, потому что скоро моих друзей совсем не стало. Во дворе было пусто и скучно. Играть в песке мама не разрешала — радиация. Руки мыли по многу раз в день — радиация. Ни к цветку, ни к травке не дотронься — опять радиация! Со стен и с пола сняли все ковры — радиация. Пол не успевал просыхать от мытья. Часто приходил какой-то дядя с приборами. Что он там у нас измерял — я тогда, конечно, не понимал. Мне было интересно наблюдать за его действиями, но лицо мамы после его ухода становилось грустным. К тому же стал болеть маленький Артем. Врачи разводили руками и почему-то шепотом, наверное, тоже от страха, говорили: "Радиация..." Маме запрещали кормить малыша грудью. И нам стали присылать из Ленинграда молочные смеси, так как у коров молоко тоже нельзя было брать — коровы, как и люди, страдали от этой проклятой радиации.



*Мал. Паўла ШЧУКІНА, г. Мінск*

А солнце грело вовсю. Шелестели листья на деревьях, ярко цвели цветы. Но было как-то тихо и пусто на улицах нашего Черикова, где мы тогда жили.

Мама тоже стала очень плохо себя чувствовать. А папе пришлось уехать в Горки на экзаменационную сессию в сельскохозяйственной академии. И хотя он сопротивлялся, мама его все равно отправила. Настал и мой черед вспомнить это противное слово "эвакуация". Всех детей, оставшихся в городе, собрали в детский садик пригородной деревни Речица брать кровь из вены. Нам было так страшно!.. Дети плакали от страха больше, чем от боли. Мамы кричали вместе с нами. Я только просил, чтобы маленького Артюшу, которому всего три недели, не кололи таким большим шприцем в малюсенькую ручку. Все это до сих пор стоит перед глазами...

А потом, когда результаты анализов стали известны, мама начала уговаривать меня, чтобы я поехал к тете в Климовичи. Говорила, что радиация туда не добежит. Мне ужасно не хотелось ехать. Не хотел оставлять маму, братика. Но мама так просила меня, так плакала, что я не выдержал и согласился. Через несколько дней за мной приехала тетя... Она хорошая. Я ее очень люблю. Я жил у нее и ходил в детский садик. Но очень скучал по дому. Кстати, под Климовичами тоже оказалась радиация.

Шло время... Мама куда-то ездила. Как потом я узнал, искала место для переезда из Черикова. Но нас оттуда не отпускали. И только через три года мы смогли, оставив квартиру, мебель, а самое главное — любимых моих друзей, переехать в Осиповичи.

Сейчас у нас есть своя квартира, братик ходит уже во второй класс, есть друзья, однако я очень скучаю по любимому городу своего детства.

Во сне я часто вижу Ильюшу Тихонова, Юру-соседа, Люду и Валю Цыбулька.

Мне очень хочется, чтобы скорее прошла радиация и я смог вернуться в свой город на улицу Рокоссовского...

*Аляксей ХІЛЬКО,*
*вучань 8-га класа*
*Жыліцкай СШ Кіраўскага раёна*



# Хачу вырошчваць хлеб

Бяда, як драпежная птушка, распасцерла крылы і глядзіць на нашу зямлю, цікуючы чарговую ахвяру. Да апошняга часу я толькі чытаў, глядзеў па тэлебачанні, слухаў сумныя аповеды маці, бабулі, настаўнікаў пра чарнобыльскую навалу.

Наша вёска Жылічы вельмі прыгожая. Тут знаходзіцца былы маёнтак пана Булгака — помнік архітэктуры XVII стагоддзя. Прыгожыя алеі магутных ліп, волатаў-дубоў, чарадзеяў-клёнаў акружаюць Жылічы. А далей шумяць сваёй ґрапяткой лістотай саўгасныя сады. Увесну бела-ружовая кіпень садоў разлівае свой асаблівы водар і дорыць асалоду людзям. Улетку тут яшчэ прыгажэй. У нас працякае маленькая рачулка Добасна. Вельмі люблю купацца ў яе халодных хвалях, загараць, гуляць з сябрамі. Асабліва хараша ў нас на свята Івана Купалы. На лузе паляць вялікія кастры, дзяўчаты пускаюць вянкі на ваду, граюць гармонікі, жанчыны спяваюць задушэўныя песні.

У мяне ёсць тата, мама, браты і сястрычкі. Я вельмі шкадую іх. Самая меншая сястрычка Лена нарадзілася ўлетку 1993 года. Яна была такая прыгожанькая, наша маленькая

Леначка. Я гуляў з ёю, дапамагаў маці глядзець яе. Яна памерла, калі ёй было ўсяго пяць месяцаў.

Нас у бацькоў засталося пяцёра. Цяпер і ў нашай сям'і пасялілася гора. Яно застыла ў сур'ёзных вачах бацькі, старэйшых братоў. Мне так цяжка глядзець, як сумуе маці. Як хавае ад нас свае заплаканыя вочы. Мама ласкавая, добрая, працавітая. Раней яна была вясёлай, жартавала з намі, брала з сабой на працу — улетку палолі буракі, моркву.

Я ведаю, у гэтым нашым горы вінаваты Чарнобыль. У нашай Леначкі быў ацёк мозгу — так сказалі маме ў Бабруйскай бальніцы, куды малую забрала "хуткая дапамога".

Мы пасадзілі на яе магілцы маленькую елачку, часта ходзім да яе, расказваем, як вучымся, як сумуем па ёй.

А нядаўна ў нашай школе праводзілі медыцынскі агляд. Мяне абследавалі і сказалі, што хворая шчытападобная залоза. Накіравалі на далейшае абследаванне ў Магілёўскую бальніцу. Там пацвердзілася мая хвароба: захворванне 2-й ступені. А ў маіх сяброў ёсць і 3-й ступені.

У мяне часта баліць галава, пагоршыўся зрок, я стаў насіць акуляры. Нам сказалі, што ад радыяцыі трэба есці арэхі, апельсіны, патрэбна чыстае харчаванне. Два гады таму назад наш клас ездзіў у Крым. Мне вельмі там спадабалася. Цяпер нас не адпраўляюць, гавораць: няма пуцёвак.

Я разумею ўсе цяжкасці, але не магу зразумець адно: чаму болей за ўсіх пакутуем мы, дзеці. Я хачу жыць і мяркую пасля заканчэння дзевяці класаў паступіць у наш саўгас-тэхнікум, дзе паспяхова вучацца два мае старэйшыя браты. Хачу звязаць свой лёс з зямлёй: быць аграномам. Хачу лячыць яе, вырошчваць хлеб. Мару быць патрэбным людзям, жыць, працаваць на карысць сваёй шматпакутнай Айчыны.



*Ирина БОГДАНОВА,*
*ученица 11-го класса*
*Крупской СШ N2*



# Умирая, выжить!

*Придет время, когда вы подумаете, что все кончено. Вот это и будет началом.*

*Луи ЛАМУР*

Когда люди переживают какое-то горе, болезнь или что-то еще, они сами меняются. И, пройдя через все это, уже никогда не будут такими, как прежде...

Я помню, как мы с подружкой ходили за подснежниками. Кругом птицы поют, а под ногами — ковер из цветов. Они такие нежные, пахнут свежестью, собираешь их и хочется петь от счастья. Это было так давно, что кажется неправдой. А теперь на том месте не растут подснежники.

За нашим домом, в скворечниках, жили целые семьи белок. Однажды бельчонок выпал из своего домика, но не разбился. Я подобрала его, сделала соску из пипетки, бутылочку из ампулы из-под лекарства и кормила его манной кашей. Спал он в большой рукавице. Бельчонок выжил и начал есть сам. Бывало, возьмет печенье, обгрызет его так, что оно станет круглым, сядет на подоконник и держит в лапках такое маленькое "солнышко". Когда он вырос, мы выпустили его в лес...

Очень часто ходили в лес за грибами. Их было столько, что иногда даже не помещались в корзину. Но больше всех мне запомнились подосиновики, мухоморы и цветные сыроежки. А сейчас лес без них выглядит не цветным, а черно-белым.

Может, это еще и оттого, что было много пожаров. Деревья и травы обуглились. Они выстояли, но все-таки одеревенели. Когда входишь в этот неживой лес, сердце сжимается от боли.

Мне порой кажется, что все это случилось со мной. Я много раз умирала, чтобы снова выжить. Кость превращается в мягкую ткань, похожую на губку с шипами, заставляя каждый шаг отдаваться нестерпимой болью. И это невозможно остановить и исправить. Но я не верю, что это конец, что все это может кончиться, как детство и подснежники.

Нет, это невозможно!

Только из-за одного того, что я очень люблю жизнь...

*P.S. Поздней весной воздух напоен такими ароматами, какие могут быть только на Земле. И ты чувствуешь душой: что-то должно начаться. А ранней осенью, вместе с паутинкой, в воздухе висит сама грусть, и ты понимаешь, что все уже кончилось, так и не успев начаться...*



*Мал. Дзімы ХАДОРКІНА, г. Мінск*

*Вольга ПУЗЯНКОВА,*
*вучаніца 8-га класа*
*Краснапольскай н/с школы*

# Успамінаю сябе шасцігадовай

Гэты дзень у красавіку быў такі цёплы, што здавалася, быццам ужо лета. У размове маці з татам я ўпершыню пачула слова "Чарнобыль". Бацькі былі вельмі ўсхваляваныя. На вуліцы, памятаю, я заўважыла незвычайнае: пасля высыхання лужын заставаўся зялёна-жоўты з белым налёт. Дарослыя казалі: "Радыяцыя".

Цяпер я вучуся ў восьмым класе і ўвесь час зноў і зноў чую: "Чарнобыль, чарнобыльская аварыя, чарнобыльская бяда". Маё жыццё, як і жыццё аднакласнікаў, змянілася, напэўна, назаўсёды. А ў нашай сям'і здарылася вялікае гора: зусім маладым памёр мой тата. У гэтай смерці вінавата радыяцыя. Яна, праклятая, кладзе аднаго за адным маіх сваякоў, знаёмых і незнаёмых у магілу. А многія мае аднагодкі адчуваюць сябе кепска. Мы толькі-толькі пачалі пазнаваць жыццё. А што будзе з намі далей? На гэтае пытанне я не знаходжу адказу:

...Маўчыць, нібы камень, зямля,
Палын невядомасцю свеціць...
Што будзе, што будзе пасля? —
Не скажа ніхто ў гэтым свеце.

Калі я размаўляю з дарослымі, адчуваю іх гора і радасці, іх сумненні і боль, іх імкненне да жыцця. Магчыма, што гэтае імкненне і прымусіла больш як пяць тысяч чалавек выехаць з нашага раёна ў чыстыя мясціны. А што будзе з тымі, хто застаўся?



*Мал. Гены БОГАЧА, г. Мінск*

Я часта выязджаю на аздараўленне. Там чыстае паветра, смачная ежа, цудоўная прырода. Але ў сваіх думках, асабліва па вечарах, калі застаюся адна, я ўспамінаю маці, брата, бабулю, дзядулю, сваіх сяброў, землякоў, і мне вельмі хочацца, каб яны жылі так, як раней, калі я была маленькай. Я мару аб тым, каб людзі хадзілі ў лес па грыбы і ягады, каб вясною пілі смачны бярозавы сок, каб не баяліся паляжаць на траве і пакупацца ў рэчцы, а былі жыццярадаснымі і здаровымі! І мяне заўсёды цягне дадому, у свае родныя мясціны, якія ніколі не забуду.

Веру, што Беларусь будзе самай прыгожай, самай экалагічна чыстай краінай.

О, Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш!

*Вадзім ЦІХАНАЎ,*
*вучань 11-га класа*
*Градзянецкай СШ Асіповіцкага раёна*

# Кажуць, людзі падобныя на птушак...

Вось так і чарнобыльцы, быццам патрывожаныя птушкі, разляцеліся па ўсім белым свеце ад сваіх ужо наседжаных, але разбураных Чарнобылем гнёздаў.

Да чарнобыльскай бяды я жыў у вёсцы Сабалі Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці. Наша вёска невялікая, ды вельмі маляўнічая, — раскінулася на берагах ракі Покаць, якая нясе сваю вольную плынь да старога Сожа. Як добра было летам купацца тут, лавіць рыбу ў ціхіх затоках. А вясною наша такая спакойная на выгляд рэчка нібы "выходзіла з сябе": залівала ўсе бліжэйшыя лугі, агароды, гнала вялікія крыгі і нават некалькі разоў ламала мост. Але паводка праходзіла, і ўсё вярталася ў рэчышча. І так з году ў год нішто не мяняла звыклых законаў прыроды...

Навокал вёскі на многа кіламетраў прасціраюцца лясы. Шмат было ў іх, ды і зараз, мабыць, ёсць, ягад, грыбоў, розных жывёлін і птушак.

У кожнага чалавека, на маю думку, павінен быць любы сэрцу куточак, любімая мясцінка, да якой чалавек нібы прырастае душою, да якой яго цягне нейкая неадольная сіла з любога месца ў свеце. Такая мясцінка можа быць толькі на радзіме. Вось і ў мяне была такая мясцінка. Тут, на кургане па-за хатаю, рос вялізны дуплаваты трохсотгадовы дуб. З ім звязана шмат успамінаў. Пад дубам заўсёды збіраліся дзеці з добрае паловы вёскі, каб пагуляць у вайну

або ў хованкі ці пагушкацца на арэлях. Усім было весела і добра.

Але прыйшоў трагічна вядомы тысяча дзевяцьсот восемдзесят шосты год. Красавік. Памятаю, мы былі ў школе, на ўроку праводзілася інфармацыя. Я гаварыў свае навіны і так, між іншым, сказаў, што ўзарваўся чацвёрты ядзерны блок Чарнобыльскай АЭС. Тады настаўніца паказала мне на новую вучаніцу, якая з'явілася ў класе і якую я нават адразу і не прыкмеціў. Гэта была першая ахвяра Чарнобыля, якую я бачыў і якую запомніў на ўсё жыццё. Відаць, дзяўчынка была аднекуль з-пад Чарнобыля, калі іх так хутка эвакуіравалі. Нам жа, ды і дарослым нічога не гаварылі аб выніках і наступствах для нас гэтай аварыі, таму спачатку ўсё ішло, як і да гэтага, быццам нічога не адбылося. Але паступова сталі прасочвацца трывожныя чуткі. І ўсё часцей прыязджалі і прылятлі на верталётах вайскоўцы і людзі цывільныя — усё мацалі, мералі, мералі...

Нам забаранілі хадзіць у лес, на рэчку, якая чамусьці абмялела, а галоўнае забаранілі гуляць у нашым любімым месцы — пад дубам, дзе так хораша было ў любую пару года. Са школы мы цяпер амаль не выходзілі. Знаходзіліся ў ёй па дзесяць—адзінаццаць гадзін у суткі. Харчаваліся ў школьнай сталовай тры разы.

У першы ж дзень летніх канікулаў усіх дзяцей раёна сабралі ў Краснаполлі, пасадзілі ў аўтобусы — набралася іх аж семнаццаць — і накіравалі ў летні лагер пад Мінскам. Паперадзе калоны ехалі міліцыя з уключанай сірэнай і "хуткая дапамога". Жанчыны галасілі, як у вайну. Гэта ж страшнае слова "эвакуацыя".

Дома мы былі толькі зімою і вясною. Летам і восенню часцей за ўсё знаходзіліся ў санаторыях на Чорным моры, і не толькі. Па два месяцы мы разам з такімі ж, як і самі, дзецьмі адпачывалі і вучыліся ў Анапе і Еўпаторыі. І ўсюды да чарнобыльскіх дзяцей адносіліся з жалем і дабрынёй. Пасля такога працяглага адпачынку мы нават пачалі забы-

ваць пра тое, што робіцца ў нас на Бацькаўшчыне. Але надыходзіў час вяртацца, і ўсё пачыналася спачатку.

Паступова людзі сталі знімацца сем'ямі, ехалі ў іншыя месцы, шукалі лепшай долі. Кідалі свае хаты, свой няхітры скарб і накіроўваліся далей ад Чарнобыля, ад нябачнай і нячутнай раней радыяцыі. Па ўсім свеце раскідаў Чарнобыль нашых людзей. Мая бабуля, што жыла з намі ў адной вёсцы, апынулася аж у Карэліі. Але і яна, хоць і пражыла там ужо амаль шэсць гадоў, кожную вясну на Радаўніцу стараецца патрапіць на Бацькаўшчыну і схадзіць на могілкі.

Аднак не ўсе людзі пагадзіліся кінуць абжытыя мясціны і паехаць невядома куды. Многія засталіся. А хто застаўся, той мяняў хаты, як пальчаткі. Балазе выбар быў вялікі. З'явіліся і марадзёры.

Вось так і жылі мы чатыры гады, якія здаліся нам стагоддзем.

Але ж заставацца на месцы не было як. Амаль усе людзі з вёскі выехалі, за выключэннем некалькіх сем'яў. У школе таксама вучылася, можа, вучняў трыццаць. І таму не дзіўна, што і мае бацькі сталі шукаць новае месца жыхарства. Аб'ездзілі яны ўсю Беларусь ад Гродна і Брэста да Віцебска. Пабылі ў розных і прыгожых, і добрых у матэрыяльных адносінах месцах, але спыніліся ўсё ж бліжэй да роднага кутка — у вёсцы Пагарэлае Асіповіцкага раёна. Тут я пайшоў у сёмы клас, бацька стаў дырэктарам школы, а маці настаўніцай. З'явіліся новыя сябры, новыя настаўнікі. Можна сказаць, пачалося новае жыццё, але ўсё ж засталася ў душы незагойная рана, нейкая журба па тым, што было на радзіме.

Я думаю, што тысячы людзей, чый лёс крута змяніў Чарнобыль і вымусіў пакінуць Бацькаўшчыну, будуць заўсёды памятаць родную вёску, свой дуб і сваё жыццё да гэтай вялікай скрухі. Не забудуць чарнобыльцы сардэчнага болю, не забывайце і вы, людзі, пра іх. Няхай вас абміне падобнае ліха!

*Кірыла КРЫВАНОС,*
*вучань 10-га класа*
*Нясяцкай СШ Клічаўскага раёна*



# Чарнобыль у мяне ў крыві

У класе ідзе ўрок фізікі. Тэма ўрока: "Біялагічнае дзеянне радыеактыўных выпраменьванняў". Гучаць словы: "радыяцыя", "доза выпраменьвання", "ізатопы", "кюры", "цэзій", "стронцый", "радыяцыйная зона бяды", "Чарнобыль". Я чытаю радкі з падручніка: "Жывая клетка — гэта складаны механізм, не здольны працягваць нармальную дзейнасць нават пры малых пашкоджаннях асобных яго ўчасткаў. Між тым нават слабыя выпраменьванні здольныя нанесці клеткам істотныя пашкоджанні і выклікаць небяспечныя захворванні. Пры вялікай інтэнсіўнасці выпраменьвання жывыя арганізмы гінуць. Небяспека выпраменьванняў павялічваецца ад таго, што яны не выклікаюць ніякіх адчуванняў болю нават пры смяротных дозах".

Я засяроджваюся на тым, што ўсе гэтыя словы, паняцці мне ўжо вядомы. І даўно вядомы. Яшчэ з дзяцінства яны неасэнсавана ўвайшлі ў маю свядомасць, запалі ў памяць, закранулі кожную клетку маёй дзіцячай душы. Я ведаю, што радыяцыя, якую нельга бачыць, мае небяспечную, д'ябальскую сілу. Што яна — страшэнная і магутная сіла, здольная перакрэсліць

усё адным махам у жыцці маёй Радзімы, маіх родных і блізкіх людзей.

Зараз на ўроку фізікі я яшчэ раз пераконваюся ў тым, што ўсё гэта так. А вось тады, у чэрвені тысяча дзевяцьсот восемдзесят шостага года, мне багата чаго было незразумелым. Ды і не мог я ўсё зразумець у свае сем гадоў. Але многае засталося ў памяці назаўжды. Тады я быў у сваёй бабулі з дзядулем у вёсцы Крывяліцк на Краснапольшчыне — радзіме маёй маці. Гэта прыгожае месца знаходзіцца непадалёку ад ракі Сож. Вёску акружае лес. Растуць тут высачэзныя стромкія сосны, бярозы, елкі. Мне асабліва падабаліся сосны, роўныя, высокія, з медна-чырвоным адлівам ствалоў. Я такія дрэвы бачыў толькі на палотнах вядомых мастакоў. Лес цягнецца на некалькі кіламетраў, а за ім рассцілаецца зялёны луг з густой травой, пахучымі кветкамі. Далей віднеецца рака Сож. Мы прыязджалі сюды з дзядулем на кані. Тут сушылі сена, лавілі рыбу. Дзядуля дазваляў мне купацца каля берага.

Вёска вялікая, галоўная вуліца цягнецца амаль на паўтара кіламетра. Шмат новых прыгожых дамоў. Каля школы — скверык, непадалёк расце вярба. Тут жывуць мае дзядуля з бабуляй. У іх вялікая хата, добраўпарадкаваны дворык. За хатай — сад: яблыні, грушы, слівы, кусты парэчак і агрэсту. Пад вокнамі растуць кветкі, якія вельмі любіць бабуля. А далей — садовыя суніцы. Гэты куток вабіць больш за ўсё. Але цяпер бабуля не пускае мяне на градку, кажа, нельга есці ягады. У іх — радыяцыя. Я гляджу праз акно на градку, каб убачыць тую радыяцыю. Дзе яна, якая яна?.. Не відаць. І калі бабуля займаецца сваімі справамі на кухні, я паціху вылажу праз акно і падыходжу да градкі. А вось і ягады. Зрываю адну, аглядваюся, ірву другую, трэцюю і з задавальненнем ем смачныя сунічкі. Бабуля забірае мяне з агарода і ўсё лаецца на нечыя выдумкі, на нейкі атам...

І вось я імчуся па вуліцы ад сябрука, каб хутчэй расказаць бабулі, што да Сашкавага дома прыехалі нейкія дзядзькі з касамі і скасілі ўсю градку з суніцамі. Прашу бабулю, каб не пускала іх у наш агарод. Бабуля суцяшае мяне. Дзядзькі скасілі, згрэблі і забралі на машыну і нашы сунічкі. Я плачу, са мною плача і бабуля.

Хутка прыязджаюць мае бацькі. Яны забіраюць мяне дадому. А я не магу зразумець, чаму павінен ехаць, калі ў мяне канікулы і наперадзе столькі цікавага.

...Ужо тры гады [redacted] не быў у вёсцы. Дзядуля сам прыязджае да нас, расказвае пра сваё жыццё. Няма ўжо ў дзядулі яго любімага каня Шэрага і каровы Зоркі. Няма іградак каля хаты. Там два разы рабілі дэзактывацыю, здымалі зямлю.

Неўзабаве бабуля з дзядулем вырашылі пераехаць жыць да нас у вёску Нясята, што на Клічаўшчыне. І вось настаў гэты дзень. Вёску Крывяліцк пакідаюць апошнія жыхары. Ужо сабраны невялікія рэчы штодзённага ўжытку, якія можна забраць з сабою. У хату прыйшлі сваякі. Яны ўсе паедуць у Дрыбінскі раён Магілёўскай вобласці.

Колькі гора, роспачы ў словах маіх родных, колькі слёз! Ходзіць і плача па апусцелай хаце бабуля. Здаецца, ніяк не можа зразумець усё да канца мой дзядуля, які ваяваў у час Вялікай Айчыннай вайны і мае ўзнагароды за мужнасць. Дзе ж той вораг, ад якога трэба ўцякаць?

— Навошта ж адсюль ехаць? — разгублена пытаецца ён.

Амаль у непрытомнасці саджаем у машыну бабулю. Развітваюцца родныя і знаёмыя. Наперадзе ў нас шлях па такіх жа апусцелых назаўсёды вёсках. Роўная асфальтаваная дарога бяжыць сярод палёў, паабапал застаюцца стромкія сосны, бярозы, кустоўе вербалоззя. Зусім няма стрэчных машын.

Вось мы пад'язджаем да вялікай вёскі Наваельня. Яшчэ нядаўна прыгожыя хаты глядзяць на нас пустымі вокнамі. Школа, гандлёвы цэнтр, аптэка, бальніца... Робіцца жудасна. Тут няма ніводнага жывога чалавека.

На вуліцах буяюць піжма, крапіва, палын. Мабыць, зямля аддала сваё багацце гэтай горкай траве. Аж да самых Чавусаў мы не сустрэлі на палетках і сенажацях ніводнага статка жывёлы, як раней. Ніхто не спяшаўся ў лес, хоць быў канец верасня. Жудасная цішыня, нават птушак і тых не чуваць. Відаць, і яны кудысьці перасяліліся.

...Вось ужо тры гады жывуць разам з намі бабуля з дзядулем. Самыя частыя словы ў іх гаворцы: "А вось у нас там..." Цяжка старым змірыцца з гэтакім лёсам.

Чарнобыль насоўваецца сваім крылом на кожнага з нас. На Магілёўшчыне ўжо няма кутка, які б не закранула гэта бяда. Клічаўшчына лічыцца адносна чыстай зонай, але толькі адносна. Тутэйшая зямля таксама з "чорнымі плямамі". Мне здаецца, што

Чарнобыль у мяне ў крыві
ў прамым і пераносным сэнсе.

У пачатку 1991 года ў нашай школе была брыгада ўрачоў з Міністэрства аховы здароўя рэспублікі. Яны праводзілі медыцынскі агляд дзяцей. У многіх вучняў павялічана шчытападобная залоза. Выявілі гэту хваробу і ў мяне. Я прайшоў лячэнне ў Клічаўскай паліклініцы. А летам праз фонд "Дзецям Чарнобыля" атрымаў пуцёўку ў піянерскі лагер "Арляня", каля курортнага горада Туапсе на беразе Чорнага мора. Сорак дзён разам з хлопчыкамі і дзяўчынкамі з Клічаўскага раёна і іншых мясцін Беларусі я адпачываў у гэтым лагеры. Самаадчуванне і настрой былі добрымі. Але ж болем сціскаецца сэрца, калі думаю аб чарнобыльскай бядзе Радзімы, аб людзях, якія пакутуюць ад гэтай бяды. Што чакае нас у будучым? Нас, сягонняшніх пятнаццацішаснаццацігадовых? І душа мая крычыць, крычыць ад болю і роспачы. Трэба зрабіць усё для таго, каб не канчалася жыццё на гэтай зямлі, каб зноў ажылі гарады і вёскі ў радыяцыйнай зоне.

...Вось пра што думалася мне на ўроку фізікі.

*Ігар МАРОЗ,*
*вучань 11-га класа*
*СШ N4 г.Шклова*



# Снегавік растаў ад нашых слёз

Тады яшчэ ніхто не ведаў, што самае забруджанае месца ў бабулінай Малінаўцы — старасвецкая груша-дзічка. Мала хто памятае, колькі ёй гадоў. І расла яна акурат на бабуліных сотках.

Тым летам ніхто з малінаўцаў не ведаў пра страшную радыяцыю, якая "пасялілася" ў іх вёсцы, ніхто не здагадваўся пра смяротную атруту, што выпраменьвала старое каржакаватае дрэва. Яно зацяняла амаль трэцюю частку агарода. І колькі разоў аднавяскоўцы раілі бабулі спілаваць грушу, але старая адмахвалася, казала: нельга гэтага рабіць, бо даўным-даўно тут пралілася кроў беднай дзяўчыны.

Легенду аб жудаснай смерці панскай нявольніцы ведалі многія, але не ўсе верылі ёй. Бабуля ж верыла. Гэтае дзівоснае дрэва было для яе святым.

Любіла грушу і мая стрыечная сястра Надзейка. У тое лета дзяўчынка прыехала на канікулы да бабулі. У горадзе горача і самотна. А ў бабулінай Малінаўцы такая прыгажосць! Усё лета Надзейка дапамагала бабулі ў полі і на агародзе. Хадзіла ў лес па грыбы і ягады, загарала і купалася...

Нейкі начальнік прыязджаў з раёна і сказаў: "Зямля, паветра і вада ў вёсцы "чыстыя". Жывіце спакойна, людзі". І яны жылі.

Пад сваёй любімай грушай Надзейка пісала пейзажы — яна займалася ў школе мастацтваў, марыла. У тое лета мая сястра стала сапраўднай красуняй. Ёй споўнілася пятнаццаць гадоў. Дзяўчынка пачала весці дзённік. Запісвала ў яго свае патаемныя думкі. Гэты дзённік пасля пройдзе з ёй праз усе пакуты анкалагічнай бальніцы. Мяне ўразілі апошнія запісы ў ім. Усяго дзесяць дзён, апошніх дзён у жыцці чалавека. Колькі ў іх надзеі, прагі да жыцця і чалавечай годнасці! Колькі ў іх трагедыі і вялікай біды!

**1 сакавіка**

Хлопцы з дванаццатай палаты павіншавалі мяне і маіх сяброўак па няшчасці з вясной. Зрабілі снегавіка і на вялікім падносе прынеслі ў нашу палату. Снегавік атрымаўся цудоўны. Я ведаю, хто яго ляпіў. Безумоўна, гэта Толік. Ён марыць стаць скульптарам, лепіць фігуркі з гліны. Толькі сёння яму дазволілі ўставаць пасля хіміятэрапіі. І ён стараецца падняць усім настрой — вясны ж дачакаліся! Каля снегавіка ляжала запіска: "З апошнім снегам вас, дзяўчаты!".

"Чаму з апошнім? Няўжо апошнім?" — плачучы, пыталіся дзяўчаты адна ў адной.

Снегавік растаў. Ад нашых слёз, так мне здаецца.

**2 сакавіка**

Сёння прыязджала бабуля. Мілая, дарагая мая бабуля! Яна адчувае сябе вінаватай за маё здароўе. Папрасіла яе, каб расказала мне легенду пра Марыліну грушу, пад якой я любіла марыць і якая пасля аказалася маленькім рэактарам.

Я слухаю бабулю, запамінаю ў ёй усё да драбніц, каб пасля намаляваць яе партрэт.

Бабуля распавядае ціха, і на душы робіцца так спакойна.

"Даўным-даўно, яшчэ пры паншчыне, пакахаў бедную, ды прыгожую дзяўчыну багаты князь. Сілай прывёў яе ў свой палац. Але Марылька, так яе клікалі, плакала ды сумавала ў панскіх пакоях.

Аднойчы збегла гаротніца з панскім ключнікам. Дагналі іх гайдукі ў чыстым полі. І закрычаў люты пан: "Калі не хочаш быць маёй, дык не будзеш нічыёй!". І сакануў шабляй, і паваліласся няшчасная бяглянка. На тым месцы, дзе пралілася Марыліна кроў, кажуць людзі, вырасла прыгожая грушадзічка. Вось чаму я яе берагла... Але цяпер, Надзейка, ужо няма нашай грушкі. Прыехаў нейкі дзіўны кран і вырваў яе з каранямі. А месца тое растворам залілі ды нейкі знак паставілі. З вёскі нашай амаль усе з'ехалі. Пустая стала Малінаўка, мёртвая".

Пры развітанні з бабуляй я так хацела яе папрасіць: "Калі памру, не хавайце мяне на могілках, я іх так баюся. Лепш — у полі ці ў бярозавым гаі... І пасадзіце дрэўца: грушку альбо яблыньку...". Не! Не хачу быць дрэвам, травінкай!.. Я павінна жыць! Я буду жыць! У мяне хопіць сіл перамагчы страшную хваробу, я адчуваю гэта!

**3 сакавіка**

Я змагаюся як магу. Скончыла партрэт бабулі. Калі ўбачыла мама, аж расчулілася: "Дачушка мая, якая ты ў мяне таленавітая!". Мой доктар Таццяна Іванаўна кажа, што я вельмі мужная і што лячэнне ідзе паспяхова. Я акрыленая. Божухна, малю цябе, прашу: дай мне сілы выстаяць!

**4 сакавіка**

Калі я папраўляюся, то чаму мяне так ванітуе, чаму палата раптам пачынае гушкацца?..

Пішу пасля таго, як знялі кропельніцу. Стала крыху лепей. На мяне сумнымі вачыма глядзяць сяброўкі па палаце Галя, Віка і Дзіна. Яны спачуваюць мне, бо самі перажывалі такое. Канечне, хацелася б, каб на такія нечалавечыя пакуты ніхто не глядзеў, але што зробіш... Аддзяленне перапоўнена. Таццяна Іванаўна казала, што яшчэ тры гады таму бальніца была амаль пустая. Чарнобыльская трагедыя натварыла. Сабраць бы вінаватых у гэтай бядзе і правесці па нашай бальніцы! Каб паглядзелі на вынік сваёй работы.

Пачала чытаць Ахматаву. З'явілася жаданне напісаць карціну "Я жыву апошні раз".

**5 сакавіка**

Памёр Ванечка з дзесятай палаты. Беленькі хлапчук з вялікімі блакітнымі вачыма, любімец нашага аддзялення. Ванечку было ўсяго сем гадоў. Раней ён лячыўся ў Германіі. Яшчэ заўчора хлапчук частаваў усіх цукеркамі на свой дзень нараджэння, прымаў віншаванні і быў такім вясёлым...

Божа, чаму ты не літасцівы да ўсіх нас? Ванечку... за што?!

**6 сакавіка**

Я ўмею трываць любы боль. Гэтаму мяне навучыла мама. І наогул, каб я магла, то каля ўвахода ў бальніцу паставіла б помнік Маці. Яны самі трываюць і вучаць трымацца нас. Я бачыла, як цярпеў пяцігадовы Вовачка. Пакуль маці бегала па доктара, пакуль яму зрабілі болесуцішальны ўкол, ён пагрыз свае маленькія пальчыкі, але ні разу не закрычаў і не заплакаў.

Што будзе з гэтым хлопчыкам далей, што будзе з усімі намі?

Чарнобыльская катастрофа з ліку тых, якія не паддаюцца звычайнаму асэнсаванню. Гэта нешта такое, што прымушае жахнуцца і зняверыцца ў разумнасці нашага зямнога існавання.

**7 сакавіка**

Прывезлі гуманітарную дапамогу з Даніі. У палату ўвайшла жанчына з пышнымі бялявымі валасамі — прыгожая і мілая. Прысела каля мяне. Гладзіла па галаве, а ў вачах былі слёзы. Перакладчыца сказала, што некалькі гадоў назад у аўтамабільнай катастрофе загінула яе адзіная дачка. Замежная госця зняла свой ланцужок з крыжыкам і надзела мне на шыю. Я падумала, як падобны ўсе маці Зямлі ў сваёй любві да дзяцей!

**8 сакавіка**

Свята... На стале — апельсіны і бананы, галінка мімозы і прыгожая паштоўка са словамі:

Если желания что-нибудь значат —
Мы желаем большой удачи.
Чтобы солнце тебе светило,
Чтобы сердце твое любило.
Чтобы все невзгоды и беды
Обернулись в твои победы!

У нас не прынята жадаць здароўя і шчасця. Толькі перамог. Пераможаш страшную хваробу — і шчасце заўсёды будзе з табою.

У актавай зале бальніцы быў вечар, прысвечаны Дню жанчын. Я нават танцавала з Толікам. Але нядоўга, бо закружылася галава. Дзяўчаты сказалі, што мы былі самай прыгожай парай.

**9 сакавіка**

Казка скончылася. Мне зноў кепска. Так яшчэ ніколі не было. З самай раніцы ванітуе, спазмы не перапыняюцца, а лекі ўжо не дапамагаюць. Аднак самае страшнае — мае валасы. Яны выпадаюць цэлымі пасмамі і ўсё цякуць і цякуць з галавы.

На абходзе Таццяна Іванаўна сказала, што поўны курс лячэння я ўжо прайшла. І цяпер мне трэба толькі набрацца сіл дома. Але я бачыла яе вочы... І я ўсё зразумела. Я зразумела: гэта — усё!

**10 сакавіка**

Мама прывезла маю любімую сукенку. Я ў ёй такая прыгожая!

Ледзь трымалася на нагах, але з усімі ў аддзяленні развіталася. Бывайце, людзі! Помніце мяне.

...Надзейка памерла ў канцы сакавіка. Апошняе слова ў яе дзённіку было лацінскае "Vixi" (Пражыта). Што яна паспела ў сваім жыцці? Што пакінула? Некалькі пейзажаў, сюжэтных карцін, партрэтаў. Ды яшчэ светлы след на зямлі.

Чарнобыль зараз стаў часткай нашага светаадчування, светаразумення. Ён прымусіў зняверыцца ў рупнасці Чалавека на Зямлі.

Хіба не адчуваецца, што мы страчваем? У небяспецы само дрэва жыцця. Дзе ж яго генафонд? Я растлумачу: генафонд для мяне — гэта Надзейка, маленькія Ванечка, Вовачка і тысячы іншых немаўлят, што кусаюць ад страшнага болю свае маленькія пальчыкі. Пачуйце ж, урэшце, іх крык, людзі! Прыйдзіце на дапамогу! Не Бог і не д'ябал — толькі чалавечы розум і добрае сэрца могуць выратаваць хворую, спакутаваную зямлю. Толькі ўсе мы разам зможам перамагчы страшную бяду.



*Мал. Сярожы АНУШКІ, г. Мінск*

*Алег ПАНАМАРОЎ,*
*вучань 7-га класа*
*гімназіі N1, г. Горкі*



# Зорка Венера над чорнаю хмарай

Я жыву ў невялікім зялёным і ўтульным гарадку Горкі, на ўсходзе Магілёўшчыны. І хоць мой куток не вельмі закранула чарнобыльская трагедыя, аднак я ведаю, што яна прынесла ўсім беларусам. Мне было чатыры гады, калі ўзарвалася атамная станцыя і пасеяла гора на Беларусі. Няшчасце і боль пацярпеўшых я пачаў разумець крыху пазней, калі пайшоў у школу, навучыўся чытаць і пісаць, спяваць песні. Мой дзядуля паказваў мне карту забруджаных радыяцыяй раёнаў нашай вобласці і казаў, што адтуль выехалі тысячы людзей разам з дзецьмі.

У нашай гімназіі вучыцца дзяўчынка Алеся Барысенка. Яна разам з бацькамі жыла ў гарадскім пасёлку Камарын Брагінскага раёна за 32 кіламетры ад Чарнобыльскай станцыі. Калі адбыўся выбух, расказвала Алеся, яны з сястрычкай гулялі на вуліцы. Радыяцыя пайшла ў бок Беларусі і легла на іх пасёлак. Алесіна маці адразу пачала збіраць дзяўчынак у дарогу. І ў той самы дзень маленькіх дзяўчынак павезлі да бабулі ў Горкі, у чыстую зону — далей ад бяды, далей ад смерці. Ім пашанцавала. А сама маці вярнулася назад у Камарын, у чарнобыльскае пекла, да

станцыі, якая сеяла радыяцыю, а з ёй невылечныя хваробы і смерць.

Алеся з сястрычкай жылі ў бабулі, але часта ўспаміналі маму і тату, пісалі пісьмы, каб хутчэй прыязджалі да іх. Алеся любіла, як маці гладзіла яе па галоўцы, люляла на руках і неяк ціха, аднымі вуснамі ўсміхалася. Пасля аварыі на станцыі мама стала ўсміхацца ўсё меней, а цяпер Алеся амаль зусім яе не бачыць. Збалелася дзіцячае сэрца.

Роўна год прабылі Алесіны бацькі ў чарнобыльскай зоне, а потым вырашылі адтуль з'ехаць у свет. У Грузіі жыла матчына сястра, і яны ўсёй сям'ёй паехалі туды. І зноў нібы святло вярнулася да іх, стала радасней жыць. Але так было нядоўга, бо новае гора насунулася чорнай хмарай. У Грузіі пачалася вайна. Сталі страляць, забіваць людзей, у тым ліку дзяцей. Усе жылі ў страху, слязах, баяліся выйсці на вуліцу. Алесіны тата і мама доўга такога вытрываць не маглі — сабраліся і прыехалі ў Горкі да бабулі. Тата ўладкаваўся на работу ў прыгарадны саўгас, яму далі пакой у інтэрнаце. Вось так і жывуць зараз гэтыя пакутныя людзі. Колькі яны нацярпеліся ў жыцці, а колькі перанеслі іх дзеці! Страцілі ўсё: дом, здароўе. Ды і цяпер, калі і хто дасць ім нармальнае жыццё?

Як аблегчыць пакуты гаротных людзей, як запаліць для іх хоць маленькую іскрынку святла? А можа, песня дапаможа ім хоць на хвіліначку забыцца на бяду. Аб гэтым мне думаецца, калі выходжу на сцэну і спяваю свае песні.

Як расказвае мая матуля, я стаў спяваць у паўтара года, калі нават яшчэ не ўмеў нармальна размаўляць. Потым у дзіцячым садку я ўдзельнічаў ва ўсіх ранішніках, дзе спявалі. Пасля паступіў у музычную школу. Мой выкладчык Аляксандр Іванавіч Башарымаў навучыў мяне спаважна адносіцца да музыкі, спеваў. Разам з ім я ездзіў на канцэрты ў Шклоў, Магілёў, Мінск, Наваполацк, Дрыбін. Прымаў удзел і ў Міжнародным конкурсе дзіцячай эстраднай песні ў горадзе Санкт-Пецярбургу, дзе адстойваў гонар нашай

Беларусі. Заняў там другое месца.

Асаблівыя ўражанні і перажыванні засталіся ў мяне пасля дабрачыннага канцэрта для дзяцей-сірат і інвалідаў, дзяцей з мнагадзетных сем'яў і перасяленцаў з чарнобыльскай зоны, які праходзіў у Мінску. Калі я спяваю, заўсёды ўкладваю ў песню ўсе свае сілы, усю душу. А тут стараўся спяваць з асаблівым пачуццём. Я бачыў гэтых дзяцей у зале і хацеў сваёй песняй прынесці ім радасць, надзею на лепшае. Я хачу, каб такіх канцэртаў было як мага больш. Абяздоленыя дзеці сэрцам дабрэюць у такія хвіліны. Акрамя таго, канцэрты збіраюць шмат грошай, якія ідуць гэтым дзецям на адзенне, ежу. Ім жа так цяжка жыць. Асабліва дзецям з чарнобыльскімі хваробамі. Як яны пакутуюць! Многіх і вылечыць немагчыма. А чаму здараюцца такія трагедыі? Хто ў іх вінаваты? Атам? Ці ўсё-такі дарослыя безадказныя людзі? Лёгка пасеяць гора на нашай зялёнай мірнай зямлі. Як жа цяжка яго сабраць назад!

Мне ўспамінаецца канцэрт на першым свяце беларускага пісьменства і друку, які праходзіў у Мінску. Там я спяваў песню "Зорка Венера". Калі скончыў, людзі вельмі доўга апладзіравалі. А калі я сышоў са сцэны, да мяне падышоў высокі сівы дзядзька і стаў ціскаць маю маленькую руку. Пры гэтым вельмі часта выціраў вочы, бо з іх капалі слёзы. Гэта быў паэт Ніл Гілевіч. Мяне ўразіла, што лірычная песня, якую мне асабліва падабаецца спяваць, выклікала ў яго такія пачуцці. Дык вось, калі я ўспамінаю той канцэрт, мне чамусьці мроіцца такая карціна: чорныя хмары, яны плывуць ад Чарнобыльскай станцыі і паступова запаланяюць усю прастору маёй роднай Беларусі. А над імі ўзыходзіць зорка Венера. І яе спагаднае, добрае святло прабіваецца праз хмары, яе промні даходзяць у кожны куток зямлі, запаўняюць сэрца кожнага чалавека. І ўсе, хто не бачыў нічога светлага і добрага з-за чарнобыльскай хмары, раптам пачынаюць распроствацца, пазіраць угору. А там няма ніякай чарнобыльскай хмары, толькі велічна гарыць у веча-

ровым небе зорка Венера. Мне вельмі і вельмі хацелася б, каб так было. Ведаю, што аб гэтым можна толькі марыць, але я зноў і зноў спяваю свае песні. А можа, ад гэтага людзям стане крышачку лягчэй і яны адыдуць ад гора.



*Мал. Іры СНЫТКО, г. Мінск*

*Наталья НЕВИННАЯ,*
*ученица 10-го класса*
*СШ N1 г.Лунинца*

# Аромат и горечь полыни

Когда-то давно мне рассказывали о Хиросиме и Нагасаки, о том, как погибал человек, а тень оставалась, как умирало в страшных муках все живое в адском огне ядерных бомб. Я понимала, что это ужасно, понимала умом, но не сердцем. Боль японских городов казалась далекой и чужой. "Хорошо, что не у нас Хиросима", — думала я. И вот случилось.

Мне было семь лет. Естественно, мы, дети, не понимали, почему нас целыми классами отправляют в пионерские лагеря, почему так перепуганы взрослые, почему плачут наши мамы. Для нас все было новым и интересным, даже письма родителей, сообщавшие о запрете есть фрукты и овощи, собирать грибы и ягоды, вызывали только удивление, но вовсе не страх. Мы еще не понимали всего значения слова "Чернобыль".

Горькой полынью покрылись цветущие прежде земли. Все изменилось в одно прекрасное утро, когда из-за чьей-то оплошности произошла авария на атомной электростанции и черные ветры понесли и посеяли по всей нашей чистой синеокой Беларуси беду и боль. Весь мир замер, потрясенный, время остановилось. Мы же ничего не знали. Опомнились слишком поздно. И тогда засуетились, начали отправлять уже облученных школьников в лагеря, переселять целые деревни.

Льготы... Вот и сейчас в школах бесплатное питание, на предприятиях — бесплатные путевки в санатории, наши

родители получают добавку к зарплате. Но разве от этого легче? Разве не продолжают падать в обморок на уроках дети, разве люди не умирают от лейкемии, разве наша щитовидная железа работает так, как и прежде?

Да, мы теперь пытаемся взяться за ум. Но как бы врачи ни старались спасти человеческие жизни, какие бы льготы ни предоставляло государство, мы все-таки отмечены печатью Чернобыля. Сколько бы мы ни уезжали в санатории, все равно возвращаемся обратно. Мы живем на этой земле, питаемся ее плодами. И тут ничего нельзя сделать. Все мы страдаем из-за роковой ошибки и еще долго будем страдать не только мы, но и наши дети, внуки и правнуки.

Это страшно. Газеты тревожат различными фактами и цифрами, говорящими о состоянии нашего организма: всевозможные мутации, белокровие, пороки щитовидки, изменения, каждую минуту происходящие внутри нас. Мы боимся за себя, за окружающих нас близких и дорогих людей.

Но есть нечто иное, пугающее не меньше. Наши исковерканные души. Вечная боль в сердце.

В такую трудную минуту мы все же не остались одни. Люди всей Земли протянули нам руку помощи. Конечно, хорошо, когда есть добрые, милосердные люди, способные понимать чужую беду. Слова утешения и сострадания они подкрепляют делами, поставляют гуманитарную помощь, необходимую аппаратуру. И мы не замечаем, что становимся баловнями судьбы, выставляя напоказ свои раны и требуя от всего мира компенсации за оплошность, которую сами допустили. Мы привыкаем к подаркам, которые приходят из других стран, и совсем отвыкаем от работы, надеясь на милость капиталистического мира.

Наше общество похоже на беспомощных птенцов, разинувших рты и ждущих мать, которая должна их накормить. Вместо того, чтобы приложить все силы к работе, залечить свои болячки и подняться на один уровень с остальными государствами, мы все глубже и глубже погружаемся в тря-

сину порока и безалаберности. И пока мы не осознаем и не поймем, что помощь — это только помощь и нельзя жить вечными паразитами на чужом теле, нельзя наживаться на своей же трагедии, то не сможем жить так, как живут цивилизованные люди. Конечно же, мы отличаемся от них. От всего мира мы словно ограждены невидимыми стенами, потому что большинство из нас носит в себе горечь полыни. Но об этом не подобает кричать на всех углах. Не в нашем характере выставлять беду напоказ. Мы живем так, словно смирились со своей участью. А это неправда. Мы не можем что-то изменить и поэтому страдаем молча. Но где-то в глубине души бьется холодное отчаяние. И когда оно берет верх, мы поднимаем глаза к небу и спрашиваем: "За что?" В ответ — молчание.

Я помню рассказ одной женщины. Она пришла домой после работы. Младший сын, совсем еще ребенок, попросил: "Мама, отвези меня в Киев на колокола посмотреть... перед смертью".

Приходит на ум изречение: "Устами младенца глаголет истина". Ведь все наше общество живет в безысходном ожидании конца — тысячи распятых на кресте Чернобыля, миллионы отравленных его дыханием.

Но это неправильно, надо жить!

И вот мы снова строим планы и надеемся на лучшее. Есть люди, которые не хотят смириться с положением обреченных: ученые, пытающиеся сделать технологии безопасными, заставить науку служить человеку, а не во вред ему; врачи, не имеющие нужной аппаратуры, однако, старающиеся спасти жизнь каждому пострадавшему. Мы должны следовать их примеру, мы обязаны очистить нашу землю ради будущего, ради наших детей.

Жизнь преподала нам жестокий урок. Каждый должен вынести из этого урока для себя что-то важное, каждый должен понять: мы — хозяева своей судьбы, мы — хозяева своей жизни и хозяева этой планеты. Надо действовать,

пока не стало слишком поздно. Пусть мучительная боль, что внутри нас, не приведет к апатии и равнодушию, а послужит стимулом. Надо жить так, чтобы никто и никогда не испытывал такой боли. Давайте постараемся не причинять вреда людям и природе на этой планете. Не надо превращать нашу прекрасную Землю в бескрайнюю, безжизненную пустыню, над которой благоухает лишь аромат и горечь полыни.



*Мал. Валі КАЛЕСНІКАВАЙ, г.Мінск*

***Наталья БАРАНОВА,***
*ученица 9-го класса*
*СШ N6 г.Светлогорска*



# Исцеление света

Реквием

**Эпиграф**

*Над могилой Земли*
*кто*
*услышит рыданья?*
*Стон*
*предсмертный ее*
*не уловят радары*
*и зайчата*
*во ржи.*
*Полыхнет*
*на прощанье*
*в пожаре*
*малиновым*
*платьицем*
*Жизнь —*
*и закатится.*

**Валерий ГРИШАНОВИЧ**
**"Стронций в капле росы"**

# ВЕСНА, КОТОРУЮ ПРИСЫПАЛО ПЕПЛОМ

***Эпиграф***

*Небо этого дня —*
*ясное,*
*Но теперь в нем броня*
*лязгает,*
*А по нашей земле*
*гул стоит,*
*И деревья в смоле —*
*грустно им.*
*Дым и пепел встают,*
*как кресты,*
*Гнезд по крышам не вьют*
*аисты.*

***Владимир ВЫСОЦКИЙ***
***"Аисты"***

Ясный,
праздничный день.
В небе
безоблачном
плавится обручем
солнечным
огненный шар.
Ослепляя,
заливает толпы,
к площади идущие
на праздник
весны и труда...
Но
разве не ощутили
вы тогда
тяжести
радиоактивного зноя?
Не почувствовали
сетей
смертельной
опасности

для себя и детей?
Южный ветер
не принес
прохлады,
и солнечный день
без
весенней легкости
и свежести
навалился
на голову и грудь,
камнем
придавил
к земле.
Головы посыпал
пеплом,
изобретением
смерти,
с чистого неба.



*Мал. Наташы ГІДЛЕЎСКАЙ, г.Мінск*

## ГЛАС ЗЕМЛИ

***Эпиграф***

*Когда в ночи сомкнулся*
*Божий глаз*
*И стала вдруг темна вода*
*во облацех,*
*Обнявшись, прилегли они*
*почить.*
*Но не змея заставила*
*вскочить —*
*в людской пустыне*
*Вопиющий*
*Глас.*

**Валерий ГРИЩАНОВИЧ**
**"Стронций в капле росы"**

Чернобыль
горькою
полынью
разъедает
сердце и душу,
сбрасывая
ядовитые стоки
в чистую плоть
моих рек,
отравляя воздух
радиацией,
заражая
легкие лесов.
Ты — человек,
допустивший это,
ты
разом со мною
и род свой
губишь,

Убивая меня,
умираешь
сам.
Не дай мне
сорваться
с Древа Жизни
в Пустоту Преисподней,
в Тень Бездны.
На глазах безучастной
Вселенной
попаду в западню.
Вырвусь белой голубкой
из плена
и, крича, запою.
Буду петь я в Космическом Хоре
в память Людей.
Петь —
о взорванном атомом взоре
Ясноликих Детей.
И Земля...
станет
могилой
мечтам и надеждам,
осколком былой катастрофы,
пылинкой в космосе,
травинкой в вечности,
секундой в огне
памяти
последнего дня...



# ТРЕВОГА, НЕ ЗАТИХАЮЩАЯ НИ НА МИНУТУ

***Эпиграф***

*Спасите наши души!*
*Мы бредим от удушья.*
*Спасите наши души!*
*Спешите к нам.*
*Услышьте нас на суше,*
*Наш SOS все глуше,*
*глуше,*
*И ужас режет души*
*Напополам.*

***Владимир ВЫСОЦКИЙ***
***"SOS"***

Не буду
бить на жалость
И плакаться
в жилетку,
что взрыв тот
поломал мне жизнь,
что боль мешает
жить,
что бьется пульс
в висках,
сжимает
горло,
и кошки на душе
скребут,
и страх
в глазах.
И, глядя телепередачу,
иногда
хоть немного
пожалею я себя —
но про себя.
Я не скажу,

что ничего
не помню,
не знаю
и не понимаю.
Не скажу,
что вижу все
насквозь.
И смерть кошмарную
пророчить
я не стану.
Не берусь.
Я думаю о тех,
кто ближе
к эпицентру
рока.
Их жизнь
заключена
в среду
вселенского
порока.
Их жизнь
в затоке
ежедневной
опасности
и отчужденья.
В глазах их
безысходность
ожиданья.
За них
тревога
крадется в душу
морозным страхом.
Ах,
в молчаньи
крик
о помощи
ловлю.

И про себя
клянусь:
“Я помогу.
Я помогу!..”

На глазах безучастной
        Вселенной
            попаду в западню.
Вырвусь белой голубкой
                        из плена
и, крича, запою.
Буду петь я в Космическом Хоре
в память Людей.
Петь —
о взорванном атомом взоре
Ясноликих Детей.

## ИСЦЕЛЕНИЕ

*Эпиграф*

*Наступает момент,*
*когда каждый из нас*
*у последней черты*
*вспоминает о Боге.*

*Игорь ТАЛЬКОВ*
*“Чистые пруды”*

Давайте же
        помнить,
чтобы не повторять:
Люди!
нам надо
сохранять,
беречь и жалеть
каждую
        букашку,
                зверюшку,
любое маленькое
на Земле
        существо.

Чтобы
ни одна
травинка
не дрожала
на Земле
от боли.
Исцеление света
начинаем
с рассвета
первородного
дня,
с исцеленья себя.

Чтобы вечно
нам жить,
надо
Землю
любить
человеку — неистово...
неистово...
безо всяких оков.
Надо
Землю
любить
во веки
веков!



# Дзеткі-сведкі

*Чытаючы сачыненні школьнікаў, я зведаў дзіўнае і нечаканае пачуццё: загаварыла нямая раней і пакутуючая на вачах у свету зямля.*

*Раней я сам гаварыў ад яе імя і ў яе абарону. Цяпер да майго голасу далучыліся іншыя; мне пашчасціла атрымаць такую чынную падмогу! Галасы загучалі самастойна, яны загучалі мацней за мой голас, і гэта радавала: зямля, сама зямля аказалася здольнай усвядоміць тое, што мы, яе радзецелі, намагаліся ўсвядоміць на працягу амаль дзесяці гадоў і яшчэ — усяго веку.*

*Каб мае словы былі больш зразуметымі, патлумачу. У 1986-м, пасля аварыі, і ў 1987-89 гадах я нямала валэндаўся па забруджаных радыяцыяй раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей, ужываў, як правіла, мясцовыя прадукты, начаваў у вёсках, дзе фон дасягаў за 40 і нават 140 кюры на квадратны кіламетр. Я збіраў і даследаваў сякую-такую статыстыку захворванняў, уважліва прыслухоўваўся, пра што гавораць людзі, асабліва пільна ўглядаўся ў твары дзяцей — малечы, якая яшчэ сядзела ў калясках і якая ўжо бегала ў школу.*

*Дык от якраз гэтая малеча і загаварыла цяпер збалелым, памяркоўным і мудрым голасам.*

*Яна ўжо ўсведамляла сябе і сваю Бацькаўшчыну, яна трывожылася за будучыню ды пакутавала, нітуючы з лёсам зямлі і свой лёс.*

*Сачыненні напісаны сапраўднымі грамадзянамі і патрыётамі.*

*І другі бок гэтай з'явы.*

*Нездарма кажуць: "Устами младенца глаголет истина". Творы аўтараў нашага зборніка выяўляюць сваю дакументаль-*

*ную аснову ды, па сутнасці, і з'яўляюцца дакументамі, бо ў іх — яскрава засведчаныя пачуцці і думкі ўдзельнікаў і сведкаў падзей. Напэўна ж, у гэтым іх найзначная сіла і вартасць.*

*Нарэшце, трэцяе, што мне прыпадае зазначыць. Амаль праз усе сачыненні чырвонай ніткай праходзяць пытанні: "Хто ж вінаваты ў глабальнай трагедыі? З-за каго мы, дзеці, і не толькі дзеці, пакутуем?" Яны, юныя аўтары, інтуітыўна адчулі небяспеку з боку грамадства, у якім творыцца ліха, пагаршаецца ў люду здароўе, жыццё і ніхто за свае грахі не адказвае. А гэта ж перадумова для новых бедаў, няшчасцяў.*

*Іменна з гэтай прычыны мне, рэдактару зборніка, хочацца нагадаць напрыканцы такіх неардынарных твораў ліст, складзены мною ў 1989 годзе. Ён пасланы тагачасным вяршыцелям правасуддзя. Я не закранаў у ім прычыны самой аварыі, я спыніўся на маральна-прававых, сацыяльных і, калі хочаце, медыцынскіх праблемах, што выявіліся ў нас на Беларусі, а таксама ў памежжы адразу пасля чарнобыльскага выбуху. Ліст актуальны, але ж па ім і да гэтага часу яшчэ не закончана следства, хоць фармальна яно нібыта і згорнута. Пракуратура наважылася замяць справу. Толькі следчы, які доўгі час збіраў і перакладваў паперы па чарнобыльскай справе, раптам стаў марудзіць з заключэннем; гэта выявілася акурат у той момант, калі да ўлады прыйшоў прэзідэнт Лукашэнка.*

*Мой адкрыты ліст да пракурорскай наменклатурнай свядомасці быў падмацаваны і падтрыманы тагачаснымі народнымі дэпутатамі СССР, сярод якіх было шмат вядомых людзей, такіх, як акадэмік А.Сахараў, пісьменнікі В.Быкаў, Ч.Айтматаў, А.Адамовіч, В.Бялоў, В.Распуцін, Ул. Яварыўскі, Я.Петарс, Ю.Чарнічэнка...*

*Прывяду ўсяго некалькі прыкладаў з актаў злачыннасці з боку партыйных і дзяржаўных чыноўнікаў, за што яны, гэтыя чыноўнікі, на мой погляд, павінны б панесці кару. Дык вось:*

> ***Засакрэчванне на працягу трох гадоў сапраўднага становішча ў зоне паражэння, а гэта значыць і пагрозы насельніцтву ад радыяцыйнага апрамянення.***

*Засакрэчванне медыцынскай дыягностыкі і, як вынік, рэгламентаваныя загадам Міністэрства аховы здароўя (Масква) скажэнні ў дыягностыцы і лячэнні хвароб, калі замест прамянёвай хваробы пісалася сардэчна-сасудзістая дыстанія.*



*Ілжывыя публічныя запэўненні асобных вучоных і партыйных дзеячаў у тым, што на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях насельніцтву нішто не пагражае. (У Балгарыі, дарэчы, за падобную прапаганду адзін бос ад навукі асуджаны судом).*

*Будаўніцтва новых пасёлкаў на забруджаных тэрыторыях і перасяленне туды пацярпелага люду. Канкрэтызуем пытанне: па чыёй злой волі пабудаваны пасёлкі ў вёсках Вялікі Бор Хойніцкага і Карма Добрушскага раёнаў, скажам, калі Міністэрства аховы здароўя рэспублікі працівілася гэтаму, пра што сведчаць дакументы? Хто і дзеля чаго будаваў новыя катэджы ў Стралічаве, школы і жывёлагадоўчыя комплексы на землях, дзе сіла выпраменьванняў дасягае 40 кюры на квадратны кіламетр і больш?..*

*Выкарыстанне забруджанага мяса шляхам дабавак яго ў чыстыя мясныя прадукты. Выкарыстанне забруджаных стронцыем касцей і забруджанага цэзіем мяса на мясакосную муку.*

*Дзейнасць або, дакладней, халатная бяздзейнасць службовых асоб, што дазволіла радыенуклідам распаўзацца па ўсёй зямлі нашай Бацькаўшчыны. Гэты ж працэс без усялякіх перашкод адбываецца і цяпер — беспакаранасць адных чыноўнікаў вядзе да той жа падсуднай чыннасці іншых, з якімі мы маем справу сёння.*

*Ідэя крымінальнага росшуку і прыцягнення да суда злачынцаў гатова была зачахнуць, бо яе ніхто больш не жывіў, не падмацоўваў сваім патрабаваннем. Наадварот, былі сілы, якія працавалі ў адваротным кірунку. І следчы аказаўся флюгерам з флюгераў, як і многія там. Аднак цяпер, мне думаецца, можна ўздыхнуць з палёгкай. Цяпер я атрымаў маральную падтрымку, адкуль, шчыра кажучы, і не чакаў. То дзякуй табе, юная змена!*

*Дзеці нашы — наша сіла і моц, асабліва, калі глядзець у перспектыву.*

*Уражваюць сталасць думак і вастрыня пачуццяў, навізна іх светаўспрымання. Уражваюць і радуюць глыбіня раскрыцця імі чарнобыльскай трагедыі, адоранасць і талент, непасрэднасць і шчырасць, з якімі яны ідуць у жыццё. Абнадзейвае чысціня душ, высакароднасць памкненняў. Так і хочацца ўсклікнуць: “Браткі беларусы, глядзіце, хто прыйшоў!”*

*Не, з такімі дзецьмі наша Айчына яшчэ мае шанцы пазмагацца з чорнай навалай і перамагчы яе! І будзе нам радасць. І будзе гонар. Бацькі ж мы... А як вядома, без кораня ж і палын не расце.*

*Адно, братове, ці ўсё мы зрабілі для нашых дзяцей?*

## ЗМЕСТ

*У кнізе выкарыстаны фота Ул. БЛІНОВА, В. БЫСАВА, В. ЗЯНЬКО, В. ІГНАТОВІЧА, А. КЛЕШЧУКА, М. МЕЛЬНІКАВА, В. САЎРАНА. На 2-ой і 3-яй стар. вокладкі — малюнкі Лілі САЛАВЕЙ і Валодзі ПАКАЦІЛАВА*

Літаратурна-мастацкае выданне

**СЛЕД ЧОРНАГА ВЕТРУ**
Вачыма дзяцей

**Рэдактар-складальнік Якавенка Васіль Цімафеевіч**

Адказная за выпуск **А.М. Мімрык**
Мастак **П.Я. Кухта**

Падпісана да друку 14.03.1995 г. Фармат 84х108 1/32. Папера афсетная N1. Гарнітура свіс. Афсетны друк. Ум.друк.арк. 17,64. Тыраж 30000 экз. Заказ 391.

Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз "Чарнобыль". Ліцэнзія ЛВ N581. 220048, Мінск, вул. Мяснікова, 39.

Надрукавана з арыгінал-макету заказчыка ў друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

